## ШЧАСЦЯ ТАБЕ, ДОМ!
(Блакнот Чарнобыльскай бяды)

1

Скалясіў я Палессе ўсцяж і ўпоперак, зайздросціў сам сабе, што меў і маю магчымасць бачыць гэтыя маляўнічыя мясціны, хадзіць па зямлі гасцінных палешукоў, пагаварыць з імі ля прызбы аб жыцці-быцці. Гаваркія яны людзі. Пра палітыку дык пра палітыку, пра хлеб надзённы — дык пра хлеб, а калі пад руку пад вернецца трапны жарт — сыпануць і ім, бы некалі жменяй з сяўні. Ён, той жарт, што соль да куселя хлеба. Смачна! І плыве смех. Ціхі, стрыманы, у рамках жарту, як плывуць між беражкоў спакойныя рачулкі, горнуць ваду-вадзіцу ў Прыпяць, у Сож, Дняпро...

Даўно заўважыў: нетаропкія, памяркоўныя тут людзі, нават у хадзе іхняй адчуваецца прыстойнасць, разважлівасць. Бульбу садзяць — не спяшаюцца, робяць сваю прывычную справу падзейна, каб бульбінка ад бульбінкі на адной адлегласці, звычайна нага тут мерка: за кончыўся след – кладзі, памылкі не выйдзе, вырасце і куст, і пад кустом. Сяўбу распачынаюць — свята, у поле пават старыя выйдуць падзівіцца, як зярняткі кладуцца ў глебу. А калі зажынкі, то хлеба пакаштуюць з новага ўраджаю — усе разам, дарослыя і дзеці. Паківаюць згодна галовамі: добры на смак — вось гэта цуд! Мо таму даўно і дастатак у іх, палешукоў, бо калі бяруцца за што, то ведаюць, дзеля чаго, не мітусяцца. Такая спакойная жыццёвая плынь у людзей, відаць, ад асяроддзя, у якім жывуць і дбаюць. Ад зямлі тутняй, ад дрэў. Ва ўсім адчуваецца нешта моцнае, не на дзеньдругі — на вякі. І калі звалілася на людзей Чарнобыльская бяда — ды і хіба ж толькі на людзей адных? — не хацелася верыць.

Перад вачыма, як помнік мудрасці, чысціні, гасціннасці на Белай Русі,— вечнае Палессе...

2

Бяда падкралася нечакана. Грымнула — як усё роўна навальніца сярод зімы. Людзі не адразу і паверылі, і цяжка было зрабіць ім гэта, а яшчэ цяжэй — асэнсаваць усё, што адбывалася. Бо як жа так: вунь, паглядзіце, радуюць вочы зелянінай азімыя, яны добра перанеслі маразы, хлебаробы зусім нядаўна іх падкармілі. Толькі б цягнуцца ўгору — расці. На суседнім полі сагравае зямля зярняткі: яравыя не праклюнуліся яшчэ з зямлі, чакаюць свайго часу. Пасаджана бульба. З гонарам за калектыў кіраўнікі саўгаса «Прыпяцкі» Нараўлянскага раёна даклалі па інстанцыі аб выкананні

квартальнага плана продажу дзяржаве малака і мяса. Складваліся планы на заўтрашні дзень, ён бачыўся такім жа цёплым, сонечным. Заўтра-паслязаўтра — не паспееш аглянуцца! — май месяц, калі чырванее зямля ад сцягоў і неба свеціцца іскрынкамі салютаў, калі яблыні ў садах завязваюць белыя хусцінкі... І раптам... Яна ж, атамная,— побач. Суседзі.

З расказу дырэктара саўгаса Яўгена Пятровіча Высоцкага:

— Ледзь толькі паступіла першае паведамленне аб аварыі, члены парткома, дырэкцыя саўгаса, кіраўнікі аддзяленняў пайшлі да людзей. Разумелі сітуацыю. Яна аказалася экстрэмальнай, і тут важна было шчыра пагаварыць з людзьмі, сказаць ім усё, як ёсць. Але ж ці ўсе зразумеюць? Пабойваліся, чаго там гаварыць. Панікёраў. Як у ваду глядзелі — знайшліся і яны, тут мы не памыліліся. Галоўнае, каб не трапілі пад іх уплыў іншыя, а то адзін-два чалавекі могуць усё сапсаваць. Не, скажу прама: не паддаліся, амаль усе вытрымалі праверку на грамадзянскую сталасць. Аварыя — быццам той пажар, яна высвеціла, хто чаго варты. Нават тыя людзі, на якіх я коса іншы раз і глядзеў, было, хлусіць не буду, таму што не заўсёды яны лезлі наперад, больш у цяньку трымаліся, гаварылі мне пры сустрэчы: «Пятровіч, нам можаш не расказваць нічога, і так усё ведаем... Ну, дык калі там скацінку грузіць будзем на машыны, ці як яе?.. Ды мы, дай толькі ўзяцца,— го-о!» Цяплела тады ў мяне па душы. Вось яны, значыць, якія, ціхуны гэтыя. А што пра тых, хто на сходах іншы раз сябе ляпаў у грудзі, іншых заклікаў наперад, такім ужо анёлам выстаўляў сябе... дык, можа, я памаўчу лепш? Хоць не, скажу... Скажу... Палахліўцам паказаў сябе наш галоўны інжынер Васільеў. У адчай кінуўся і загадчык фермы Дравіла. Замест таго каб паказваць прыклад людзям, яны, мякка кажучы, здрэйфілі. Такіх любы напільнік возьме. Шаркні пару разоў — і ўсё, пераламаліся. І хто б падумаў? Во калі людская годнасць правяраецца...

А там нам і сігнал падалі: пара, браткі, пара знімацца. Эвакуацыя, значыць. Ведаем, цяжка пакідаць абжыты кут, але трэба, нічога не паробіш. У дзве гадзіны ночы сабраліся члены парткома, выканкома Даўлядоўскага сельскага Савета, кіраўніцтва гаспадаркі. Вы б пабачылі, якія твары былі ў людзей! Засяроджаныя, сур'ёзныя. Што і гаварыць — цяжка... Да васьмі гадзін раніцы падрыхтоўчыя работы былі закончаны. Пастаянна атрымлівалі дапамогу райкома партыі, ён стаў штабам па эвакуацыі. Што, як, куды — на ўсе пытанні паступалі дакладныя, па-вайсковаму кароткія ўказанні. Наш саўгас эвакуіраваўся ў сем гаспадарак раёна. Трэба было перасяліць каля дзвюх тысяч чалавек, сямі тысяч галоў жывёлы, з іх тры тысячы

грамадскай. Падбягае да мяне Атаманенка, ён у Хатках фермай запраўляе, малайчына, нічога не скажу, падбягае і за рукаў тузель, значыць: «Пятровіч, га, Пятровіч? Вы паслухайце... Што мы будзем на машыны ды з машын скаціну?.. Давайце сваім ходам перагонім? Людзі вунь у вайну за Волгу пераганялі, а тут жа — свой раён». Усю ферму так ён сваім ходам і эвакуіраваў, ніводнай жывёліны не згубіў, захаваў і прадуктыўнасць статка. Арганізавана пераправілі статак і з фермы Хутар-Лес. Іван Дзмітрыевіч Сяржан там. І прозвішча самае што ні ёсць камандзірскае мае, літару «т» дабавіць застаецца. «Не падвядзём! — крычыць, запэўнівае.—У мяне ж сям'я ўся тут, няўжо падкачаем? Не можа быць, каб сямейны карабель трэшчыну даў!» Усміхаюся яму ў адказ: малайчына, Ваня. Гледзячы на людзей, кожнага хацелася называць толькі так — Ваня, Пеця, Коля, Валянцінка... А чаму, цікава, толькі тады? Вось ужо гэтая чортава субардынацыя нам далася ў знакі! Ну, а як без яе пражывеш, скажыце вот? Не будзеш жа ванькаць ды пецькаць, абнімацца ўвесь час не трэба, тут правільна, разлічана. Галава — не гняздо, месца не хопіць, калі ўсе сядуць. Гэта я так, жартуючы... Калі ж і пажартаваць хочацца. Адхіліўся, прабачце, убок. Дык вось, што датычыць сям'і Івана Дзмітрыевіча, дык у яго яна сапраўды да фермы прывязана, толькі не ніткай, а моцнай вяроўчынай, і вузел марскі. Завязаны дык завязаны! Жонка, Марыя, даяркай робіць. Юрка, сын,—даяром. Хлопец, а, бач, да малака бліжэй... Такса-а-ма! І дзве пляменніцы, Тоня і Валя, дояць. Куды б ужо гуртаваць, здавалася б, але бяда згуртавала яшчэ больш сям'ю. Я сказаў, сям'ю? Тактак, Сяржанаў меў на ўвазе. Але ж у часе бяды, крытычнай, можна сказаць, сітуацыі, на свае вочы ўбачыў, што ўсе мы — сям'я. Адна, моцная. І нават прозвішча можна даць усім людзям адно. Якое? Вось тут падумаць трэба. Ну, хоць бы такое — Малайцовы. Га? Малайцы ў нас людзі. З імі нічога не страшна. Адступіць любая бяда. Я тут маю на ўвазе Марыю Валодзька, Марыю Сідарэнка... Можна, я ўсіх назаву? Далей: Люда Прышчэп, Пятро Старажэнка, Валодзя Казак, Люба Прышчэп, Маль віна Іжакоўская, Вячаслаў Краўчанка, Ваня Глушэц, Ваня Рагавец... Во, сказаў, усіх пералічу, а паспрабуй назаві... Гэта ж колькі часу трэба? Паўдня.

Цэнтр саўгаса размясціўся ў Галоўшчыцах. На новым месцы адразу ж адбыўся адкрыты партыйны сход. Камуністы і беспартыйныя, кожны, каму было што сказаць, узнімаўся, выказваў свае думкі. Людзі гаварылі словы ўдзячнасці мясцовым жыхарам. За клопат, за гасціннасць. Пакуль «прыпятчане» перасяліліся, тыя падрыхтавалі для жывёлы кашары, наладзілі даільныя ўстаноўкі,

выдзеліла пашу. Пенсіянерка Мальвіна Нестараўна Траўнічак адной з першых адчыніла дзверы сваёй хаты, сардэчна запрасіла:

— Заходзьце, людзі добрыя. Заходзьце, колькі зможа размясціцца ў маёй хатцы людзей — усіх прыму, месца хопіць. І на стале не пуста. Не той час сёння. Пражывём-пракормімся.

Дырэктарскі хлеб вядомы. Ад цямна да цямна на нагах, а што ж гаварыць пра тыя першыя дні, калі абжываліся людзі, прывыкалі да жыцця і працы на новым месцы! Ці спаў? Ажно кругі пад вачыма пазначыліся. Хапіла ўсім ліха, а яму — удвая больш. За людзей хваляваўся, хацелася ж, каб хутчэй яны забыліся на бяду. Стараўся знайсці для іх цёплае слова, і людзі сваё не хавалі, выкладвалі дырэктару: бачым, супакойваеш нас, Пятровіч, то і мы цябе можам, паслухай. Ехаў Яўген Пятровіч на тую ж кашару, а сэрца шчымела: як там, ці добрую навіну пачуе? А ўбачыць, як стараюцца людзі, а то і ўсмешку сустрэне — і быццам гара з плеч.

Марыя Валодзька насустрач бяжыць, ледзь не за руку цягне:

– Ой, Пятровіч! Ой, радасць якая! Цялятка паявілася...

Дырэктар святлее тварам, адказвае:

— Пойдзем глянем. А ты, Марыя, заўваж: паявілася яно на новым месцы. Пра што гэта ўсё гаворыць?

Даярка паціскае плечуком, зацікаўлена глядзіць на Яўгена Пятровіча.

— Вось-вось... Пускаем мы тут свае карані. А нараджэнне — святая справа. І дзеці ў метрыках запішуць новыя вёскі. Нічога, свае мы таксама не забудзем. А пройдзе час — вернемся, зноў удыхнём у іх сваё цяпло. Вось так, Марыя,— дырэктар кранаецца пляча жанчыны.— Вось так. Ну, а цябе з папаўненнем...

— Дзякуй, Пятровіч,— свецяцца радасцю вочы Марыі.

Разыходзяцца. Марыя, узяўшы ў рукі даільны апарат, спяшаецца да кароў, дырэктар сядае ў машыну; чакаюць і ў Грушаўцы яго жывёлаводы. Не паспеў гыркнуць маторам, з'яўляецца Сяргей Сяржан, расхрыстаны, усхваляваны — амаль што подбрыкам бег, каб паспець.

— Падвязіце, Пятровіч!

— Сядай!

У машыне аддыхаўся, гаворыць:

— Магнітафон трэба купіць. Буду каровам музыку круціць! — І смяецца.

— Давай, давай, Сярожа,— падтрымаў настрой Сяржана дырэктар.— Толькі ці будуць яны больш малака, цікава, ад тваёй музыкі даваць?

— Будуць, будуць, Пятровіч! Гарантыя!

— Упэўнены? А я вось чытаў у кнізе такую штукенцыю. Паслухай. Прыехаў новы загадчык фермы — малады спецыяліст. Пасля інстытута. Чалавек начытаны і сучасны. І ў барацьбе за высокія надоі рашыў адмахнуцца ад дапатопных дзедаўскіх метадаў, а ўкараняць метады глыбока навуковыя. Вычытаў недзе ў часопісе, што лепш за ўсяго павышае надоі эстэтыка вытворчасці. Тэрмінова пафарбаваў сцены. Пад столь падвялі лямпачкі дзённага асвятлення. Паміж стойламі паклалі дывановыя дарожкі. Прыгожа. Ходзяць каровы, як у тэатры, аднак малака даюць мала. Тады ён бярэ другі часопіс, вычытвае там, што лепш за ўсё павышаюць надоі дэкаратыўныя расліны. І неўзабаве з'явіліся на ферме кактусы і пальмы. Са столі традысканцыі звісаюць. Па вуглах японскую ікэбану з галінак зрабілі. Аднак зноў мала малака даюць каровы. Тады ён вырашае радыёфікаваць ферму. Ні аднаго сімфанічнага канцэрта не прапускалі каровы. Раяль купілі. Даярак адправілі на паскораны курс музычнага вучылішча. Ды плюс да ўсяго заезджыя музыканты па два канцэрты давалі: адзін — у клубе, другі — на ферме. Толькі зноў малака каровы мала давалі. І тады малады спецыяліст вырашыў вярнуцца да дзедаўскіх метадаў... Наваліў поўныя кармушкі сена, камбікорму насыпаў. Павесялелі каровы, задумлівасць з вачэй знікла. Ядуць сабе сена ды радуюцца. І надоі адразу падняліся... Га?

Сяргей маўчыць, а потым кажа:

— Не, Пятровіч, а музыку я ўсё роўна куплю!

«Сяргей, Сяргей... Пабольш бы нам такіх, як ты»,— думаў па дарозе дырэктар, а сам прыгадаў ранейшую паездку на кашару. Яўген Пятровіч быў тады не адзін — з сакратаром партыйнай арганізацыі Іванам Фамічом Сачанком. Падыходзіць Сяргей, з нагі на нагу пераміналецца, сказаць нешта хоча, а не адважыцца.

— Просьба да вас, Іван Фаміч,— нарэшце вымаўляе.— Як вы паглядзіце на гэта?

— Слухаю, Сярожа.

— У партыю хачу ўступіць. Вось.— Ён працягнуў невялічкі аркуш паперы, на якім былі выведзены цвёрдым почыркам словы: «У пярвічную партыйную арганізацыю саўгаса «Прыпяцкі»... Заява... У гэты нялёгкі для нас час, звязаны з ліквідацыяй вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, калі правяраецца грамадзянская і палітычная сталасць кожнага савецкага чалавека, хачу быць у радах Камуністычнай партыі, баявым авангардзе нашага народа».

Сяргей адслужыў у арміі, працаваў у саўгасе механізатарам, а цяпер часова перайшоў у жывёлагадоўлю.

— Малайчына. Хвалю,— паціснуў руку Сяргею сакратар.— Дам і я табе рэкамендацыю. Не супраць?

Машына бяжыць далей. Дарога пыхкае пылам, але колы абганяюць яго, і пыл зноў асядае на зямлю. Яўген Пятровіч думаў пра людзей, прыгажосць якіх раскрылася, як ніколі раней, у складаных умовах.

— Імчы, імчы, бабулька! — налягае на руль дырэктар, быццам памагаючы машыне, і смяецца чыстым, звонкім голасам.

Бываюць у жыцці мінуты, калі забываецца любы боль.

3

Ігнаценкі збіраліся садзіць бульбу. Раніца выдалася па-вясноваму ціхая, цёплая. Над Спярыжжам вісела сонца, скупыя промні яго ляжалі на абуджанай зямлі, на галінках дрэў. Іван Тарасавіч прывёў да хаты каня, раздабыў плужок. Але абяцаўся прыехаць Васіль, трэба пачакаць. Затрымліваецца толькі вось нешта. Учора, відаць, не змог пасля службы, а сёння стаіць мо на абочыне, спыняе спадарожную. Не кожны стане. Ды і дзень такі — выхадны, не дужа багата і машын тых бегае на Брагін.

Іван Тарасавіч сядзеў на лаўцы, паглядаў у бок дарогі — няма сына, не ідзе. А Васіль за плужком любіць пахадзіць, барозны кладзе — залюбуешся. Вырас жа на зямлі, хоць і ў горадзе сёння, у Прыпяці жыве, але ад яе не адарваўся: як толькі вольная хвіліна надарыцца, адразу ж спяшаецца да бацькоў. Корпаецца тады на гародчыку, вясёлы, шчаслівы. Басанож ходзіць, толькі басанож. «Калі зямлю нагамі адчуваеш — зарад бадзёрасці надоўга атрымліваеш, ды і ніякі грып не возьме»,— гаварыў, усміхаючыся. Вось так, і не прымусіш усцягнуць абутак, знойдзе, што сказаць. Там жа, у горадзе атамшчыкаў, працавала кандытарам ягоная жонка — Люся. Прыедзе ў вёску, Таццяну Пятроўну ад печы падалей, сама завіхаецца. «Давай я, мамачка. Адпачні».

Бульбу пасадзілі без Васіля, селі за стол, і тут і сусед заглянуў, з трывогай у голасе сказаў:

— Ноччу на АЭС пажар быў...

Ён збіраўся да бацькоў, звечара купіў тоесёе ў харчовым магазіне — не прывык з голымі рукамі наведвацца на родны поплаў. Уяўляў, як пойдзе за плугам, з-пад лемеха будзе адгортвацца лустай зямля, класціся ў баразну, хаваючы пад сабой бульбу. Да канца дзяжурства заставалася тры гадзіны, калі прагучаў сігнал трывогі. Натрэніравана, хутка асабовы састаў заняў месцы ў машынах, і тыя, разразаючы начную цішыню сірэнамі, паімчалі на месца здарэння.

Полымя шугала ўгору іскрамі, асвятляла станцыю. Ні хвіліны не раздумваючы, баявы разлік, у саставе якога было спярша 28 чалавек, прыступіў да тушэння пажару. Старшы сяржант Васіль Ігнаценка першым узабраўся на 70-метровую вышыню, моцна сціскаючы ствол пажарнага рукава. Глянуў уніз — не адстаюць хлопцы, малайцы. Крыкнуў: «Адразайце агонь з боку трэцяга блока!» А сам падступаўся бліжэй да полымя...

Пасля таварышы ўспомняць, як Васіль Ігнаценка паспяваў усюды. У пастцы аказаўся сяржант Уладзімір Цішура, абклала яго з усіх бакоў полымем, яму хутка не будзе чым дыхаць: дым. Ігнаценка адбіў у стыхіі таварыша. Успомняць, як вынес з агню страціўшых прытомнасць старшага сяржанта Мікалая Ціценку і сяржанта Мікалая Вашчука. Успомняць... І на пачах выкругляцца слёзы: шкада Васіля, такі чалавек быў. Волат з душой дзіцяці.

З расказаў Івана Тарасавіча Ігнаценкі:

— Ён рос добрым хлопчыкам. Паслухмяны быў, падатлівы. Жыццё любіў. Пасля школы, Іліцкую дзесяцігодку Вася скончыў, кажа мне: «На электрыка паеду, тата, вучыцца». Едзь, адказваю, табе самому сцяжынку ў жыцці выбіраць. Хоць недзе ў душы і думаў я, што па маёй лініі пойдзе. На трактары будзе рабіць ці машыне, бо заўсёды да руля падбіраўся: «Дай праехаць, тата». У Гомелі вучыўся, прафтэхвучылішча восемдзесят адзін. А тады яго ў Бабруйск накіравалі пры размеркаванні. Мала папрацаваў там — забралі ў армію служыць, у самую Маскву трапіў, у вайсковыя пажарнікі. Калі дэмабілізаваўся, то панавёз і значкоў, і падзяк — усяго, у нас ажно вочы разбегліся, гледзячы на ягоны салдацкі скарб. Суседзі прыйшлі, таксама разглядалі, хвалілі. Спытаўся тады ж у Васіля: ну, дзе працаваць думаеш, сынок? Мо ў калгасе? А ён і кажа: «Не, тата, у Чарнобыль паеду. З часці напісаў: ці патрэбны вам пажарныя? Адказалі: прыедзь, на месцы пагаворым». Я тады, прызнацца, сказаў яму: «Ну і што ж гэта за работа такая? Круглыя суткі спаць трэба». Калі ж у нас пра пажарных заўсягды так баяць... Лайдакі, маўляў... А яно, бачыце, як... Ён і з Чарнобыля прывозіў медалі на чырвоных стужках. Майстрам спорту стаў, быў капітапам каманды, гаварыў, што чэмпіён Украіны і вобласці па пажарна-прыкладным відзе — так, здаецца, правільна? У зборную рэспублікі таксама ўваходзіў. Пацікавіўся неяк, пытаю: «І што вы на тых спаборніцтвах робіце?» А ён ні слова, ні паўслова, а як усхопіцца, бы вецер, з месца ды як сігане цераз варотцы, што вялі на агарод, а яны ж каля двух метраў у вышыню будуць. І гэтага яму мала — па лесвіцы, без дапамогі рук, узабраўся на гарышча, адтуль на вільчак і скок сабе на зямлю. Я

нават не паспеў ачомацца, як ён усё гэта прарабіў. Усміхаюся, ківаю галавой: ну, цяпер я ведаю, як багата спяць пажарныя, давай руку пацісну, сынок.

Як бяда здарылася, я ў Маскву паехаў, у бальніцу, праведаць Васю. Гляджу на яго, а ў вачах поўна слёз, не ўтрымаўся, хоць і не да твару б, здавалася,— мужчына ўсё ж, пытаю: «Ну і як жа ты, сынок, не ўбярог сябе?» Уздыхнуў Вася, ціха сказаў: «Не мог, тата... Пра вас думаў...» І дачка са мной была, Люда, старэйшая. З ёй прафесар Аляксандр Іванавіч Баранаў размаўляў, пакуль я ў сына быў у палаце. Васю трэба была пункцыя касцёвага мозгу... Люда, сама медык, легла на аперацыйны стол... Службовае пасведчанне ён мне аддаў у бальніцы. «Няхай дома,— гаворыць,— пабудзе. Вылечуся — прыеду, забяру». Пра жонку, Люсю, пацікавіўся. Яна дзіця чакала... У Кіеве, гавару, Люся, за яе не хвалюйся. Гэта 28 красавіка было, а трынаццатага мая Васі не стала... Дваццаць пяць гадкоў пражыў... Усяго... А мы пераехалі са Спярыжжа ў Зарэчча, да жончынай сястры — Ганны Пятроўны Протчанка. Яна сама да сына перайшла жыць, а нам усю хату аддала. Часова мы тут. Пазней будзем уладкоўвацца дзе-небудзь на пастаяннае месца жыхарства, ды за работу трэба брацца — пускаць карані. Жыць трэба...

4

Верасень. У школах пачаліся заняткі. Дзеці вярнуліся з піянерскіх лагераў і зон адпачынку, дзе правялі ўсё лета. Многія з іх адразу ехалі па новых адрасах: там чакалі бацькі. А на будаўнічых пляцоўках кіпела праца. Будаўнікі спяшаліся: зімаваць перасяленцы павінны ў новых домах — такую задачу перад імі паставілі партыя і ўрад.

Новыя адрасы. Карта вобласці, якая вісіць у мяне над сталом, пазначана чырвонымі кружочкамі. Буда-Кашалёўскі, Жлобінскі, Рагачоўскі, Гомельскі, Рэчыцкі — амаль усе раёны... І вёскі. Многіх нават няма на карце, я пазначыў іх алоўкам: маленькія, аднесеныя ў неперспектыўныя, яны абудзіліся, занова прачнуліся ад натужнага рову МАЗаў і КРАЗаў, ЗІЛаў і «Калхід» з канструкцыямі і будаўнічымі матэрыяламі.

У абласной камісіі па ліквідацыі вынікаў аварыі і аказанню дапамогі пацярпеўшаму насельніцтву, якую ўзначальвае старшыня аблвыканкома Аляксандр Адамавіч Грахоўскі, даведваюся, што ўзвядзенне жылля для перасяленцаў падзелена на тры чаргі. Першая — да 1 кастрычніка. На гэты час было пабудавана 3976 кватэр. Другая — да 1 снежня. Пабудавана 1700 дамоў. Трэцяя — першае

паўгоддзе 1987 года, належыць здаць 4000 кватэр. Жыллё ўзводзілася і ўзводзіцца па сучасных праектах, дамок — на тры-чатыры пакоі, прасторная кухня, ёсць печ — а як вяскоўцу, скажыце, без яе? — і тут жа кацёл для ацяплення, як прынята гаварыць — для індывідуальнага карыстання. У шэрагу пасёлкаў падведзена ацяпленне ад цэнтральпых кацельняў ці з устаноўкай катла на газавым паліве. Побач з жытлом — прысядзібны ўчастак, хляўчук, склеп.

Цікавая дэталь: будаўнікамі станавіліся людзі самых розных спецыяльнасцей — рабочыя, інжынеры, настаўнікі, кулінары, на месцы асвойвалі новае для сябе рамясло. Вось такі прыклад. У Петрыкаўскім раёне працуе некалькі брыгад, якія скамплектаваны ўсімі трэстамі меліярацыйнай гаспадаркі БССР — Полацкім, Мінскім, Віцебскім, Гродзенскім, а таксама ўпраўленнем Вілія-Мінскага водбуда, Мінскім, Гомельскім, Брэсцкім і Гродзенскім абласнымі ўпраўленнямі воднай гаспадаркі. Побач і прафесіяналы — пухавіцкая ПМК-70, старадарожская ПМК-73, заслаўская ПМК-89. І мясцовая ПМК-13. Гэта ў адным раёне. Не цяжка ўявіць, якія сілы былі кінуты на ўсё Палессе, у іншыя куткі вобласці.

Напісаў гэтыя словы і падумаў: такое магчыма толькі ў нас, у краіне, дзе бяда згуртоўвае людзей, збліжае, родніць, дзе жывуць, народжаныя Кастрычнікам, узаемавыручка, падтрымка, высокі патрыятызм. У маім блакноце пазначаны дзесяткі прозвішчаў людзей, з якімі сустракаўся, размаўляў. Хацелася пачуць у іх голасе нешта высокае, патрыятычнае, а чуў звычайныя, буднія словы. «Да снежня гэтага года трэба здаць заказчыку пяцьдзесят дамоў. Праблемы ёсць, вядома, але мы іх стараемся вырашаць самі, на месцы. Навошта ў бом лішні раз грукаць? Людзей трэба выручаць, а не спасылацца на прычыны...» (Старшы інжынер Міністэрства меліярацыіі БССР Міхаіл Рыгоравіч Цішчанка. Калгас імя Жданава, Петрыкаўскі раён.) «У брыгадзе ўсе добраахвотнікі. Калі фарміравалі калектыў, жадаючых было — ну, ведаеце, і сам не чакаў! Але ж нам трэба было ўсяго дванаццаць чалавек. Сярод іх — дзевяць камуністаў. Людзі ўсе сямейныя, сур'ёзныя. Муляр Фёдар Маркаў, цясляр-бетоншчык Іілтро Радзюк, шафёр Аляксандр Басько, бетоншчык Мікалай Бразгоўка... Жывём далёка ад сваіх сем'яў, але помнім пра тое, што нас чакаюць дома дзеці, жонкі, стараемся не падвесці калектыў, які нам даверыў такое адказнае заданне. Не падвядзём». (Намеснік начальніка пухавіцкай ПМК-70 Мікалай Васільевіч Кавалёў. Вёска Кашэвічы.)

Добры настрой у людзей — і ад таго, што для іншых стараюцца і што сябе правяраюць на трываласць.

Дырэктар Калінкавіцкага завода жалезабетонных вырабаў Аляксандр Рыгоравіч Яскавец вярнуўся ў Петрыкаў стомлены, але калі завязалася ў нас размова пра яго паездкі ў гаспадаркі раёна, дзе ён толькі што пабываў, у вачах з'явіўся бляск.

— А ведаеце, што над маёй галавой вісіць? — усміхнуўся Аляксандр Рыгоравіч.— Не, бачу... Меч не меч, а ўсё ж... Дзве тысячы блокаў павінны даць да дваццатага лістапада. Вось і ўявіце. Не, мы паставім, тут і сумнявацца не трэба. Не верыце, бачу? Вось мой тэлефон, пазваніце пасля дваццатага.— Ён і сапраўды вырваў з запісной кніжкі лісток, папярэдне чыркануўшы на ім ручкай.— Трымайце!

Лісток я ўзяў. Няхай будзе. Спатрэбіцца. А чаму — і пазваню, даведаюся, ці стрымаюць слова заводчыкі.

Пазваніў. Аляксандр Рыгоравіч сыпануў смехам у трубку:

– Х-ха-ха!.. Пра блокі ўспомнілі? Ды яны — даўно забытая песня! Новыя, новыя задачы ў нас...

— Што, таксама — меч над галавой? — пытаю.

— А і трэба, каб вісела нешта. Тады мы па зямлі хадзіць будзем больш шырокім крокам...

Рэдактар Буда-Кашалёўскай раённай газеты «Авангард» Валерый Іванавіч Калінічэнка, мой добры даўні знаёмы, а я ўвогуле паважаю раёншчыкаў, бо некалі і сам аддаў гэтай працы лепшыя свае гады, ведаю, што за хлеб, прыслаў пісьмо, а ў ім выразка з газеты — яшчэ знаёма пахне свежай друкарскай фарбай. «Задуму тваю напісаць пра рэха Чарнобыля зразумеў і ўхваляю, патрэбная справа. Пад'едзь. Адвернемся куды-небудзь. Перасяленцаў у раёне багата. А пакуль паглядзі, што мы тут пішам...» — прачытаў я ў кароценькай, на самакрутку, прыпісцы да пісьма.

З газеты «Авангард»: «У саўгас «Камінтэрн» з небяспечнай зоны, прылягаючай да Чарнобыльскай АЭС, перасяліліся 83 сям'і — з саўгаса «Слабадскі» Брагінскага раёна. Больш як 200 чалавек прыбавілася ў пасёлку Шырокі. Для навасельцаў будаўнікі завяршаюць узвядзенне новага пасёлка. На былой пустэчы праляглі асфальтаваныя стужкі новых вуліц. З'явіліся ў іх і назвы: Пучынская, Брагінская, Слабодская. Названы так у памяць мясцін, з якіх прыехалі перасяленцы. Ёсць яшчэ вуліца Прамбудаўская — даніна павагі людзям, якія ўзводзяць жыллё.

У белакаменных будынках з усімі камунальнымі выгодамі справілі ўжо наваселле трыццаць сем'яў. Па вечарах загараецца

святло і ў вокнах катэджа саўгаснага шафёра В. П. Траццяка. Працуе ён на новым месцы з першага дня, і такое ўражанне, што гэты чалавек жыве даўно тут. Сумленны працаўнік, шчыры чалавек.

Сёння практычна ўсе навасельцы, што перасяліліся ўжо ў свае дамы, забяспечаны палівам. Завезена 100 тон вугалю, 147 — торфу». Дзякую Валерыю Іванавічу за пісьмо, за ўвагу. Абяцаю па тэлефоне пад'ехаць, але крыху пазней — на чарзе ўжо запланаваныя паездкі ў Гомельскі і Рагачоўскі раёны.

Назаўтра зноў выбіраюся ў дарогу.

5

Цэнтральная сядзіба калгаса «Першамайскі» — вёска Макаўе, ад Гомеля блізка. Мой спадарожнік Сяргей Халадзілін, фотакарэспандэнт раённай газеты «Маяк», бываў тут неаднойчы, а я прыехаў упершыню. Вёска як вёска. Дамкі пад новымі дахамі, найбольш шыфернымі, калодзежы, слупы, на якіх вісяць электраправады. Вуліцы разбіты коламі грузавікоў, здратаваны экскаватарамі і гусенічнымі трактарамі. Прайшоўшы крыху па вуліцы, пачулі, як у цішыню яе пачынае ўплятацца мелодыя будоўлі. За вёскай узводзяцца жылыя дамы, чуваць рокат тэхнікі, галасы людзей.

ІІершыя ўражанні ад убачанага прыемныя. Кідаецца ў вочы — усе пры справе, не відаць аматараў частых перакураў, ніхто не бадзяецца ў пошуках «сам не ведаю чаго». Заўважыўшы чужых людзей на аб'екце, падыходзіць чалавек у рабочым адзенні, з кельмай у руцэ, выцірае рукавом лоб, прадстаўляецца: брыгадзір муляраў будаўнічага ўпраўлення № 225 трэста «Мазырнафтахімбуд» Аляксандр Пятровіч Дунаеў.

З расказу брыгадзіра:

— У трэсце я даўно — амаль, лічыце, дваццаць гадоў. Будаўнічы гэта стаж, не кабінетны. Круглы год пад небам. Толькі я не пра гады, а вось пра што скажу. Даводзілася ўзводзіць мне разам з хлопцамі шмат розных аб'ектаў. Былі і складаныя, і тэрміновыя. Ды што там гаварыць —пабачыў многае на сваім вяку, але такіх тэмпаў і такога энтузіязму, з якім працуе брыгада ў Макаўі, не прыпомню. Усе хлопцы працуюць добра, як сталёвыя ўсё роўна. Ні падганяць іх, ні папракаць. Слова не павышаю вось ужо колькі дзён. Што значыць разумеюць...

Мы ж, мазыране, суседзі з Нараўлянскім раёнам, рукой да яго падаць. Там жа — чулі, канечне,— таксама часткова забруджана тэрыторыя, увайшла ў небяспечную зону, а ў некаторых нашых будаўнікоў родныя, блізкія людзі адтуль. Бываў пасля аварыі ў

суседнім раёне і я. Вялікая бяда напаткала людзей, агараць яе павінны разам. Ведаю, як цяжка пакідаць ім абжыты кут. Таму ж вельмі хочацца ўсім нам, каб жыллё, якое будуем, па душы і сэрцы, як кажуць, прыйшлося людзям, каб у нялёгкую для сябе мінуту яны і нас успомнілі добрым словам.

У маёй брыгадзе сем чалавек. Людзі як людзі. Калі трэба — у ляпёшку разаб'юцца, а тое, што задумалі, зробяць. Бачу ж, ды што бачу — і сам адчуваю: стаміліся, але выгляду не паказваюць. За месяц, што тут робім, два дні ўсяго адпачылі: няма калі гулі правіць. Не, не падумайце, што нам выхадных не даюць — бяры, скарыстоўвай, але ж восень на дварэ, пахаладае вось-вось. У нас-то ёсць дзе жыць, а як ім, перасяленцам? Тады ўжо і адпачнём, калі справу да ладу давядзём. Я заікнуўся неяк перад хлопцамі: «Мо адпачнём?», дык і сам быў не рады. Пятровіч, гавораць, дзякуй табе за ўвагу і клопат, але не перашкаджай. У цябе самога з рукі кельму не вырвеш, а навошта нас з тропу збіваеш? Маўчу, больш не прапаноўваю, бо адлятаюць мае словы, як ад сценкі, і па мне ж лупцуюць. З хлопцамі я — як дома, у сям'і. Утульна сярод іх, цёпла. Хораша. Здружыліся — вадой не разальеш. Не адну ж будоўлю прайшлі. З Анатолем Бярнадскім, Віктарам Лявонавым, Аляксеем Камаровічам... Скажы мне сёння: «На табе, Пятровіч, кабінет, тэлефон, уладу — кіруй!» А я адкажу: «Пусціце на аб'ект, да хлопцаў!» Калі мы ўсе ў зборы, адным калектывам — і не стамляешся, і весела, лёгка на сэрцы — бы свята кожны дзень. Вось так, значыць. А працаваць мы пачынаем у восем гадзін, а закругляемся, калі сонца за лес садзіцца, прахалодай пацягвае з нізінкі. Па дванаццаць-трынаццаць гадзін у суткі робім.

Так трэба сёння. Я ж і гавару: вось здадзім аб’екты — адпачнём...

Непадалёк ад Макаўя і Маркавічы, там работнікі Мінскага «Аблсельбуда». У іх яшчэ большы аб'ём работ — сто кватэр. Прыехалі з розных куткоў суседняй вобласці — з Маладзечна, Валожына, Мядзеля, Вілейкі... Зноў чую: «Дрэнна будаваць наогул нельга, а такія аб'екты — тым больш. Мы пакінулі свае сем'і не дзеля прагулкі».

Вось такія яны, будаўнікі, а дакладней сказаць — такія яны, нашы людзі. Простыя, сціплыя, працалюбівыя. Яшчэ б хацелася засяродзіць увагу на наступным штрышку. Тут, у Маркавічах, будаўнікі вырашылі спярша працаваць вахтавым метадам — праз пэўны час адна група павінна змяняць другую. Не атрымалася. Толькі таму не атрымалася, што не знайшлося жадаючых ехаць на адпачынак. Працаваць дык працаваць!

Пабываў я ў Маркавічах і пазней, у лістападзе. Паабяцаў тады прыехаць на першыя наваселлі — і слова стрымаў. Дні ўжо стаялі кароткія, шэрыя. Апошні месяц восені — гэтым усё сказана. Але, гледзячы на шчаслівыя твары людзей, не адчувалася, што з поля дзьме халодны вецярок, апякае шчокі. У вёску прыйшло свята. Тры месяцы назад на ўскрайку Маркавіч была пустка, а цяпер, паглядзіце, якія катэджы і дамы выраслі! Адна-двухпавярховыя! Сучасныя, акуратныя — вочы радуюць. Хлоб-соль прыпаднеслі мясцовыя жыхары працаўнікам калгаса імя Калініна Брагінскага раёна. Ад імя навасёлаў слова ўзяла Алена Канстанціпаўна Шылец, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі БССР, кавалер ордэнаў Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга і «Знак Пашаны». Крыху сумеўшыся пасля дружных воплескаў, а гэта ёй уручыў старшыня Гомельскага райвыканкома Мікалай Рыгоравіч Гушаль сімвалічны ключ ад жылога пасёлка, жанчына сказала:

– Дзякуй усім вам. Вялікі дзякуй. Не магу стрымаць пачуццяў. Радуюся, хвалююся. Хочацца ўсіх, хто ў цяжкую мінуту аказаўся побач з намі, пацярпеўшымі ад аварыі на АЭС, абняць і расцалаваць. Мы мелі магчымасць яшчэ раз пераканацца, што ў нас, у Краіне Саветаў, чалавек чалавеку друг, таварыш і брат. У Маркавічах мы не чужыя людзі — свае. Паспелі ўпэўніцца ў гэтым. Што ж, за намі не стане — адкажам добрай працай на клопат аб нас. Традыцыі калгаса імя Калініна, а яны багатыя традыцыі, будзем дастойна працягваць і памнажаць і ў «Чырвоным сцягу».

Даўно не помніць сельскі Дом культуры столькі людзей. Цяпер у ім будзе часта цесна. У цеснаце, кажуць, не ў крыўдзе. І яшчэ: калі цясней — цяплей. Добра і так і гэтак. Але ўдвая, а мо нават і ўтрая прыемна, што свята навасёлаў стала святам усіх, нават жыхары навакольных вёсак прыйшлі павіншаваць іх. Падыходзілі пасля ўрачыстага сходу людзі, пацiскалі рукі. І не адразу разбярэш, хто тут даўно жыве, хто нядаўна.

Тут жа, на свяце, кааператары, бытавікі. Паспявай лавіць словы:

— Гарнітур гасцінпы!

— Кухонны! Кухонны!..

— Крэсельцы, калі ласка!

— Халадзільнікі, навасёлы, купляйце!

— Паглядзіце, столікі якія цудоўныя! Нашы, мясцовыя!

Людзі і рабілі пакупкі, не адыходзячы далёка. Грошы з сабой, тэхніка пададзена. Машыны толькі паспявалі рабіць рэйсы.

— Хлеб-соль табе, дом! — чулася то там, то тут.

А свята працягвалася. На сцэну выходзілі самадзейныя артысты з Урыцкага, Пакалюбіч, Цагельні. Потым была дыскатэка. Для маладых. Бацькі ж спяшаліся ў свае новыя кватэры — там шмат яшчэ было што зрабіць, а дзеці няхай адпачнуць. Такі дзень. Шчаслівы. Іх дзень, дзяцей, бо доўга стаяць на гэтай удзячнай зямлі дамам і жыць тут — ім!

6.

Вёска Стрэнькі — цэнтральная сядзіба калгаса «Кастрычнік» — блізка ад Рагачова, у якіх трох кіламетрах да першых пабудак раённага цэнтра. Праз яе шэрай стужкай імчыць шаша — на Жлобін, Бабруйск... Аўтамашыны, калёспыя трактары, матацыклы супыну, здаецца, не маюць: снуюць узад-уперад. Не наводшыбе Стрэнькі, вёска гаманлівая, шумная. А новыя дамы, што прынялі ўвосень перасяленцаў з Хойніцкага і Брагінскага раёнаў,— побач, ледзьве не да самага асфальту падбягаюць, і глядзяць-дзівяцца навакол сябе. Белыя, прывабныя, яны адцяснілі на задні план нават самыя прыгожыя хаты, што былі раней у стрэнькаўцаў. І, гледзячы на іх, падумалася вось аб чым: няўтульна, мабыць, навасельцам пакуль што тут, трэба час, каб прывыкнуць да шашы, да яе пульсу, які б'ецца ўдзень і ўначы. Жылі ж раней людзі на ціхім Палессі. Той жа Чамкоў узяць. Згубілася гэтая вёсачка ў глыбінцы, паабапал яе палі ды лес, а дарога звычайная, якая можа весці ў неперспектыўную, забытую вёску: увесну, калі гразна, толькі трактар і выручыць, прывязе людзям хлеб і да хлеба.

Я доўга размаўляў з навасёламі Стрэнек, бачыў слёзы на іх вачах і яшчэ раз зразумеў: хоць і добра тут ім, сустрэлі як сваіх, увагай і цеплынёй не абдзялілі, але нічога не можа замяніць чалавеку тое месца, дзе нарадзіўся, вырас, кахаў, дзе знаёма кожная сцяжынка, а на пагосце спяць блізкія людзі... І хвала чалавеку, на тым і трымаецца наша зямля, што такая вялікая любоў у яго да сваёй малой Радзімы. Жылі б яшчэ доўга такія вёскі, як Чамкоў, Уласы, а людзі і верацъ у іх адраджэнне, няхай і не хуткае, але верацъ, толькі вось бяда сагнала з наседжаных гнёздаў, прывяла на новы парог.

Цяжка і дрэўца перасаджанае прырастае. Што ж пра чалавека тады гаварыць? І ў снах стаяць хаты, бачацца рэчы, якія пакінуты ў іх. Тое, што нажывалася не адзін год, няпроста нажывалася, з мазаля. Недзе ходзяць па двары куры... качкі... скуголяць па сваіх гаспадарах сабакі, цяпер ужо бяздомныя. Іх таксама забаранілі ўзяць. «Нельга». Нельга, зразумела, што нельга, але ж па жывому баліць у жывых душа, усялякае думаецца...

Бяда — страшнае слова, тут у сям'і што здарыцца, то хопіць людзям, колькі здароўя адыме яна. А калі — маштаб, калі многім адразу баліць?..

Рыхтуючыся да сустрэчы з перасяленцамі, я пастараўся ўявіць сябе на іх месцы. Так-так. Прыходжу аднойчы дадому, а мяне сустракаюць перад дзвярыма, катэгарычна, строга ставяць умову: нічога з сабой не браць, у чым стаіш — у тым і ў машыну. Хутчэй! А потым усё ж дазволяць прыхапіць дакументы, партрэты родных — бацькі, маці — як памяць... Дазвольце, а як жа без касцюма, да якога прывык, і іншага мне не трэба, бо, дарагі мне гэты, лёгкі, носкі? А любімыя кнігі? А як жа яшчэ шмат без чаго, што дорага сэрцу, было неад'емнай часцінкай твайго паўсядзённага жыцця? Цяжка нават уявіць усё гэта. Няпроста было ім, пацярпеўшым. Згарэла б у полымі — іншая справа, патужыў бы чалавек, пабедаваў — і змірыўся, а то ж ляжыць перад табой і касцюм, і лыжка, да якой прывык, а забраць нельга. Сіратліва стаіць хата, яе ў торбу не пакладзеш, хоць і дазволілі б узяць. Зразумееш гэтых людзей. Нябачны воку вораг — радыяцыя, старыя і сёння не ўсе навучыліся вымаўляць гэтае слова: «рацыя»,— кажуць.

Не лягчэй пацярпеўшым ад таго, што пакараны віноўнікі аварыі, не намнога цяплей, што на іх уладкаванне патрачаны дзяржавай мільёны. Не лягчэй... А потым я пераканаюся, што яны, як, можа, ніхто іншы, найбольш светлымі вачыма паглядзелі вакол сябе, першымі прымералі кожны крок да трагедыі, якая выявіла нашу абыякавасць, халатнасць, непавагу да той справы, якую робіш. Сёння не той час, калі для многіх жыў вычварны прынцып — «мая хата з краю». Не, яна аказалася ў цэнтры, тая хата. У цэнтры бяды. Бо як ты ўзараў поле і пасеяў, як вытачыў дэталь, ці падумаў, перш чым націснуць на кнопку або перавесці на чыгунцы стрэлку — усё гэта той ланцужок, які з-за аднаго чалавека можа парвацца. А калі ён не адзін, той чалавек? Рэха Чарнобыля павінна адгукнуцца ў сэрцы кожнага з нас. Болем. Трывогай. Я пакідаў дом Еўдакіі Пятроўны Семяноўскай, а ў вушах звінелі словы: «Ой, як жывём, людзі! Я ж з бальніцы толькі... Да мужа хадзіла... Прывезлі хворага аднаго, сінюткі ўвесь, твару на ім няма. Пасадзілі дзве кабеты ў белых халатах яго на табурэт, а самі гамоняць. Ля-ля-ля! Ну, вы бачылі іх? А потым і зусім пабеглі некуды. А хворы і вочы замгнуў: памрэ, думаю. Расштурхала, а ён ледзьве дыхае. А іх няма. Забыліся. Пра хворага забыліся. Я крычаць пачала, помачы прасіць. Збегліся яны, а гэта ж ужо гадзіна прайшла, не менш, ды на мяне як накінуліся, бы я вінаватая. Не, вы бачылі такое? На мяне. А гэта ж іх рабочае мосца, іх пост».

Больш нічога і дабаўляць да пачутага ад Еўдакіі Пятроўны не трэба. Але пачакайце, можа, толькі адно: калі ж і медык прачытае гэтыя словы — няхай задумаецца, калі хлебароб, рабочы, канструктар, лётчык — таксама... Змываць плямы трэба не толькі з белага халаціка!

...Над Стрэнькамі рана павіс зімовы вечар, запаліліся лямпачкі ў кватэрах, сыпанулі прамінкі святла за вокны — на двары, у агародчыкі. Зіму людзі сустрэлі з дахам над галавой. Кажуць жа: чалавек не можа жыць без здароўя, імя і дома. Усе перасяленцы зараз знаходзяцца пад пільным наглядам медыкаў. Пра дамы я сказаў вышэй. Імёны ў людзей ёсць. Звычайныя, знаёмыя нам — Іваны, Марусі, Зінаіды, Міколы, Кацярыны, Насці... Цяпер жа, на новым месцы жыхарства, ім трэба яшчэ раз даказваць, што ў цябе ёсць імя — імя сумленнага хлебароба, калі ты, вядома, быў такім, шчырага, прыстойнага чалавека. Думаецца, атрымалі заманлівую магчымасць атрэсці з сябе пыл выпівохі, парушальнікі працоўнай дысцыпліны. Чаму ж, і сапраўды заманліва: пачаць жыць на вачах новых людзей па законах нашага сацыялістычнага сумлення,— самы зручны момант, а тое, што было раней, забыць. Раз і назаўсёды. А такія людзі, як ні шкада, ёсць сярод перасяленцаў, на іх і пальцам ківаюць: глядзіце, маўляў, глядзіце... Свае што? Свае прыеліся, аскоміну набілі, іх усе ведаюць. Адзін-два чалавекі могуць адным махам запляміць добрую славу ўсіх людзей, іх вёсак, калгасаў і саўгасаў. А каму з іх, перасяленцаў, не хочацца паказаць сябе з лепшага боку? Сябе і тых, з кім прыйшоў?

У Стрэньках — не, скарг няма. Сакратар партыйнай арганізацыі Аляксандр Пятровіч Пусеў задаволены: папаўненне «Кастрычнік» атрымаў добрае, людзі старанныя, не прывычныя да гульбішчаў, першай справай размову завялі аб працы, пацікавіліся, якія перспектывы чакаюць. А вось у іншых месцах даводзілася чуць незадаволенасць кіраўнікоў. «Атрымалі грошай шмат і самі цяпер не асабліва-то гараць жаданнем працаўладкоўвацца. Ёсць работа — добра, няма — таксама пражывём, кішэня пакуль набіта». Не падумайце толькі, што такім паслабленне даюць. Не. Першы час прыглядаліся да перасяленцаў, здольных глядзець на працу скрозь пальцы, цярпелі, а потым і заявілі: хопіць, браткі, так далей не пойдзе, цяпер вы такія ж члены нашай гаспадаркі, як і карэнныя жыхары вёскі і ўсе астатнія вашы таварышы, няма чаго дурманіць, пытаць будзем строга. Падумайце. А то што ж атрымліваецца — кепскі прыклад паказваеце, так нядоўга і разбэсціць нашых людзей.

Ды і помніць трэба: вам, значыць, і кароўку, і парсючка, і бульбу, не ў крыўду няхай сказана будзе, а чым адказваеце на такі клопат?

Але, паўтаруся, такіх людзей — лічаныя адзінкі. Хацелася б сказаць — «былі».

«Кастрычнік» папоўніўся на 57 сем'яў з калгаса «Новае жыццё» Хойніцкага і на 4 з саўгаса «Брагінскі» Брагінскага раёнаў. Яшчэ адна вёска, лічыце, улілася ў Стрэнькі, Людзі розных прафесій, здольнасцей, але ўсе яны — патомныя хлебаробы, працавалі раней на зямлі, іх не трэба вучыць з пашанай адносіцца да яе.

Намеснік старшыні райвыканкома Уладзімір Дзямідавіч Касачоў прывёў наступныя факты. На той дзень, калі мне давялося сустрэцца з ім, раён прыняў 439 сем'яў — 1273 чалавекі, сярод іх 177 дзяцей школьнага ўзросту. Пабудавана 353 тыпавыя дамы, некаторыя перасяленцы жылі пакуль што ў вясковых хатах, якія па розных прычынах засталіся без гаспадароў. Спатрэбіліся. Выручылі і яны, з утравелымі дварамі, з забітымі крыж-накрыж вокнамі хаты, шмат чаго пабачыўшыя на сваім вяку і ўжо было спісаныя падчыстую людзьмі. Не прывыкаць ім саграваць чалавека, захінаць яго ад халадоў і дажджоў.

Вядома ж, прыток людзей, а яны папоўнілі 16 гаспадарак раёна, унёс значныя карэктывы ў планы, абдуманыя раней, паставіў перад іх кіраўнікамі, Саветамі свае задачы, іншы раз і пяпростыя. Усё ж справу давялося мець з людзьмі. Чым маглі, дапамаглі адразу. У першую чаргу прадуктамі харчавання. Трэба было падумаць і наконт работы. Працей радавым хлебаробам — для іх аб'ект заўсёды знойдзецца. А як быць з механізатарамі, калі ў гаспадарцы сваіх хапае? Што — таксама буракі палоць? Але ж чалавек тады шчаслівы, і мы даўно пра гэта гаворым, калі ён заняты любімай справай. Да гонару перасяленцаў, і яны разумелі сітуацыю. На першым часе бралі і вілы, ахвотна рабілі не па свайму профілю — таму ахвотна, што ведалі: заўтра ці паслязаўтра ў канторы што-небудзь прыдумаюць, сам старшыня абяцаў.

Рыгор Сцяпанавіч Пракоф'еў сказаў:

— Сёння на трактары працую першы дзень. Дома нават не ведаюць. Хоць бы струмент на форме не забыць...

«Струмент» — вілы, ён пра іх так.

Зяаходзіцца тэхніка і для іншых перасяленцаў. Але што характэрна, цяпер своеасаблівы конкурс утварыўся сярод механізатараў, каб заняць месца ў кабіне. Паглядзяць ды і свайго папросяць, калі хто з прыезджых лепш сябе пакажа, раней магло сысці з рук тое ды сёе, а

сёння — сaступі, паназірай здаля, як трэба да тэхнікі адносіцца, павучыся ў гаспадароў.

Не ўсюды хапіла месц у школе, у дзіцячых садах-яслях, а там, дзе ў большасці жылі старыя, то і пра клуб не думалі: няма — і так пражывём. А моладзь патрабуе: клуб нам! Улічваючы ўсе гэтыя абставіны, у раёне шырока пачалося будаўніцтва. Будуць новыя школы ў саўгасе «Дварэц», калгасах «Кастрычнік», «Светлы шлях», клубы — у саўгасах «Станькаўскі» і «Ціхінічы», у калгасах імя Кірава, «Ленінскае жыццё», «XXII партз'езд», у саўгасах «Побалава» і «Дварэц» — сады-яслі. У саўгасе «Кісцяні» адкрыецца амбулаторыя, у калгасе «Дружба» — фельчарска-акушэрскі пункт, тут жа і сталоўка. І гэтак далей.

А над Стрэнькамі вісіць-плыве вечар. Халодны, зімовы. Рыпяць веснічкі — вяртаюцца людзі з працы ў свае новыя дамы. Заглянуў да іх і я.

— Добры вечар вам у хату! — казаў.

— Вечар добры! — адказвалі цёпла, запрашалі прысесці, прапаноўвалі павячэраць разам.

З расказу Мікалая Сцяпанавіча Кудрына:

— Абжываемся патрохі. Абтапіць дамок трэба — не летам жа будаваўся, увосень, то і плямкі па кутках. Цвіль. З Уласоў самі. Там у мяне хата восем на дванаццаць была. Чатыры пакоі. Добрая-я! Але ж таксама, калі перабраўся ў яе, сустрэла яна не так, як жаніх нявесту — без абдымкаў. Новае жытло ёсць новае, і лепш сказаць так: не яно павінна чалавека сагрэць, а мы яго. Ці не так? Ды што я гэта ўсё пра хату? Радасць у мяне: працую электразваршчыкам у калгасе. Няма чаго варыць — за кавальскі молат бяруся, я і дома каваліў. Гэта мае асноўныя спецыяльнасці. Для сябе і печ складу. Прыехаў, помню, у свае Уласы, я сам не мясцовы, а мне кіраўніцтва гаспадаркі адразу — ну, вядома, паглядзеўшы, як магу рабіць, на што здатны, адразу прапаноўвае заняць месца старшага каваля. Не, кажу, не трэба, будзем удвух працаваць з напарнікам, як і працавалі. Калі ў мяне лепшы выраб атрымаецца — я, значыць, старшы, у яго — ён. А грошы пароўну дзяліце. Няма нічога лягчэй чалавека пакрыўдзіць.

Мне крыху і не шанцуе ў жыцці, і шанцуе — у тым плане, што з месца на месца лятаю, як птах. Былі пераезды шчаслівыя, можна сказаць. Але не гэты — у Стрэнькі. А так абжыўся ўжо, ну, думаю, Коля, тут, ва Уласах, ужо да скону дзён зазямліўся, нікуды больш не паеду. Ні да дачок, ні да сыноў, хоць, можа, і старасць бязрадасная атрымаецца. А жыццё свае папраўкі ўнесла. Я не сказаў... З Курскай

вобласці сам. Рускі. А жонка, Марыя Мікалаеўна, беларуска. Ага. У Харкаве жыў, мой бацька быў спецыялістам па выпуску «Кацюш», а потым, калі вораг падабраўся блізка да горада, перавезлі нас, дзяцей, у Дагестан, неяк трапіў потым у Пензу... Павадзілі дарожкі. І — на табе! — цяпер вось гэтая трагедыя... А так добра ўжо сядзеў! Усё, усё так і засталося... Партрэты толькі і забралі... Ці пажадаеш каму такога?

Пра сям'ю, значыць? Маруся мне пяцёра дзяцей нарадзіла — трох дзевак і двух хлопцаў. Старэйшыя свае сем'і маюць, у Гомелі жывуць. Сын на электрыка ў Рагачове вучыцца, малодшая дачка ў шосты клас ходзіць. Недзе во забавілася. Цёмна, а яе не відна. Гэйсае па вуліцы. Калі ж сяброў багата стала — з усімі перазнаёміцца трэба...

З расказу Вулляны Сцяпанаўны Цімафеевай:

— Во, во як яно з намі абярнулася. Жылі ж — цвіка лішняга баяліся ў сцяну забіць: шкада сцяны было. А цяпер пакінулі ўсё. Чамкоў — вёска маленькая, але дружная. Трыццаць хат. Нават школкі сваёй не мелі. Чатыры класы спярша было, а тады і іх прычынілі: няма чаго настаўнікаў трымаць, грошы траціць! — адказвалі. Дзеткі пабеглі хто ў Машу, гэта ўжо Украіна, хто на цэнтральную сядзібу — у Родзін. Вы слухаеце? Я ўсё раскажу, а і добра, што зайшлі, хоць душу вылью. Набралася калі ж. А вас хто да мяне паслаў? Старшыня? Парторг? Яны мяне запомнілі, я ім ужо, мусіць, і надакучыла... А я такая баба: свайго не пакіну і чужога не вазьму. Парасятак нам усім прадавалі. На машыне падрулілі — бярыце, разграбайце. Мой на сорак пяць рублёў выцягнуў, а глядзець няма на што. Грошыто заплацілі, а калі не выжыве? Ой, горачка! А ў самой жа ажно тры было парсюкі. Карміла ўжо не шкадуючы. Аднаго краз перад аварыяй забілі — і прапаў. Увесь. Колькі мы там з'есці паспелі? І муку ж купілі, запасліся — і белай, і абойнай, каб жа знацցё... Два бурты бульбы раскрылі акурат — як спецыяльна пад рацыю падставілі, каб яна згарэла! Трыццаць гусак было, дваццаць пяць курак. Хлеў новы склалі. Дзе яно ўсё? Гэта як бы ў каго разрашэння спытаць ды хоць адным вочкам глянуць на свой двор? Ці пусцяць з'ездзіць, не чулі? Старшыні гавару: трэба было б, Іван Пятровіч, наведацца, а ён і сам столькі ведае, пусцяць ці не. Нас жа ў той дзень усіх адразу ў машыну... З работы ішлі... Гразныя, карзінкі ў руках... «Цёткі, у машыну!» Як жа, гавару, у машыну, калі вунь мая хатка родненькая... Вунь, рукой дацягнуцца можна. «Нічога не ведаем!» І мы не ведалі, што ваду піць нельга, есці нельга. А пілі і елі. Каб хто ж хоць слова якое? І радзіва нічога. Перамрэм так калі-небудзь усе, калі будзем праўду баяцца самім сабе сказаць. Адпусцілі,

зліталіся. Дакументы ўзяць дазволілі. А мы — вядома ж, бабы! — награблі ўсяго як панесці. І адзенне ў клунках, і сала, і варэнне — хто што... Усё павыкідвалі. А мо і правільна? Як вы думаеце? Толькі ўсё роўна шкада, хоць і правільна. А перад тым як па нас прыехаць, дзяцей пазабіралі. З Толікам павалтузілася. Уцёк у лес. Я шукаць, а ён пад дрэвам сядзіць, шчукар малы, хлімкае. «Не паеду, мне тут добра». Хлебчыка яму лусту даю — не бярэ: малы-малы, а гонару хапае. За руку цягну, ужо і да аўтобуса падвяла, глядзь — няма! На гэты раз з прыбіральні выцягнула за каўнер. А як дзяцей адправіла, устала заўтра, села і плачу, слёзейкі цурком бягуць. Галасіць хочацца. Ложкі ж пустыя стаяць, як дамавіны. Ціха ў хаце. Забылася і бульбу, дурная баба, луплю. Потым надавуміла схамянуцца — каму луплю, навошта?

А тады, услед за дзецьмі, на другі дзень, і нас забралі. Толкам не растлумачаць, куды вязуць, навошта. Ведаем: рацыя, уцякаць трэба. Але ж нічога нідзе не відаць. Як было да рацыі ўсё, так і ёсць. І сонца нават свеціць. Дзень чысты, ні аблачынкі.|Усю ноч везлі, а недалёка прывезлі — у Ізбынь нашага ж раёну. «Высыпайцеся!» Божухны, прыехалі як у госці. Дык у госці і тое ж цяпер з голымі рукамі не ходзяць. Ці ж мы бедна жылі? А ў руках нічагусенькі... Адвялі на кватэру да адных там, прылеглі, а не спіцца. Душа баліць. Толя ў школу пабег, у першым ён. Сам пабег. Вася — восьмы клас... Ну, а Наташка і зусім выўчаная — дзесяцікласніца, усё ведае-знае. Старэйшы, Федзя, дык на Прыпяці і цяпер робіць. У Кіеве пасялілі, а на работу возяць. Юрка і Сашка — з намі, пад бокам. Дык жывём мы дзень, другі кватарантамі, і тут я заўважаю, што гаспадары касавурыцца пачынаюць. То тое не так ім, то гэта. Здагадалася, я так і здагадалася, што к чаму. Як паядом, то пасля нас паўдня яны посуд яшчэ мыюць самі. Рацыі, значыць, баяцца, а нас яшчэ больш — яна ж, відаць, з намі прыехала, як пыл... І выжылі! Такія і ў вайну б не прытулілі... Хатку старую нам паказалі, там куратнік раней быў... смуродам пахне... Адмылі, жыць пачалі. Нядоўга, праўда. Зноў — трубі ў дарогу! На гэты раз у самы Хойнікі, у сталіцу нашага раёну. Там ужо лепш у параўнанні... І кожны дзень змяраюць, змяраюць рацыю.То адзенься, то раздзенься. А я ж баба вясковая, не гарадская, як жа мне раздзецца перад доктарам? Бабу, гавару, таксама доктара давайце, век сораму не мела і мець не хачу. «А дзе ж мы табе бабу возьмем?» Асмялела, а што зробіш? У вучылішчы нас размясцілі. Там ужо кармілі — не скажу, грах жаліцца. Не кожны дзень так дома сёрбаў. І стаяць над душой: еж, цётка!

Месяц у Стралічаве пражылі — увесь май з хвосцікам. Чамкоў жа наш недалёка ад Стралічава, а ў іх, бачыце, рацыі мала — можна

жыць. А тут па вёсцы чутка пракацілася: нас, чамкоўцаў, сватаць прыехаў бытта старшыня калгаса з-пад Рагачэва. Я да яго.

— Хто такі? — пытаю.

— Старшыня калгаса «Кастрычнік» Сталяроў Іван Пятровіч,— прадставіўся.

— А я — Вулляна Сцяпанаўна, пенсіянерка. Вы не глядзіце, што маладая, у пяцьдзесят пайшла — дзяцей не ленавалася нараджаць. Чым парадуеце?

Ён апісаў усё як ёсць. І што месцы, ага, добрыя, горад побач, а недалёка ад вёскі, куды сватаў, дзве рэчкі — і Дняпро, і Друць, у якой пажадаеш, у той і лаві рыбу. Луг. Лес таксама ёсць. Грыбы. І так далей. Хораша салавей спявае, думаю, але самім удаставерыцца трэба, каб потым не шкадаваць. Мужыкоў адпраўляем у разведку. А з іх такія разведчыкі атрымаліся — як з мякіша куля. Праехалі, цюцькі, напіліся тамака, залілі вочы, а вярнуліся — і сказаць нічога не могуць. Разведчыкі, маць вашу!.. І як жа яны маглі што ўбачыць, калі аб магазін спатыкнуліся? Сама еду. Бяру білет і еду. Не пашкадавала грошай, край няблізкі, але пакуль на свае вочы не ўдаставеруся, што за лусту хлеба падсоўвае нам Сталяроў, хвамілія гэтая лёгка ў галаве асела, ні кроку з Стралічава. Адсюль хоць хата бліжэй. Ды і раён свой. Прыязджаю. Іван Пятровіч даланю дае: рады, рады, кажа, бачыць... Ну, аглядайцеся. А я пакуль да канторы прыбілася, то ўжо ўсё паспела распытаць у людзей, усё ўбачыць, а да яго толькі зайшла адзначыцца. Згодны, гавару! Бярыце. Толькі ж дзе жыць будзем? Дамы калі тыя яшчэ пабудуюць? А ў мяне ж сям'я. «Знойдзем месца і для сямі тваіх чалавек, цётка!» — суцешыў Сталяроў. Вось гэта іншая, сама сабе гавару, размова. Далі нам спярша падлатаную хатку, жылі спярша ў ёй. А цяпер — і зусім жывём! Чатыры пакоі. Кухня. Вугельчык прывезлі, а мы ж ім ніколечкі не тапіліся. Мучаемся. На яго дажджом лінула, ён раскіс — пясок чорны. У нас жа дровы на паліва ішлі. Лес нобач. Ламачча там хапае! Бразгацяць ажно дровы, як арэх... Во, і вугаль разгарэўся... Гарыць, ірад. Нічога, прывыкнем. Не такое сцярнелі, горш ужо не будзе... Трэба гатаваць нешта, мужыкі мае скора вернуцца. Карміць трэба. Вымерхаліся, відаць. У Чамкоў наш з'ездзіць бы. Не чулі, калі ўжо нас пускаць будуць? Пасвідацца. На хату глянуць... На гародчык... Вокны, відаць, такія ўжо гразныя там — не дай гасподзь!..



Загортваю блакнот Чарнобыльскай бяды. Ці вярнуся калі-небудзь да яго зноў? Не ведаю, толькі ж вельмі хочацца, каб у ім былі

светлыя, сонечныя радкі. А што ж тычыць гэтых нататак, то, на маю думку, з іх яскрава відаць, што людзі з цяжкай жыццёвай сітуацыі выйшлі, высока трымаючы галаву, на поўны рост. Бяда згуртавала. Бяда і ўрок прыпаднесла, як трэба жыць заўтра. Многім так, як і жылі дагэтуль, іншым — не, трэба агледзецца вакол сябе, узяць верны арыенцір і не збочваць, хоць і цяжка будзе. Не збочваць. Не хавацца за спіну іншых, а старацца наперадзе быць. Інакш адстанеш і сам, і спадарожнік выдыхнецца, бо не будзе па кім раўняць яму свой крок.

А перад вачыма стаяць твары навасельцаў, і гучаць радасныя, усхваляваныя галасы:

— Хлеб-соль вам, людзі!

І калі запаліліся святлом тысячы новых вокнаў, то не будзем забываць, што столькі ж недзе і патухла... Сагравае сэрца адно: у новых вокнах — святло больш яркае.

Няхай яно ніколі не патухне.

Шчасця табе, дом!

## ПАЗІЦЫЯ

Сакратар па ідэалогіі аднаго з райкомаў партыі паскардзілася: “Патрабуюць, патрабуюць... Што можа быць лягчэй, як патрабаваць? Я пра вяселлі, пра цвярозыя. Колькі правялі, колькі правядзём у бліжэйшы час. «Дакладвайце!» Ну і дакладваем... Атрымліваем, вядома, спагнанні, бо хваліць няма за што. А вось той, хто спускае гэтыя паперкі, сам бы пайшоў да людзей, сказаў: «Э-э-э, што вы робіце? Убраць, убраць са стала бутэлькі! Я загадваю! Праводзьце цвярозае вяселле!» Ідзём, ідзём і мы да людзей. Рэдка, вельмі рэдка хто пагаджаецца, большасць — супраць, і катэгарычна: «Наша вяселле — і не ўказвайце!» Людзі ж яны розныя... Што ім да нашых паперак? Ды і ці трэба вось так давіць, вобразна кажучы? У нас, на жаль, яшчэ бывае так: што вякамі ўкаранялася, вытравіць хочам адразу, вокамгненна. Не, патрэбен час. І я веру, што ўсё стане на месца. Але не сёння. І нам, партыйным работнікам, трэба таксама мець цярпенне, цвярозы падыход да кожнай справы”.

А мне ўспомнілася адно вяселле. Таксама... цвярозае. Прыехалі на яго з тэлебачання — рашылі паказаць людзям, як трэба... У адной хаце накрыты сталы, дзе замест бутэлек з гарэлкай і вінам стаяць напіткі, сокі, а ў другой, праз дарогу,— усё наадварот. Мужыкі вып'юць па чарцы, похапкам закусяць і пасняшаюць адзін аднаго:

— Пабеглі, Пятро, у цэлявізар паказвацца...

Ведаеце, як трэба рваць пустазелле? Калі спяшаешся, то карэньчыкі абавязкова застаюцца ў зямлі... І адразу ж на тым месцы вырастае яно зноў. Як і не знішчалі яго.

* * *

Наша бяда — прыпіскі.

Учора каля кіёска «Спрынтлато» адзін небарака «прыпісаў» сабе аўтамашыну «Волга». Знайшліся людзі, якія строга пакаралі хвалько — падсцераглі за вуглом, забралі «спрынт», дзе ўсяго і было адціснута літарамі «без выйгрышу», але ж надавалі кухталёў, прытым два разы. Першы — каб не крычаў, калі на яго напалі знянацку, другі, калі даведаліся, што схлусіў.

Ведаю жанчыну, якая хваліцца сяброўкам, што яе муж і суп гатуе, і бялізну мые-прасуе, і боцікі быццам бы знімае з яе ног. Анёл! Ведаю і мужа. Канапа, газета, тэлевізар і строга-патрабавальнае: «Суп гатовы?! Калі яшчэ зварыш, як учора,— на галаву вылью!» Прыпісваючы мужу такія якасці, жанчына недзе радуецца: «Яны сваім мужам, мяне паслухаўшы, сніны папeрагрызаюць». Радуецца, бо так яно і будзе.

Хвалящца адны, што ў іх тое і сёе, нават птушынае малако ёсць, хваляцца другія, трэція... А прасцей сказаць — прыпісваюць сабе тое, чаго няма. Так і на рабоце. Дэталі, вузлы, машыны.

Разбіралі на сходзе майстра ўчастка. За прыпіскі. А ён з бойкага дзесятка быў, да стала падыходзіць і заяўляе: «Паважаны Аляксандр Міхайлавіч, ды кіньце вы пра прыпіскі! Кіньце! Вы ж мне характарыстыку далі, калі ў падарожжа за мяжу збіраўся, што я сам сябе не пазнаў. Што не п'ю, не куру, што прыкладны сем'янін. Я, дарэчы, адзін жыву — два гады назад развёўся...»

Прыпісваем і матэрыяльныя каштоўнасці, і духоўныя, і маральныя. Ці будзе калі ўсяму гэтаму канец?

* * *

Калектыў завода зборнага жалезабетону аб'яднання «Гомельпрамбуд» выбіраў галоўнага інжынера. Людзям было прапанавана тры кандыдатуры. Выказваліся, вядома, пра кожнага. Гаварылі востра, горача. Зразумець можна заводчыкаў — упершыню ім прадставілася магчымасць самім выбраць аднаго з кіраўнікоў, і яны рашылі скарыстаць гэты шанц. Кандыдаты хваляваліся, адказвалі на пытанні, выкладвалі свае меркаванні наконт заўтрашняга дня прадпрыемства.

Першы кандыдат сказаў:

— Не спраўлюся, мусіць...

Другі кандыдат сказаў:

— Сваю кандыдатуру адхіляю...

Застаўся адзін — начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела завода Валерый Якаўлевіч Чарняк. Падсыпалі і яму кучу пытанняў. Не выкручваўся Чарняк, не, а гаварыў пра тое, што хвалявала людзей, пра тыя недахопы, якія і людзям вочы мулілі.

І трэці кандыдат сказаў:

— Калі згодны ісці за мной — аказвайце давер'е. Не згодны — трэба, значыць, перанесці сход, падабраць іншую кандыдатуру. А свае патрабаванні я выклаў. Прымаеце?

— Я супраць! — устаў інжынер Котчанка.

— У вас што-небудзь сур'ёзнае, таварыш Котчанка? — пацікавіўся старшынствуючы на сходзе.

— Вельмі. Вельмі. Не хачу, каб пайшоў з нашага аддзела Валерый Якаўлевіч. З кім жа застанёмся. Я... я сур'ёзна!

У зале раздаліся воплескі. Не Котчанку — Чарняку, новаму галоўнаму інжынеру завода.

* * *

Зацікавіла перапіска ў шматтыражцы «Сельмашавец». Пачалася яна з пісьма Э. Цішуціна, ветэрана працы. Я добра ведаў яго, калі яшчэ працаваў у гэтай газеце, ён даволі часта прыносіў допісы, прытым пісаў добра, не цураўся праблем, смела мог зачапіць кіраўніка, ташарыша, калі тыя, вядома, заслугоўвалі крытыкі. Не ў брыво, а ў вока, як гавораць, рэзаў. Эдуард Емяльянавіч паскардзіўся, што яму да сёппяшняга дня не выдалі медаль «Ветэран працы». Праз некалькі нумароў з'явіўся адказ за подпісам сакратара партыйнай арганізацыі цэха і з кароткім каментарыем рэдакцыі. З усяго гэтага бачна — не заслужыў медаль Эдуард Емяльянавіч. А мо помсцяць ветэрану за крытыку? Не. Рэдакцыя разабралася: вінаваты сам, у апошні час парушаў дысцыпліну...

Ці заняла б рэдакцыя такую пазіцыю раней? Не ведаю, цяжка сказаць. Усё ж — былы актыўны рабкор. Таму парадаваўся за сваіх калег, за нязменнага рэдактара газеты — Мікалая Юр'евіча Гулевіча. Вельмі правільная назіцыя: кім бы ты ні быў, якую б пасаду ні займаў, у якой бы дружбе з табой ні была рэдакцыя, у першую чаргу павінен быць сам чалавекам. Дома. На заводзе.

* * *

У тых, хто любіць лазню,— свята: на вуліцы Яфрэмава пачаў працаваць лазнева-аздараўленчы комплекс. Сем люксаў, кожны разлічаны на тры чалавекі. Міні-басейн, душ, парылка, аўтамат для сушкі валасоў, столікі, лаўкі. Тут жа прасторны буфет, дзе сокі і напіткі, цукеркі, пірожныя.

Радуюцца гамяльчане: не лазня, а мара! Ды не ўсе. Старыя, чуў, пабедавалі:

– Нам бы туюю, старэнькую, пакінулі. Хай бы працавала. У новую часта не находзіш... А для нашага чалавека лазня — свята.

І там свята, і тут свята... А справа ў тым, што білет у лазню каштуе цяпер сама мала 1 рубель 10 капеек. Раней жа — усяго 18 капеек. Таму ім, старым людзям, якія жывуць з пенсіі, больш шчодрай была тая лазня, непрывабная з выгляду, але — свая.

*

У Жлобіне пабудавалі Беларускі металургічны завод, сыравінай для якога павінен служыць металалом. Ну, цяпер, думаў, не знойдзеш у нас пакурожаных кабінак грузавікоў і трактароў, рам, колаў, а то, куды ні прыедзь, усюды гэты металічны друз псуе выгляд машынна-трактарнага двара, вёскі ды і напамінае, якія там жывуць гаспадары.

Завод працуе. Чатыры гады, здаецца. А ў многіх гаспадарках вобласці як ляжаў металалом пяць, дзесяць гадоў назад, так і ляжыць.

Не ў заводзе, аказваецца, справа,— у людзях.

* *

Малочна-таварная ферма. У мяне тут літаратурнае выступленне. Чакаем у цесным пакойчыку адпачынку, калі збяруцца жанчыны. Прыходзяць, садзяцца. Старшыня калгаса дастаў з кішэні невялічкі карабок, паклаў на стол, сабраўся, як мне падалося, з думкамі, крэкнуў, пастараўся ўсміхнуцца, ціха сказаў:

— Жанчыны, сёння ў нас імянінніца. Хто бы вы думалі? Не здагадваецеся?

Па тварах жанчын прабегла ажыўленне, яны пераглянуліся, паціснулі плячыма.

— Вера Сяргееўна...

Усе глядзелі на бабульку, хударлявую, маленькага расточку, з густымі маршчынкамі на твары: яна забілася ў куток, здзіўлена паглядала то на старшыню, то на сяброўак — таксама, відаць, не

разумела, якая яна імянінніца. Толькі ж вунь, праўда, карабок на стале... Медаль хіба старшыня прывёз? Хадзілі чуткі. Ён, значыць...

Пад воплескі старшыня прышпіліў Веры Сяргееўне медаль да жакецік, пацісну́ў руку.

— Малайчына ты, Вера Сяргееўна,— сказаў старшыня.— Малайчына. З вайны, як і помню, працуеш на ферме. Тваім рукам, дарагая наша, цаны няма. Маладзейшыя не помняць, як працавалася тады на ферме. Цяпер што — апарат падключыў... Ведаеце самі, як цяпер... Ну што ж, дазволь цябе яшчэ раз павіншаваць з медалём «Ветэран працы», Вера Сяргееўна...

Бабулька ж, на маё здзіўленпе, захлімкала, сарамліва выціраючы далонёю твар. Старшыня адчуў сябе крыху ніякавата, пераглянуўся з даяркамі: што гэта з нашым ветэранам?

А Вера Сяргееўна дрыготкімі вуснамі шаптала:

— Гэта ж, старшынёк, кароўка мая захварэла... ага... Лыска... Другі дзень даіцца не дае... з малаком ходзіць... Ага...

Медаль і слёзы. І які ўрок маладым!

***

Першым рэйсам аўтобус адпраўляецца ў маю вёску заўсёды крыху са спазненнем. Пакуль вадзіцель уладкуе ў дыспетчарскай свае папяровыя справы, пакуль праверыць у пасажыраў білеты, павагаецца, браць ці не браць тых, у каго іх няма,— глядзіш, і былі б ужо дзе-пебудзь за горадам...

Аднак людзі прыходзяць на вакзал усё роўна к прызначанаму часу, а то і раней: мала вераць таму «запасу», стараюцца ўсе — хто на таксі, а хто і пехам дабрацца, бо гарадскі транспарт толькі праз паўгадзіны будзе на лініі.

Многіх пасажыраў я ўжо добра запомніў у твар. Яны амаль кожным выхадным днём спяшаюцца ў вёску, да бацькоў, каб дапамагчы тым за дзень-другі ўправіцца па гаспадарцы, зрабіць нейкую наспеўшую справу. А спраў хапае заўсёды, толькі паспявай прыкладваць рукі.

Вядома ж, прыкмеціў ужо, хто з чым напосіць візіты на бацькоўскае селішча. Адны цягнуць пузатыя баулы, як правіла,— хлопцы. Той-сёй трымае рукі ў кішэнях. А ў жанчын — было б сорак рук, і іх не хапіла б.

Але з усіх, хто ад'язджаў са мной у аўтобусе, відаць, надоўга, калі не на ўсё жыццё, заномніцца маладая дзяўчына. Апранута яна заўсёды проста: так апранаецца большасць яе равесніц. Прывабная з

твару, рослая, валасы льняной касой збягалі з-пад шапкі-вязанкі на лёгкае дэмісезоннае паліто.

Толькі не прывабнасцю запомнілася дзяўчына. Кожны раз яна заходзіла ў аўтобус з цяжкаватай сумкай і з адной і той жа блакітнай сеткай, у якой мясціўся даволі ладны мяшэчак. Калі яна прабіралася да свайго месца, то знячэўку чаплялася за сядзенні і людзей, і было чуваць тады, як у тым мяшэчку нешта цёрлася, крышылася.

Апошнім разам нашы месцы аказаліся побач, і ўжо ў дарозе я ўсё ж нясмела націкавіўся:

— Прабачце. Калі не сакрэт... Што гэта вы возіце ў адным і тым жа мяшэчку?

— Які сакрэт...— ажывілася дзяўчына, бліснула ў паўзмроку вачыма.— Хлеб важу. Чэрствы... За тыдзень, а калі і за два ў інтэрнаце назбіраецца — не выкідваць жа! Дзяўчаткі з іншых пакояў, праўда, кавалкі ды скарынкі ў вядро са смеццем звальваюць, а я — на газетку... Бывае, што не даясі, не заўсёды ж разлічыш, колькі яго купіць: які калі настрой, такі і апетыт... А ў вёсцы маці жыўнасць трымае...

Мяшэчак той з хлебам стаяў побач са мной, і я падціснуў яго бліжэй да сябе, каб дзяўчыне было зручней сядзець.

* * *

Якраз на мяжы Гомельскай вобласці з Магілёўскай (у раёне пасёлка Ільіч Рагачоўскага раёна) бяжыць пад мост шашы Адэса — Ленінград невялікая рэчка. Мне яна знаёма з дзяцінства. Іншым яе назву падказвае шыльдачка: Гутлянка. Праімчалі аўтамашыны, перад вачыма прасціраюцца новыя далягляды роднай зямлі, а рака таксама не стаіць на месцы, коціць свае срабрыстыя воды далей — у сівы Дняпро.

Помню, мой дзед Якаў расказваў, што яшчэ ў час ягонага дзяцінства рака была вельмі паўнаводнай і шчодра адорвала людзей рыбай. Шмат вадзілася і ракаў. Пазней рака значна памялела: неўпрыкмет падкралася да яе старасць.

Гадоў колькі назад «выратаваць» раку паспрабавалі меліяратары. Толькі іх задума не спадабалася жанчынам з вёскі Гута, і яны настойліва пачалі даказваць, што не трэба выпрамляць раку — няхай жыве, як жыла, няхай лашчыць свае берагі, прыродай утвораныя. Меліяратары сваё: у нас заданне. Жанчыны: «Не дадзім псаваць раку! Бачылі ў суседзяў вашу работу!» Меліяратары здаліся, і там, дзе апаясвае Гутлянка вёску, яна засталася такой, якой і была.

Гутлянка жыве, хаця і яшчэ памялела: высушылі побач узбалоткі, вытралявалі кусты ды і зрабілі ўсё ж меліяратары вышэй і ніжэй вёскі з ракі раўчукі-ніткі. Але як радуюцца людзі і малому: на яе берагах — усцяж вёскі — хіляцца да вады ніцыя кусты вербалозу. Сустрэнеш тут і аматара рыбнай лоўлі з вудай. Клюе! Жанчыны ж часта спяшаюцца да вялікага валуна, які, здаецца, расце з пясчанага дна ракі, ставяць на яго посуд з бялізнай і, перш чым паласкаць ручнікі, абавязкова падзіваяцца на люстэрка вады...

***

У адным добра мне знаёмым калектыве дзялілі ўчасткі ў садова-агародным кааператыве. Камплектавалася яшчэ адна грамада дачнікаў. Прыемна было бачыць, як радаваліся людзі. І было ад чаго. Участкі — побач з горадам, можна пешшу зайсці за паўгадзіны. Блізка Сож, луг, лес.

Прайшлі два гады. На пустэчы выраслі домікі. Прывабныя, сучасныя — казачныя домікі. Неяк, ідучы да сына ў піянерскі лагер, звярнуў і я да сваіх знаёмых. Пасядзелі, пагаварылі. Сам таго не заўважыў, як і ў мяне разгуляўся апетыт.

— Купляй! Не пашкадуеш! І цыбуля свая, і ягада, і бульба. Зямля добрая — тапарышча вырасце.

Дачнікі — яны трохі ад рыбакоў: таксама рукі ў ход пускаюць.

— А ў каго?

— Многія прадаюць. Выбірай толькі.

— Дык навошта ж тады бралі?

Смяюцца. Але шчыра.

— Месца ж добрае. Яго адно прадаць можна. Ну, а калі яшчэ які-небудзь дамок зляпаць — праблемы няма. Ахвотнікі знойдуцца.

Пачынаю разумець. Вось, аказваецца, яшчэ як умеюць жыць людзі. Толькі не зайздрошчу я ім.

* * *

Еду ў гарадскім аўтобусе. Людзей у салоне шмат. Модна апранутыя. З авоськамі, папкамі, дыпламатамі. Іншыя чытаюць газеты. Вялікімі літарамі загаловак: «Перабудова — справа кожнага!»

Канцавы прыпынак. Вадзіцель праехаў крышачку далей, ветліва аб'явіў:

— Таварышы, падрыхтуйцеся да праверкі талонаў...

І што тут пачалося!

— Адчыняй заднія дзверы, гавару!

— Я на поезд спазняюся, а ты праверку тут уздумаў. Выпускай, нягоднік! Ну!

— Выдумляюць праверкі розныя, самадуры! Якое ты права маеш людзям не давяраць?

— Я нумар запомню — атрымаеш!..

Нехта заступіўся за вадзіцеля:

— Чаму вы накінуліся на чалавека? Ён жа пры выкапанні...

— Яшчэ цябе тут не хапала, разумная!

Модна апранутыя, прыгожыя з твару людзі, якімі былі яны некалькі хвілін назад, сталі нервовыя, злыя, і мне зрабілася шкада іх. А за што вадзіцеля абразілі, маладога хлопца, які толькі пачынае свой працоўны шлях? Ён жа сапраўды на рабоце. А ў тых крыкуноў і не аказалася талонаў. Яшчэ пяць-шэсць чалавек закампасціравалі іх у крытычны момант.

Пашкадаваў пятак і пасажыр, які чытаў газету з выглядам адукаванага чалавека. Пра перабудову, дарэчы, чытаў артыкул...

***

Іх гняздо нарэшце разварушылі. Не палкай – Законам аб барацьбе з п'янствам і алкагалізмам. Цяпер яны зрэдку прыходзяць да былога піўнога бара, прыгнечаныя, апустошаныя. Гэтыя жанчыны – нехта трапна назваў іх таптухамі, цяжка пераносяць адлучэнне ад штодзённага куфеля піва, ад шклянкі “чарніла”. Цяпер у піўным бары прадаюць квас, сокі, ліманад, мінералку. Не, гэтыя вадкасці іх не бадзёраць. А піва няма. І «чарніла» таксама. Бядуюць. Сноўдаюцца туды-сюды, не знойдуць, чым заняцца.

Жыццё прайшло міма. Патрачана здароў'е — яго не вернеш. Згублены павага і аўтарытэт у людзей — іх яшчэ цяжэй вярнуць.

***

Мая суседка Галіна Архіпаўна Чупрына працуе ў магазіне радавым прадаўцом. Там у іх брыгадны падрад, і жанчыне часта даводзіцца сядзець на касе. Прыходзіць з працы заўсёды стомленая, гадоў ёй і так багата, а тут яшчэ людзі давядуць — кожны хоча, каб яму дагадзілі, але не кожны лічыць сваім абавязкам — чалавечым — дагадзіць і работніку прылаўка. Яна — адна перад многімі. Жывы чалавек, не манекен. За дзень чаго ні наслухаецца пра сябе. Больш — абразлівага. Дзіўлюся мужнасці суседкі, раю кінуць усё ды пайсці на адпачынак — пенсія ж ёсць. Галіна Архіпаўна не пагаджаецца:

— Ну, пайду. І што? Буду сядзець адна ў кватэры, у акно глядзець?

Учора суседка зноў расказала:

— Цяпер з цукрам гэтым неразбярыха. Лета, усе варaць варэнне, кампоты. Самагонку гопяць — даўно працую, ведаю, хто што варыць... Каманда паступіла ад загадчыцы: адпускаць на аднаму пакеціку на рукі. Адпускаю. Не ж, знойдзецца нехта, хто сапсуе настрой, крычаць пачне: «Колькі савецкай уладзе, а цукру нельга ўзяць уволю!» Дык і гавару ў адказ, што колькі савецкай уладзе, а самагоншчыкі не перавяліся. Не чуюць. Маўчаць. Адзін дзядзька тры кілаграмы падносіць. Нельга, гавару. «А вунь жонка!» Гляджу, стаіць жанчына, ківае. Ну, а трэці пакет — каму? «Дзіцёнак у машыне, ды і кіньце вы прыдзірацца!» Я што — бачу вашага дзіцёнка? Паказвайце. Прыносяць. Ён, дзіцёнак той, і хадзіць яшчэ не ўмее. Але ж — чалавек, трэба разумець. Атрымлівайце тры пакеты. Не ж, усё роўна кнігу скаргаў патрабуе. «Вы мяне абразілі! Я, ведаеце, кім працую?!» Падала кнігу скаргаў. Не маю права не падаць. Толькі вось каб і для нас хто кніжку прыдумаў — на пакупнікоў пісаць. Няма такой. А раз няма, то пакупнік заўсёды можа цябе абразіць, выставіць дурнем перад дзецьмі, знаёмымі, кім заўгодна назваць-абазваць. А каму мне паскардзіцца? Калі толькі вось вам, суседзям.

Галіна Архіпаўна расказвае новую гісторыю...

* * *

Вярнулі нарыс. З абласной газеты. Быў неяк у Лоеве, пазнаёміўся там з цудоўным хлопцам — Сяргеем Суслам, рабочым ПМК-38 меліярацыі. Ён зусім нядаўна вярнуўся з Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан, дзе выконваў інтэрнацыянальны абавязак у складзе абмежаванага кантынгенту нашых войск. Заслужыў медаль, ордэн. Неаднойчы ўдзельнічаў у баявых аперацыях, глядзеў смерці ў вочы. Слухаў я тады яго і падумаў — а мог бы і загінуць. Уявіў маці, бацьку, сясцёр яго, сяброў... Добра, што ты вярнуўся, салдат!

І напісаў нарыс. Назваў «Святло бяроз». Ён, Сяргей, бачыў на афганскай зямлі ў снах палескія бярозы, а калі прыехаў у родныя мясціны, першай справай — да іх, родных. Шчакой прытуліўся да ствала, бы да жывога. Пагладзіў даланёю.

Здаецца ж, і душу ўклаў у нарыс, але вярнулі. Растлумачылі: у мясцовым друку пра Афганістан пажадана пісаць інакш... Выслухаў, сарваўся: «Дык ад каго ж мы праўду хаваем?! Чаму не павінны землякі ведаць, што побач з імі жыве хлопец, якому, можа, трэба пакланіцца да зямлі?»

Вярнулі і вось гэтае кароценькае апавяданне — «Хаткі»: «У Зарэччы з двух бакоў абступаюць дарогу хаткі. Маленькія, несамавітыя. Побач з новымі дамамі яны — што неба і зямля. Але хаткі стаяць. Хаткі жывуць. Там-сям тонкім павуціннем цягнецца з коміна дым, па вечарах успыхваюць шыбы святлом. Шкада, што не ўсюды і дым з коміна, і святло ў вокнах...

Згарэла ў час вайны Зарэчча. Калі раён быў вызвалены ад чужынцаў, на папялішча вярнуліся людзі. З чаго пачынаць жыццё? Трэба адбудоўвацца, не справа ж гэта — пад голым небам жыць, хоць і мірным стала яно.

— Мне, мужыкі, вялікая хатка не трэба,— змахваючы слязінкі з твару, ціха сказала Мар'я.— Пятро мой загінуў, а дзіцятка ад яго нажыць не паспела. Мне, мужыкі, складзіце маленькую хатку. Хопіць на адну.

Памаглі адбудавацца Мар'і вяскоўцы. Потым Варцы, Лёксе, Акуліне...

Стаяць і сёння гэтыя хаткі.

Сіратліва стаяць, бы ўдовы: адны дажываюць і яны свой век».

Зноў — нельга. Матывы? «У нас клапоцяцца пра ўдоў, няпраўда ўсё!» А хто сказаў, што не клапоцяцца? Клапоцяцца. Хоць і не ўсюды, будзем шчырымі, калі на тое пайшло. Сустракаюцца яны, на жаль, яшчэ з халоднымі, чэрствымі сэрцамі. Але ж не пра гэта ўвогуле апавяданне — пра хаткі. А яны стаяць. З'ездзіце, паглядзіце.

Крыміналу тут, здаецца, няма аніякага, але — нельга.

Я б і сам, каб жыў адзін, пабудаваў бы для сябе маленькую хатку. У ёй цяплей аднаму.

* * *

Завітаў да мяне сваяк. Хлопец малады, сімпатычны, разваротлівы. У горадзе ён жыве нядаўна, а такое ўражанне, быццам тут і нарадзіўся. Скончыў тэхнікум, працуе, ажаніўся. Я заўсёды радуюся, калі заходзяць знаёмыя, сябры, не кажучы ўжо пра сваякоў. Ёсць стол. Ёсць што і на стол падаць. Сядзім, гамонім. П'ём каву. Сваяк расказвае, што быў нядаўна ў вёсцы, змен асаблівых няма. Бацькі мае мацуюцца. Я чамусьці абяцаю яму, што праз дзень-другі абавязкова выберуся да іх, наведаю, дапамагу ім што-небудзь па гаспадарцы. Услых прыгадваю словы Рыгора Барадуліна: «Трэба дома бываць часцей, трэба дома бываць не госцем...»

— Ну, а што ў цябе новага? — пытаю ў сваяка.— Як дачка? Як жонка?

— Жывуць...— куточкамі вуснаў усміхаецца сваяк.— Светка ўжо ходзіць. А жонка? — сваяк задумваецца, моршчыць лоб.— Гэта ж я вось па такой справе завітаў...

Не здзівіў: сваякі, заўважыў даўно, толькі і ўспамінаюць пра сваяцтва, калі ім нешта трэба. Ну-ну, што далей?

— Дэкрэтны водпуск заканчваецца, не хоча на старое месца ісці.

— Чаму?

— Ну, па-першае, далекавата ад дома, а па-другое, аклад маленькі. Хацелася б чаго большага. Мо дапаможаш?

Здзіўляюся: а чым, цікава, я магу дапамагчы? Раю звярнуцца ў бюро па працаўладкаванню. Сваяк напамінае, што я працаваў у абласной газеце, часта бываю на прадпрыемствах, знаёмы з кіраўнікамі і г. д. Робіцца прыкра. Не хочацца больш падліваць каву ў кубачак. Хочацца, каб ён хутчэй пайшоў.

Балюча. Вельмі.

***

Хто чытаў апавяданне Васіля Бялова «Грышка Фунт», успомніў, відаць, што такія Грышкі хадзілі і па нашых беларускіх вёсках: рамантавалі каструлі, чайнікі, вёдры, вастрылі сярпы... Іх чакалі, ім былі рады. Цяпер не ходзяць. Чаму? Тут некалькі прычын. Але галоўнае — сталі жыць добра, навошта нам рамантаваць тыя вёдры, напрыклад, а сярпы зусім выйшлі з моды. З'явілася дзірачка ў чайніку — у магазіне набыты новы, а стары пайшоў на звалку. Так-так, на звалку. Гэтае слова — звалка — сёння не толькі горада датычыцца, трывала ўвайшло яно і ў гаворку вяскоўцаў, а ранейшае — сметнік — амаль цалкам выціснула з яе.

Вясковая звалка. Прыгледзьцеся калі-небудзь, што там ляжыць. Восенню — бульбоўнік. Горы яго. Не прыгадаю, каб раней выкідвалі бульбоўнік людзі. Скарыстоўвалі ў гаспадарцы. Сушылі, давалі на корм худобе, а што ішло на подсціл. Цяпер хапае сена, саломы. Не той час. Далей глядзім, што на звалцы. Кукурузнае бадыллё. Тут жа шкілеты веласіпедаў, матацыклаў, тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў. Гледзячы на ўсё гэта, думаецца: а ўсё ж шкада, што не ходзіць па вёсках бялоўскі Грышка Фунт. Прыязджаюць, праўда, хлопцы на аўтамашынах, рамантуюць тэлевізары, ды і тое гледзячы што ў іх зламалася. А што яшчэ? Звычайна вяскоўцу самому трэба ехаць, адвозіць у райцэнтр... ну, хоць бы той электрычны чайнік. Па ўласным вопыце ён ведае: давядзецца паездзіць, а гэта і нервы, і — што не менш важна — грошы, іншы раз патраціш на дарогу больш,

чым каштуе готовы. Ды і часу шкада. Пра звычайныя чайнікі і гаварыць не трэба — дзе іх рамантаваць і як, людзі нават не ведаюць. Ведаюць адзін адрас — звалка.

Вось так.

Ад звалкі, відаць, вёска нікуды не падзенецца. Але тут насцярожвае іншае: калі ў гарадах, у пасёлках гарадскога тыпу месца для звалак звычайна вызначаюць адпаведныя арганізацыі, то ў вёсках самі Іваны ды Мар'і. Дзе зручней ім, там і звальваюць усё ў кучу. І вырастаюць горы смецця. І ў самім населеным пункце, і за ім.

Я сустракаў многа вёсак, дзе звалак не менш, чым хат. Складваецца ўражанне, што ні мясцовыя Саветы народных дэпутатаў, ні кіраўнікі гаспадарак яшчэ не могуць паверыць у імклівае наступленне звалак на вёскі.

Веру: апамятаемся, спахопімся. У нас так часта бывае. Не прывыкаць. Але спярша трэба сапсаваць, а потым аднавіць. Прыгажосць хоць бы.

***

Працаваў чалавек механізатарам. У аддзяленні Першая Слабодка саўгаса «Капаткевічы» Петрыкаўскага раёна. Ранкам акуратна ішоў на работу, позна вечарам вяртаўся. На сходах яго не разбіралі, бо не было асабліва за што. Не хвалілі — таксама не было за што. Серадняк. А тут механізатары пачалі ствараць падрадныя брыгады, і той чалавек аказаўся лішні: адвярнуліся ад яго аднавяскоўцы. «Нам не трэба Гаўчука! Абыдземся!»

Васіль Лазаравіч пакрыўдзіўся на сяброўтаварышаў, нават скардзіцца пачаў у розныя арганізацыі і ўстановы, што тыя людзі, з якімі працаваў разам, з якімі пуд солі з'еў, так жорстка з ім абышліся. Але чым могуць выручыць у тых арганізацыях і ўстановах, калі не адзін нейкі там адміністратар супраць, а ўвесь калектыў? Змірыўся Васіль Лазаравіч? Не. Ён нанёс, вобразна кажучы, контрудар. І вось які. Але спярша, чаму не ўзялі Гаўчука ў брыгаду? Хаваўся ён часцяком за спіны іншых, хітраваў, стараўся захапіць работу, дзе лягчэй. Паступова страціў аўтарытэт. Раней прычапіцца да яго было амаль немагчыма, бо ён не з'яўляўся на работу ў нецвярозым стане, ведаў, дзе сказаць слова, а дзе і вады ў рот набраць. А калі пачалі механізатары пераходзіць на брыгадны падрад, палічылі, што Васіль Лазаравіч зноў пачне хавацца за спіны іншых. А заробак, як вядома, дзяліць трэба на ўсіх пароўну. І не прагаласавалі за Гаўчука.

Цяпер пра контрудар. Васіль Лазаравіч дамогся, каб яму далі магчымасць даказаць сваім былым таварышам, што і ён нешта можа.

Неўзабаве ён сам узначаліў звяно па догляду за пашай і забеспячэнню кароў кармамі. Цяпер Гаўчуку не было як хавацца за спіны іншых, бо ў тым звяне — ён сам сабе гаспадар. Сам падкошваў траву, рэгулярна падвозіў на трактары, сачыў, каб добра кармілі жывёлу.

І што ж? Па выніках за летні перыяд ферма, дзе звеннявы Гаўчук, заняла першае месца ў саўгасе. Упершыню, дарэчы. А колькі людзей у нас яшчэ працуе на паўсілы? Хутчэй трэба даваць ім самастойнасць, выцягваць з-за шырокіх спін іншых. Пасядзелі ў цяньку — хопіць. Пара працаваць.

* * *

Старшыня калгаса адмовіўся будаваць на цэнтральнай сядзібе сталовую. На яго як толькі не паціскалі, але ён сваё: «Не трэба яна нам!»

Я невыпадкова сустрэўся з гэтым старшыёй — параілі ў райкоме партыі «прапясочыць», мо тады хоць, калі ў газеце яго крытыкнуць за адсталы погляд на жыццё, адумаецца. Мы сядзелі ў даволі сціплым кабінеце, і старшыня, пыхкаючы папяроскай, даказваў:

— Гатуй дома боршч, Мар'я! Для чаго ў цябе псч? Для чаго газавая пліта? Агарод для чаго? Ну, адкрыем мы сталоўку. І што? Гарантую — пройдзе час, не адразу, канешне, і мы не знойдзем у вёсцы ніводнай сапраўднай гаспадыні. Перавядуцца. І дапаможа ім у гэтым мая сталоўка. Будуць і самі хадзіць жанчыны туды есці, і мужыкоў пасылаць. Нешта мы ўжо дужа упартна вёску пад горад падбіваем. А ці трэба? Вёска павінна заставацца вёскай. Прайдзіце па хатах, знайдзіце маслабойку. Дарэмна. Прывозяць у магазін, людзі ўжо даўно сваё не робяць. Лянуюцца. Хоць наша, сялянскае, і смачнейшае было... Ёсць зерне? То-та ж!

А цяпер, дзе мне ўзяць людзей, каб пасадзіць іх у сталоўцы? Чатыры жанчыны, як мінімум, дай. Добра, сагітуем выпускніц, пагодзяцца тыя — дазваляю такі ход, хоць і сумняваюся. І будуць сядзець яны ў цёплым месцы, а маці іх, старыя, заслужаныя людзі, няхай пад дажджом працуюць? Не, не справа гэта. Распусты даваць не трэба маладым. Я ж наперад гляджу. Уявім наступнае. Стане раптам мая вёска ў адзін рад з тымі, дзе ўжо сёння ў сталоўцы есці няма каму. Зачыняць? Зачыняць. А куды я тых дзевак падзену? Хіба ж яны пасля той цёплай работы на ферму пойдуць? Ніколі. І ў горад позна ехаць. Сям'я, дзеці... Прападуць дзеўкі.

Не, я не супраць прагрэсу. Але меру ведаць трэба. Я не здзіўлюся, калі мне паставяць задачу пусціць па вёсцы таксі. Хвядоса вазіць да Петрака, а Петрака да Хвядоса. У

госці. Не пагаджуся — успомняць пра ранейшыя грахі... Ты ніяк думаеш, што я адразу нагадзіўся і КБА адкрываць? Дзе там! Націснулі, на лапаткі паклалі. А мне ж лягчэй і зручней было пасадзіць людзей у аўтобус, адвезці ў горад: абшывайцеся, землячкі, на здароў'е! Многа яны, вяскоўцы, і шыюць, гляджу. А людзей забралі... Сваіх-то ў камбінат не прыслалі з горада. Мае. З залатога фонду. Вунь яны, вунь бэз нюхаюць перад камбінатам... Таму навучаны. Так-то! А калі ты прагаладаўся, я накармлю: жонка ў мяне смачна гатуе. Ну дык што, паабедаем? І мне весялей будзе.

Я часта ўспамінаю таго старшыню. Чую імя яго па радыё. Сустракаю ў газетах. Хваляць.

Цікава, пабудаваў ён усё ж сталовую ці 'не?

* * *

Цётку Марфу Мікалаеўну я ведаю даўно. Жыве яна з мужам, Васілём Трафімавічам, з сынам, нявесткай і ўнукамі. Не ў Беларусі жыве цётка Марфа — у далёкай ад нас Удмурціі, пад Іжэўскам. Я часта бываю там у сваякоў і абавязкова заходжу да Глездзянёвых — такое прозвішча ў гэтай дружнай сям'і. Гасцінныя яны людзі. Мёд на стол, яблыкі, ягады і абавязкова круглы бохан хлеба. З печы. І колькі я ні бываў у іх, ніколі не бачыў, каб падавалі да стала хлеб з магазіна, а магазін насупраць, вокны ў вокны, і хлеб прывозяць рэгулярна. А вось Марфа Мікалаеўна аддае перавагу свайму.

Аднаго разу заехаў да Марфы Мікалаеўны першы сакратар райкома партыі. Павітаўся.

— Ехаў побач і чую духмяны пах хлеба. Сама, значыць, Марфа Мікалаеўна, выпякаеш? Малайчына. Дзяцінства ўспомнілася. Мама... А мы каля печы, малеча, таўчэмся, чакаем, калі яна дастане боханы. Смачны быў хлеб. Сонцам на стале ляжаў. Дзякуй вам...

У нас жа, у Беларусі, я ніводнага разу не сустрэў Марфу Мікалаеўну. Усё спадзяюся. А раптам?..

* * *

Універсам. Ён у невялікім раённым гарадку, пра які звычайна гавораць: на адным вуглу слова скажаш — на другім пачуюць. Час даволі позні, за вокнамі шэрань, скуголіць завіруха. Дзве касы. Што мяне, новага чалавека ў гарадку, здзівіла, дык тое, што каля адной касы людзей багата, хоць у вузел завязвай, а каля другой — двое-трое. Пытаюся ў жанчыны, чаму так?

– Тая, расфуфыраная, ні за што цябе абразіць можа. І прычэпіцца ж да рознай дробязі. Таму ўсе ў гэтую касу ідуць. Ніхто

не хоча настрой сабе псаваць. Гаварылі, і не адзін раз, загадчыцы, толькі дзіўна — сядзіць як сядзела... Цяпср хоць і ўсміхацца пачне, я да яе не стану... Няхай сядзіць. Лепш у чарзе пастаю. Вунь, вунь, — зноў спрачаецца з ёй пакупнік. Не наш ён, камандзіровачны, я сваіх тут усіх ведаю...

* * *

Чатыры сыны ў майго знаёмага Мацвея Міхайлавіча Чэкана. Волаты-хлопцы. Старэйшы, Аляксей, першы праклаў дарогу ў горад, жыве у Ленінградзе, працуе на заводзе. За ім паехалі і яшчэ двое, Павел і Сяргей. Дома застаўся толькі малодшы — Яша. Адслужыў ён у арміі, робіць на трактары. «Хоць адзін пры мне, і тое добра»,— радаваўся бацька. Нядаўна Яша ажаніўся, прывёў у хату вясковую прыгажуню Насцю. Жывуць.

– Ты вось што, сын,— сказаў неяк Мацвей Міхайлавіч,— будавацца думаеш ці не? Трэба, трэба. Хатка ў нас старая, сам бачыш, цесная. Нап твой век яе ўсё роўна не хопіць, так што калі-небудзь трэба пачынаць. Лепш цяпер, у маладыя гады. Ды і я падсоблю...

Сын здзівіўся:

– А навошта мне хату будаваць? Калгас вунь хутка здаваць будзе катэджы. Для нас, маладых. Гатовенькі дом бяры ды і жыві!

— Э не,— крутнуў галавой стары.— Так не пойдзе справа. Як жа ты будзеш заўтра, калі сёння табе дом адразу, жыць? Не, сын мой, не. Лёгка пачынаць жыццё таксама кепска. Спярша солі лізнуць трэба, а тады ўжо цукру. А ты паспрабуй наадварот? Цукар нясмачны будзе. Такто! Ды і дом калі мазалём дасціся, тады ён навечна твой будзе, моцна ўрасцеш у нашу зямельку. А той, калгасны, хоць і прыгожы, але ўсё роўна чужы... Яго лёгка кінуць. Ён як інтэрнат. .Сёння ты пераначаваў, заўтра іншы хто. Не, сын, будзем дом для цябе будаваць. З бярвенняў. Пад шыферам. Хлеў побач паставім. Жыць дык жыць!

Мацвея Міхайлавіча многія палічылі ў вёсцы дзіваком: забараніў жыць у калгасным доме сыну — і хоць ты што!

Звіняць у Стараселлі сякеры, спявае піла, хораша пахне смалой. Будуецца дом.

* * *

Калектыў вярнуў дырэктара. Цяпер, як і раней, Леанід Іванавіч Аляшкевіч сядзіць у сваім кабінеце. Сядзіць — не тое, пэўна, слова, бо каб сядзеў ён, а не быў заўсёды сярод людзей, то яны б і не адваёўвалі яго.

Гомельскі тлушчакамбінат не выканаў план васьмі месяцаў. Дырэктара выклікалі ў Навабеліцкі РК КПБ. На «дыван». Спыталі: «Абяцаеце паправіць становішча, Леанід Іванавіч?» Дырэктар не паабяцаў. Не змог. Паабяцаць — значыць пакрывіць душой. І было прынята рашэнне: вызваліць ад займаемай пасады!

У райкоме партыі перастрахаваліся — стары, апрабаваны метад: калі спытаюць вышэй, якія меры прыняты, каб паправіць становішча на камбінаце, першым — і галоўным! — пунктам прагучыць: дырэктара знялі. Колькі ў нас добрых кіраўнікоў зляцела з-за такіх вось перастрахоўшчыкаў! А рабочыя з тлушчакамбіната заявілі: вярніце нам дырэктара, іншага не прымем! Што гэта, калектыўная амбіцыя? Не, гэта калектыўны — і цвярозы! — падыход да справы. Людзі ў гэтай сітуацыі аказаліся вышэй, чым раённае начальства. Яны ведалі, па якой прычыне нс выканан план. Старое, дабітае абсталяванне, капітальны рамонт маянэзнага цэха зроблены няякасна. Ну, прызначаць новага кіраўніка, і што зменіцца? Тут хоць адразу двух дырэктараў давай, а карысці мала будзе. Зняць дырэктара — гэта не выйсце, няма нічога горшага, як зрабіць чалавеку балюча...

Сабралі сход. На яго прыйшлі нават рабочыя, якія былі ў адгулах, водпусках, працавалі ў іншых зменах, расказалі райкомаўцам пра свайго дырэктара. «Мы ж бачым, як стараецца Леапід Іванавіч. Але бяда, што не ўсё і ён можа...» «З людзьмі заўсёды ветлівы, для яго няма розніцы, ты інжынер ці просты рабочы — да ўсіх адносіцца з павагай, распытае пра жыццё, суцешыць, калі трэба, падтрымае. Ён наш!» «Чаму вы, перш чым прымаць у райкоме рашэпне, з намі не параіліся? Мы вас першы раз бачым. Гарбачоў больш з людзьмі сустракаецца, а ў яго ж не раён — краіна!»

Райком партыі атрымаў карысны ўрок. А мне радасна за людзей, якія заступіліся за свайго дырэктара, вярнулі яго. Гэта моцны калектыў, і будуць у яго працоўныя псрамогі!

***

Ліст ад сына адзінокі дзядзька Мітрафан атрымаў на нейкае свята. Стары быў пад добрай “муха” і, паколькі жыў адзін і не было

яму каму пахваліцца радасцю, хадзіў з хаты ў хату, трос кашчавай рукой:

–Пісьмо! Ад Сашкі! Жэніцца, каб яму! Гарадскую, відаць, мымру там абкруціў! Вот вам і Сашка! А вы з садоў яго ганялі! А-а-а! – І жартаўліва пагражаў аднавяскоўцам жоўтым ад папяроснага дыму пальцам. – На вяселле заве! Паеду! А як жа – паеду-у!..

На вяселле Мітрафан не паехаў, на другі дзень ён і ўвогуле пра яго не ўспамінаў. Так і цягнуліся дні. І раптам прыходзіць яшчэ адно пісьмо. Мітрафан на гэты раз быў цвярозы і ўжо не хадзіў па хатах, а толькі бурчэў сабе на нос:

— Ён жа халасцяк, Сашка мой. А як зразумець — «павіншуй з унукам»? Цьфу!

Пазней Мітрафан выпадкова знайшоў тое пісьмо. І жахнуўся: «Яна ж, гарэлка, і не такое можа зрабіць з чалавекам. Адзінага сына жаніць па-людску не атрымалася...» Выцер слязу.

З таго дня не п'е. Ні кроплі.

* * *

Гарадскія ў полі. Вяскоўцы прывыклі, што да іх прыязджаюць рабочыя, студэнты дапамагаць убіраць бульбу, караняплоды, нарыхтоўваць сена. Вёска апусцела, адны старыя ў ёй — некаму рабіць. А горад просіць есці. Просяць кавалак хлеба Віцькі і Колькі, Маруські і Зінкі, якія пакінулі бацькоўскі бераг, а цяпер прыязджаюць на падмогу.

Праляціць іх кароткае вясковае жыццё, вокам міргнуць не паспееш. Вернуцца гараджане ў свае кватэры, а ўспамінаць пра сваіх памагатых людзі будуць доўга. Адных — хваліць за старанне, а вось ад іншых у сябе прыйсці ніяк не змогуць, будуць рукамі толькі разводзіць: «Няўжо такія яшчэ могуць быць? Божухны, паверыць цяжка!»

Самую кепскую памяць пакінулі пра сябе ў падшэфным калгасе «Серп і молат» Чавускага раёна работнікі Магілёўскага завода па тэхналагічным ' абслугоўванні і рамонту вылічальнай тэхнікі Мікалай Шацікаў, Станіслаў Ёлкін, Васіль Веракса, Алег Сурганаў — усяго 9 чалавек. Выезд у калгас яны прыраўнялі да лёгкай прагулкі на прыроду, дзе павінны быць абавязкова гарэлка, брыдкае слова. Яны так і скажуць пазней: «Мы два тыдні рыхтаваліся...» Пасля такой падрыхтоўкі хлопцы з дыпломамі, што вяскоўцаў асабліва здзівіла і ўразіла, тапталі нагамі на злосць брыгадзіру Але Уладзіміраўне Бараноўскай буракі, рэзалі іх нажамі, крышылі. «Ты нас яшчэ

выхоўваць будзеш, дзярэўня!» Запусцілі шклянкай у жанчыну. Абразілі старшыню.

Адкуль такая непавага да людзей, да вырашчанага чужым мазалём на зямлі-карміцельцы ў гэтых гарадскіх пустацветаў?

Усё гэта не ўкладваецца ў галаву.

***

Луг пад Веццю. Непадалёк Дняпро. Цудоўныя мясціны. Едуць і едуць на выхадныя дні людзі. Больп за ўсё — з Магілёва. Ловяць рыбу, гуляюць у валейбол, футбол, бадмінтон. А дзед Сямён скардзіцца мне:

— Ну, і што яны робяць, неслухі? Утопчуць жа траву!

Ён не вартаўнік, не, ён — селянін, вясковец, і яму баліць, калі дзе не так з зямлёй. Папракае:

— Адняць бы ў іх легкавушкі, калі дарогі не бачаць!

Глядзім на луг, спачуваем лугу. Наўсцяж — сляды. Калі б толькі ад нагі чалавека. Ад легкавушак! Сляды глыбокія — каляіны, трава уперамеш з зямлёю, гіне. Налічваем каля дзесяці такіх слядоў, не ходзячы далёка. А калі увесь луг абысці? А калі ўсе лугі?

Чалавек сёння сеў за руль легкавой аўтамамашыны. З аднаго боку — добра: багата жыве, чаму не парадавацца за яго. З іншага ж — крыўдна: нейкай жалезнай робіцца і яго душа. Мыюць у рацэ тыя ж аўтамашыны, плямы ад бензіну і масла на траве, у вадзе. Калі паспяваюць грыбы — дзяруць з карэннем. Ламаюць ягаднікі — каб дома, седзячы на кухні, абабраць.

Сляды ў лесе. Сляды на лузе. Сляды ў полі.

А можаш ты, чалавек, пражыць так, каб не наслядзіць?!

## МАНАЛОГІ

М а н а л о г п е р ш ы, які належыць муляру БУ-214 аб'яднання «Гомельпрамбуд» Якаву Андрэевічу Сабалеўскаму:

— Задажджыла. Дажджы, дажджы... Восень, нічога не паробіш — такая пара года. Прывык. Чвэрць стагоддзя ўжо будаўніком працую. Круглы год пад небам. Завіхурыць, бывае, так, што свету белага не відаць, а рабіць жа трэба — людзі жыллё чакаюць. Успомніш пра іх — і цаглінку да цаглінкі, як прынята гаварыць, хоць цяпер больш з блокаў будуем. Але не, мая прафесія муляра яшчэ ў пашане, яшчэ доўга жыць будзе. Іншы раз азірнуся назад, прыкіну, што зрабіў — і лёгка на сэрцы, прыемна становіцца: багата,

Андрэевіч, зрабіў, багата. Не захваляю сябе, не. Проста бачыш, што недарэмна жыццё ідзе, добрая памяць застаецца. Але ці толькі добрая? Вось тут і паразважаць мушу. Так-так. Варта прыгадаць будаўніцтва якога-небудзь аб'екта — ці ўчарашняга, ці леташняга, ці нават пяцігадовай даўнасці,— і добры настрой як карова языком зліжа. Аўралы... Ёсць, праўда, адно прыемнае выключэнне. Будавалі мы шэсць гадоў назад дом для маласямейных у Навабеліцкім раёне. Матэрыялы паступалі акуратна, своечасова, ніхто не псаваў адзін аднаму нервы — кожны рабіў сваю справу быццам на адным дыханні. Душа, чэснае слова, спявала. Падумалася ж тады: можам працаваць, можам! Але то было, як я ўжо сказаў, прыемнае выключэнне... У асноўным жа прыкрыя, горкія ўспаміны застаюцца. Хочаш прыклад? Калі ласка. Дом на вуліцы Савецкай, там магазін «Дзіцячае адзенне» размешчаны. Нашаму ўпраўленню ён дастаўся ў спадчыну ў дзень свайго нараджэння, наша БУ, дарэчы, арганізацыя маладая, усяго дванаццаць гадоў, як створана. Дык вось, той дом мы здалі толькі чатыры гады назад. Парадокс? Парадокс, парадокс, братка. Да таго ж людзі ўжо жылі ў ім, а мы ўсё хадзілі недаробкі выпраўляць. Уяві цяпер маё становішча нават не як будаўніка, а чалавека. З якім тварам я павінен падыходзіць да дзвярэй, з якім настроем націскаць на кнопку званка, глядзець у вочы жыхарам? А-а! А мне даводзілася. І не раз. Здаецца, ад сораму скрозь зямлю гатовы быў праваліцца. Не будзеш жа кожнаму чалавеку растлумачваць, што не мая тут віна, а тых, хто павінен своечасова забяспечваць нас матэрыяламі, клапаціцца пра тэхналогію будаўніцтва. Яму, праўду кажучы, не лягчэй будзе, пачуўшы такое. Яму трэба, каб кватэра, якую ён чакаў, вядома ж, не адзін год, была цёплай, утульнай, прывабнай.

Тут яшчэ і такая думка. Вуліца Савецкая — цэнтральная ў горадзе, самая прыгожая і доўгая. І вось усе гэтыя гады яе «ўпрыгожваў» наш будаўнічы аб'ект. Восем гадоў па вуліцы ездзілі адказныя таварышы, але ніхто з іх не пацікавіўся, чаму ніяк не знікне з вачэй даўгабуд? Цікава? І мне.

Пра нас, будаўнікоў, анекдоты ходзяць. Я і сам магу іх з дзесятак расказаць, калі не больш. І пасмяюся. З самога сябе, атрымліваецца так. Крыўдна. Але што паробіш— праўда ёсць праўда: будуем мы яшчэ не заўсёды хутка і не заўсёды якасна. У нас, на жаль, так: спярша спячка, потым раскачка, а ўжо потым — гарачка. Прыцісnуць зверху — знаходзяцца і матэрыялы, і механізмы. Вось гэтае ўжо «зверху»! І чаму не можам жыць, каб не прыціскаць? Чаму? Ат не ж! Абавязкова ў нашым механізме нешта парвецца. Усюды ж

людзі заняты, усе вакансіі запоўнены, кожны і стараецца быццам, а нешта парвецца... І калі чэпэ, збіраецца на будоўлю амаль усё аб'яднанне, плюс субпадрадчыкі, а сам начальнік аб'яднання становіцца «генеральным брыгадзірам». З-за ітээраўцаў не прайсці. Разбіраюцца, шукаюць вінаватых. І — верыш? — крайнімі застаёмся мы, рабочыя. Старшыня прафсаюзнага камітэта Бойка неяк прама заявіў, быццам па нашай віне ўжо тры гады будуецца дом па вуліцы Юбілейнай. Ад здзіўлення заставалася толькі плячыма паціснуць. Ну, і як тут, скажы, было не абурыцца? Я сам добра помню: пачалі мы весці кладку першага вугла дома 6 лістапада 1984 года, а ўжо ў верасні наступнага было зроблена паддашкавае перакрыццё. Заставалася правесці 200 метраў цеплатрасы. Яе правялі толькі ў лютым 1987 года. За гэты час у будынку была раскрадзена сантэхніка, кудысьці зніклі ацяплялыныя батарэі. І зноў трэба было рабіць тое ж самае... Вядома ж, не бясплатна. Ды і колькі часу кату пад пяту! Іншы раз ад такой вось безгаспадарчасці ажно млосна робіцца, чэснае слова.

Да слова сказаць, побач з нашым даўгабудам выраслі тры прыгожыя жылыя дамы, там ужо жывуць шчаслівыя людзі. Пад адзін з іх толькі катлаван капалі год назад, а сёння гэты будынак ужо заселены. Што ж да нашай «каробкі», то яна так і стаіць пустая.

Зноў думаеш: а можам жа будаваць!

Можа скласціся ўражанне, што і мы самі, будаўнікі, не зацікаўлены, каб здаць той дом хутчэй. Глупства! Брыгада вельмі хацела — і хоча заўсёды, паверце мне! — укласціся ў рамкі плана, тады ж нам і прэмія за гэта. А так калі будуем, то — пшык. Гэта па-першае. А па-другое, многія з нас хутчэй атрымалі б і самі новыя кватэры, у тым ліку і я. «Хлопцы, для сябе будуеце, старайцеся ж, глядзіце!» Так нас заклікалі. І трапілі нашы хлопцы ў такое становішча, пра якое і расказаць нялёгка. Ужо і ключы бачыліся, трэнькалі ў кішэні... Ай, ды што там гаварыць! Кравец без ботаў, адным словам. Горш няма: бачыць дом, у якім і табе свеціць кватэра, а магчымасці пабудаваць яго хутчэй, нават у тэрмін — няма. То адно не прывезлі, то другое. Таго няма, гэтага. Можаш уявіць сябе на месцы будаўніка? Цяжка. Згодзен. Не хвалю, але і не віню хлопцаў, якія, атрымаўшы кватэру, шукаюць іншую работу. Хапіла ім тут, на будоўлі. Не кожны можа і далей так жыць і працаваць.

Пра ўсё гэта гаварылі не адзін раз начальніку нашага ўпраўлення. Паказвалі нават дамы, якія побач з намі ўзвялі такія ж будаўнікі, як і мы. Пыталіся: чаму ў суседзяў усё ладзіцца? Чым мы горшыя? Ну, чулі словы: «Пачакайце, хлопцы. Зажывём і гора ведаць

не будзем. Усяму свой час». Але нічога не мяняецца — да лепшага, я маю на ўвазе.

Усе зараз гавораць пра перабудову. Хораша, трэба сказаць, гавораць, правільна. Але пакуль такое ўражанне, што яна недзе побач ідзе, толькі не ў нас. Мы нібы наводшыбе, куды новае даходзіць у апошнюю чаргу. А для такой справы, як перабудова, глыбінкі не павінна быць.

Кульгаем мы яшчэ. І здорава. Белых нітак — вышчыкваць ды вышчыкваць іх. Эх! Вось зноў успомнілася... Будавалі адміністрацыйны і вытворчы карпусы для аб'яднання «Гамяльчанка», мяне туды на прарыў кінулі. Майстар Качаргін пазнаёміў з аб'ектам, растлумачыў, што рабіць, як. «Рабіць-то рабіць,— адказваю яму,— але ж ніводнай цаглінкі не бачу». А ён: «Папросіш кранаўшчыцу Лену, яна праз акно падасць. А разгрузіш сам. Так і з растворам. Ну, давай, давай, шавяліся!» Пацiснуў я плячыма, развёў рукамі: бачу, што не жартуе Аляксандр Іванавіч. Пазней, праўда, майстар выдзеліў падсобную рабочую, толькі з умовай, што заработак трэба дзяліць на дваіх. Прыкінуў: добрага, вядома, тут будзе мала, бо мне трэба зрабіць за змену дзве нормы, але ж калі адзін буду валтузіцца, то ці зраблю хоць адну, бо насіць жа цэглу трэба за трыццаць — сорак метраў. Пазной падсылаюць яшчэ адну падсобніцу. Дык мне што, пытаю, тры нормы, значыць?! Дзве яшчэ куды ні ішло, пастарацца, то можна адужаць. Але ж — тры! Не, людзі добрыя, з такой арганізацыяй набудуем мы.

Гавару гэта ўсё для таго, каб даць зразумець, колькі ў нас на будоўлі яшчэ дурной работы. І ўсё з-за таго, што ў свой час нехта прасядзеў у кабінеце склаўшы рукі, не падлічыў, не падрыхтаваў, але аклад, вядома ж, атрымаў. Магчыма, і прэмію. У нас пакуль яшчэ Патапавых няма — гэта ў кіно толькі. Вось. Ну, а вінаватыя, як ты і здагадаўся, нас, рабочых. Майстар яшчэ і пакрыквае, дарэчы, на тых дзяўчат, што цэглу мне падносілі. І не дакажаш, што для іх перацягаць па 600—700 блокаў з цэглай, а кожны важыць 7—8 кілаграмаў,— замнога.

— Дзённая норма грузчыка — семдзесят тон! — як адсякае Качаргін.

Ты б вось сам перанёс столькі, га? Маўчыць.

У нас на будоўлі багата яшчэ неразбярыхі. Ці будзе ёй калі канец? Гавару таму, што набалела. Іншы раз я твар ветру падстаўляю — духата ў сценах, асвяжыцца хочацца. Вецер ёсць. На будоўлі яго хапае. Толькі не той вецер, пра які мы цяпер гаворым на кожным кроку...

Ладна, хопіць. Гавары не гавары, а што зменіцца ад слоў. Цэглу трэба класці. Людзі жыллё чакаюць. А мне сям'ю карміць трэба.

М а н а л о г д р у г і, які належыць таксіступрыватніку Аляксею Пятровічу Мурашову:

— У Дзяржаўтаінспекцыі нас, такіх ахвотнікаў, сабралася багата. Гляджу— і знаёмыя твары ёсць: некалі вучыліся ў аўташколе разам. Весялей трохі зрабілася, бо фарміруецца калектыў таксістаў-прыватнікаў, і калі ў ім двоетрое знаёмых... Самі разумееце. Весялей, ага. Я, шчыра прызнацца, з недаверам аднёсся спярша да навінкі. Было. Баяўся, каб не праляцець. Свежая капейка, вядома, не пашкодзіць, для сям'і яшчэ шмат што купіць трэба — аўтамашына ўсе зберажэнні з'ела. Вось цяпер выпадак падвярнуўся, калі яна, аўтамашына, і выручыць павінна. Расказаць, адкуль у мяне грошы ўзяліся на «Жыгулі»? Адзіны, так сказаць, прыклад, калі цёшча тут не замешана. Назбіралі. Паціху, памалу. За пяць гадоў сумеснага жыцця з жонкай сабралі тры тысячы, восемсот рублёў зарабіў за месяц законнага водпуску — у калгасе з хлопцамі паднарадзіліся свінарнік адрамантаваць. Паўтары тысячы на вяселлі нам родныя і блізкія падарылі. Жонка, Валя, мне шыю перапіліла: «Давай, Лёшка, і тое купім, і гэта». А я калі ў Афганістане служыў, то слова сам сабе даў: у ляпёшку разаб'юся, а легкавую куплю! Чамусьці мне там дужа захацелася аб'ездзіць усю нашу краіну, палюбавацца ёю. Не, за мяжу мне не трэба, хопіць за мяжу... Мы часта так: сваёй Радзімы не ведаем, далей свайго горада ці вёскі не былі, а за мяжу рвёмся. Шмоцце вабіць. А ці ж гэта галоўнае? Таму я Валюшы сваёй цвёрда сказаў: «Купім і тэлевізар каляровы, і новую пральную машыну, і гарнітур у спальню. Пацярпі трошкі. Зараблю, рукі ж ёсць». Я, канешне, не меў на ўвазе, што «Жыгулі» мяне і выручаць будуць, думаў пайсці ўладкавацца на паўстаўкі яшчэ дзе-небудзь. Сто семдзесят на заводзе маю ды яшчэ рублёў семдзесят—восемдзесят падзараблю. Плюс Валя сто дваццаць прынясе, яна ў садзіку працуе — якраз і добра. Выкруцімся. Водпуск у яе доўгі, можна смела махнуць куды-небудзь. Хоць ма Алтай. А чаму і не? Паспеем.

Колькі я ўжо грошай налічыў? Тры тысячы, восемсот, паўтары... Пяць трыста. Дзе ўзяць яшчэ тры з хвосцікам? Пазычыць? Заікніся толькі, жонка адразу надзьмецца: «Кватэра пустая, а ты ў даўгі? Падумай, што ты робіш!» Маўчу, а сам ведаю ўжо, што хутка чарга падыходзіць. Зноў водпуск у свінарніку праводжу, толькі ў суседнім калгасе. Шабашнікам завуць — нічога, сцярплю. Па чатырнаццаць гадзін у суткі рабілі, ніякіх перакураў, сухі закон. Плюсуем яшчэ

тысячу. Многія шабашнікаў лічаць хапугамі, ведаю, нават у газетах пясочылі.

А мы каб рабілі на тым свінарніку па восем гадзін, ды так, як мясцовыя ммужыкі, то і зарабілі б з гулькін нос. Не, то не дармавыя грошы, гэта хто не спрабаваў таго хлеба, можа толькі так падумаць. Салёны хлеб. Ды і грошы тыя ў маёй кішэні доўга не паляжалі: дзе ўзяў, як кажуць, туды і паклаў. Дзяржаве вярнуў. «Жыгулі» ж для яе не каштуюць столькі, колькі я заплаціў. І калгасу добра. Усім выгода.

Дзве тысячы ўсё ж пазычыў. У бацькоў няёмка было пытаць — суседзі выручылі. Адны пяцьсот, другія трыста, трэція, Кавальчукі, і ўсю тысячу далі. «Калі вернеш, тады і добра».

Вось так у мяне і «Жыгулі» з'явіліся. Стаяць, праўда, пад акном, бо гараж пакуль купіць няма за што — яшчэ старыя даўгі вісяць. Аддаём патрохі, вяртаем...

Я з Дзяржаўтаінспекцыі расказ свой пачаў. Там нас прасеялі, як праз сіта: адны старыя, лейтэнант жартам параіў ім унукаў забаўляць, іншыя не маюць вадзіцельскага стажу, трэція трапляліся за парушэнне правілаў дарожнага руху. Я, як бачыце, прайшоў, раз вас вязу. Чырвонае святло. Пастаім. Да пяцідзесяці лічу — і зялёнае загараецца. Усё, можна ехаць.

Дык вось, на першым часе баяўся, каб не праляцець, ды і знаёмыя адгаворвалі. «Навошта, Лёха, машыну гробіць, яна ж не маленькія грошы каштуе!»

Першы раз выехаў на лінію, як цяпер помню, без асаблівага настрою. Хваліцца не буду. Хто б заліваў, а я не прывык. Па-першае, думалася, а што, калі ўхаластую праездзіш? Па-другое, крыху сорамна было. Ага! Вось, думаю, начальнік мой выпадкова сядзе ці дружок законны — і што тады? Браць грошы з іх ці не? Але жыццё само ўсё паставіла на месца. Падвозіў і знаёмых, і начальніка. Вязу і думаю: «Заплоцяць — не адмоўлюся, не — ну што тут паробіш?» Яны пытаюць — гэта я да прыкладу: «Ну, колькі з мяне, Аляксей?» Плячыма паціскаю... Маўчу. А Васіль Захаравіч, майстар з нашага завода, папракнуў нават, быццам мараль прачытаў: «Ты, Аляксей, не саромся, а калі ўзяўся працаваць, то вочы не адварочвай, а гавары, колькі там накруціла, а то так і без штаноў застанешся». Людзі разумеюць, як бачыце. Адна справа, калі я так проста еху ды падвёз каго-небудзь з добрых знаёмых, іншая, калі гэта мая работа. Верна?

Людзі ж розныя трапляюцца. Маладыя хлопцы — дык ёсць сярод іх нахабнікі адпетыя, як гавораць. Нявыхаванасць поўная. Плюхнуцца на сядзенне, разваляцца, цыгарэту ў зубы... Так і хочацца адчыніць дзверцы і павыкідаць з салона. І каго з сябе корчаць, як у

нас у вёсцы старыя людзі гавораць? З Кармянскага раёна я... Аднаго разу было. Выкінуў. За каўнер — і на тратуар. Селі два хлопцы і дзяўчына. Цiскаюць дзяўчыну... Цьфу! Брыдка! Ні грама сумлення. Яны, відаць, таксістаў за людзей не лічаць, ці што... Бо як жа можна так пры чужым чалавеку! І выкінуў! Не вытрымаў. Прыгразілі. Ну-ну, давайце, не такіх бачылі.

Аднаго разу бабульку вёз. Прыехалі да хаты — яна ў прыватным сектары жыве — а ў яе грошай няма. «Быў жа вузельчык, міленькі. Быў». Згубіла, відаць, старая. Добра, бабка, гавару, наступным разам аддасі. «Не, міленькі, пачакай, я ў суседкі пазычу, разлічыцца ж трэба». І суседкі дома не аказалася. Паехаў, не стаў чакаць, пакуль яна той рубель знойдзе. У яе там і рублёў тых...

Гісторый розных хапае. Пра ўсе не раскажаш.

Ну, а ці ёсць выгода працаваць таксістампрыватнікам? Ёсць. Тое, што некалі грошы на машыну затрачаны,— сёння на заднім плане. А так я іншы раз маю, калі пастараюся і пашанцуе, за адзін дзень і сорак рублёў. Чысценькімі. Дзень да дня — і ўжо, можна сказаць, вярну скора ўсе грошы, што пазычаў. Праз месяц, па маіх падліках. А там і кватэру абставім. Цяжкавата, праўда. А што лёгка даецца? Сядзець на канапе таксама бывае цяжка.

Таксісты-прафесіяналы, праўда, нас раўнуюць: маўляў, усе грошы, што зарабілі, сабе забіраюць. Але ж я працую яшчэ і на заводзе.

І «Жыгулі» мае ўласныя. І патэнт аплачваю. Зайздроснікі людзі. Купляйце машыны, калясіце па горадзе на ўласным транспарце, калі ёсць жаданне. Хто забараняе? Толькі мне здаецца, зайздрасць тут мае іншыя карані. Мы, прыватнікі, абслугоўваем пасажыраў больш культурна, ветліва. Я не ведаю выпадку, каб на нашага брата хто паскардзіўся, на іх жа, прафесіяналаў, сыплюцца нараканні. Канкурэнцыю ім мы саставілі. А?

Паездзіў па горадзе, цяпер вось — водпуск ёсць водпуск — знімаю таблічку, і ў падарожжа. Усіх грошай не заробіш, а паглядзець краіну хочацца. Вельмі. Не былі на Алтаі? Юрка Сасноўскі там жыве, служылі разам у Афгане. Хваліў Алтай. Паглядзім.

З вас рубель пяцьдзесят. Не, не, памыліўся.

Ну, шчасліва! А я паехаў. Гадзіны дзве яшчэ папрацую сёння.

М а н а л о г т р э ц і, які належыць гарадскому дзеду Сцяпану Уладзіміравічу Барашу:

— Што раблю, што раблю? Дзяцей ганяю. Садзік сцерагу. Яўген звольніўся — характару не хапіла, а я застаўся на пасту. А што? І

добра. Толькі вось перакос такі выходзіць: ад дзяцей сцерагу. Аб'явы расклеіў на слупах... Такога, значыць, зместу: «Бацькі, дзеці якіх будуць лазіць цераз паркан сада-ясляў, будуць аштрафаваны». Папалохаць і бацькоў трэба, няхай прыглядаюць за сваімі дзецьмі, а то іх на вуліцу выпусцяць, а самі тэлевізар глядзяць. А яны тут на галаве ходзяць. Дзеці, канешне. Гуляйце на сваіх пляцоўках, хіба для вас там разгону мала? Дык не ж, цягне, анціхрастаў, на тэрыторыю сада, а загадчыца мне, як адказнаму за парадак, на від ставіць. Чаго добрага, і звольніць можа. А я спраўна ўсюды рабіў, без заўваг. Не хочацца пад канец у галёш сесці. Неслухі калі ж. Яшчэ і дражняцца: «Дзед, дзед, барадзед». Я ім! І шыбы б'юць, і арэлі ламаюць. Пусціў бы, каб добра гулялі. А яны не прывучаны... А ліфт бачыў? Размалявалі, падрапалі. «Светка плюс Алік — любоў!» Не так дзяцей віню, як дарослых. Дзеці што — гліна, якіх мы вылепім, такімі і будуць. Страшна, што могуць не такімі быць, як нам трэба. Я з садзіка, з аб'екта свайго, часцяком назіраю... Вунь дарогу перабягае дзядзька, вунь... Чырвонае ж святло гарыць, а ён чэша. Малы з каго прыклад бярэ? З таго дзядзькі. З дарослых. Прастуе і ён, толькі па баках азіраецца — ці няма міліцыянера? Дзеці яго баяцца, а дарослым мора па калена.

Смеццявоз хутка пад'едзе, калі не бачыў, то звярні ўвагу. Паперкі, косці рыбныя будуць валяцца і ў ліфце, і на лесвіцы. Дзецям вёдры ў рукі — выносьце! Яны і натрусяць. А ці падбяруць? Адзін раз Вольга, прыбіральшчыца, захварэла, дык нагі не было дзе паставіць. Канвярцік адзін у ліфце тры дні ляжаў. З адрасам. Я падняў ды і аднёс, мараль прачытаў. Няўжо, гавару, не бачыце, што ваш канверт? Паднялі б хоць, гэта ж уліка! Яна мяне за дзверы, а пацан смяецца. З такім выхаваннем мы... Кхе-кхе... Ладна. Добра.

Мы цяпер пра перабудову ды пра перабудову. Тут і ў мяне меркаванне ёсць. Я так кемлю: перабудоўваць цяжэй, чымся зноў будаваць. Дом, скажам, зрабілі, а яго не прынялі: перабудаваць, так, хлопцы, не пойдзе справа. Не, скажуць будаўнікі, мы лепш новы зробім, чым гэты перабудоўваць. Так? Так. А чалавека як перабудаваць? Як, вот адкажы мне? Таму трэба дзяцей ад калыскі вучыць усяму па-новаму, каб потым не перабудоўваць. Тую ж дарогу пераходзіць. А чаму дзеці стараюцца без чаргі ў магазіне купіць? Таксама бачаць, што дарослыя лезуць, сораму не маючы. Не-е, дзеці ў нас такія, як і мы, дарослыя. Лісток на дрэве жаўцее не адзін — усе разам, дружна.

Таму я так і кемлю: не будзе дурнога прыкладу для малечы — яна залатой вырасце. І ў магазіне будзе стаяць у чарзе, і курыць не

будзе з рукава, хаваючыся: ім жа карціць паспытаць — ці смачна? І дарогу пяройдзе толькі на зялёнае святло. Правільна ж у нас гаворäць: у хворых бацькоў і дзеці хворыя. Думаю ж: а хто вырасце вось з гэтага карапуза? Рабочы? Касманаўт? Артыст? Нехта вырасце, цяпер вучыся толькі, усе дзверы адчынены. Але ж хочацца, каб чалавекам перш-наперш стаў. Каб потым не перабудоўваць яго.

У мяне іншы раз так настрой сапсуецца, што таблеткі каўтаю — не спіцца. Калі не за дзецьмі, а за дарослымі паназіраю. Паменела ў нас дабрыні, растрэслі яе недзе, пакуль да такога вось заможнага жыцця прыбіваліся. Раней жа як было? Жабрак па вуліцы ідзе — апошнім з ім падзелішся. Цяпер і жабракоў быццам не відаць, але ці далі б яму? Э-э! А сабак колькі ў нашым раёне бяздомных? Вунь яны на каналізацыі грэюцца. Эх, людзі, людзі... Павыкідвалі, а раней жа, мусіць, лашчылі іх, а як толькі хаты знеслі і ўсім кватэры далі ў высокіх дамах — не трэба сабакі сталі, няма чаго вартаваць. Аддзячылі за службу. Чарсцвеем, душу губляем. І пакуль зноў дабрыні ў нас не накопіцца — не знаю, чаго заўтра чакаць. Хоць мне што? Я, можна сказаць, не сёння, дык заўтра... Вам жыць. За вас баюся. Багацце гэтае душу заняло.

Я вось дні два назад з унукам Пецькам у магазін пайшоў. Па дарозе размаўляем. Пецька пытанні падсыпае, ён цікаўны хлапец, толькі паспявай адказваць. Каля танка праходзім на плошчы Паўстання. Унук, значыць, пытае: «А ты, дзеду, таксама танкістам быў?» Быў, адказваю, акурат на такім вось танку ваяваў. «А колькі ж ты немцаў забіў?» Бач ты яго, жэўжыка... Сур'ёзнае пытанне. Адказваю: «Я вайну, унучак, забіваў».— «Вайну? А яна што, жывая?» — «Была, была жывая...»

Тут і магазін. Заходзім. Працягваю пасведчанне, прашу зважыць два кілаграмы цукерак — Пецька ласы да іх, ды і з сабой часта бяру ў садзік, дзеці да мяне тады ліпнуць, а з імі пагаварыць іншы раз цікава. Частую. Ну, на мяне тут і накінуліся. «Усе вы такія ваякі! Толькі без чаргі лезеце! Хто ваяваў, таго няма!» Драбяза, а так абразіла. Не, гэта не самі яны гаварылі — гэта гаварылі іх бацькі, чужыя цёткі і дзядзькі ў такіх вось чэргах, дзе нас, франтавікоў, неаднойчы зневажалі. І такія вочы былі ў людзей ненавідзячыя, каб, здавалася, вінтоўку ім у рукі ўклаў — застрэлілі б, яй-бо. Нёс цукеркі ў пакеце, а яны такімі цяжкімі здаліся, што ледзьве да кватэры датупаў. Прылёг на ложак, а Пецька пытае:

— Ты, дзядуля, схлусіў, што ваяваў?

Адказваю:

— Не, Пецька, не, я табе праўду гаварыў. Ваяваў. Гэта людзі не ведаюць. Я ім не расказваў...

Крыўдна. Нас-то і засталося! Вунь і Макаравіч адышоў.,.. Адзін я застаўся ў доме. Адзін... І цесна. Эх, ёстваю! Ці падабрэем калі? Хочацца, каб падабрэлі людзі, каб Пецьку, унучыку, лягчэй жылося...

## ГАРАДСКІЯ І ВЯСКОВЫЯ МАТЫВЫ
## ПАСЛУХАЙ, Я ТАБЕ СКАЖУ...

Ты адзін дома? Жонкі няма? Паслухай, я табе скажу... Пра што гэта я хацеў? Ага, дык, значыць, пяцёркі не хапае. Выручы. Пазыч. Адразу вярну. А мо на дваіх з табой пляшку, га? Не п'еш. Новую, значыць, п'есу пішаш. Давай, давай. Адну спектаклю глядзеў, глядзеў. Па тэлевізары. Пра Хвядоса. Ён што, сапраўды быў, Хвядос той? Быў, гаворыш. Душа. Душа-а! Такія і вынеслі ўсе нягоды. Во, за пяцёрку дзякуй. Ты ж ведаеш — не п'ю, але нешта сёння замуліла. Раз у месяц можна. Як думаеш — можна? Я, праўда, у саюз цвярозасці ўступіў, ці як ён там называецца, але ўсе ўступаюць... Плаці ўзнос — і член. На Дворнікава, гавораць, даюць. Па дзевяць дзесяць. З Колькам скінемся. Пабег шукаць таксама пяцёрку. Знойдзе! Колька знойдзе! Паслухай, я табе скажу... Колька — чалавек, бяда толькі, што завадны: кропля ў рот трапіць — і пайшоў кругі выпісваць. Увесь «сельмаш» абсвішча, але пляшку знойдзе. З-за такіх, як Колька, і Указ прынялі. Не трэба, гаворыш, з ім выпіваць? А з кім? Ты пішаш, некалі. Сцёпка на дачы, гарам бы яна гарэла, дача. Юр'евіч? Ён толькі пра вайну расказвае ды нагой сваёй драўлянай рыпіць. Трэба будзе памагчы яму гараж будаваць — новы «Запарожац» далі. Каля пажаркі месца выдзелілі. Пад акном. Добры чалавек Юр'евіч, хоць і чарку з ім не браў. Вунь, вунь Колька з пад'езда выбег — ад Саладкоў. Не выгарала. Куды гэта ён? Да Панцюховых, відаць. Паслухай, я табе скажу пра Кольку. Рабілі мы з ім разам, на зборцы стаялі. Вось у газетах пішуць, а я выпісваю і чытаю «Труд», абласную, «Сельмашавец», праграмку, ага, вось у газетах пішуць: чаму камбайн да ладу давесці ніяк не могуць? Колькі гэта мы ўжо б'ёмся? Гадоў дзесяць? Не, больш, больш. Яшчэ Трафімук, нябожчык, вазіўся з ім. Ну ты, канешне, ведаеш — генеральны канструктар быў такі, Георгій Аляксандравіч. А яму трэба было расфарміраваць сваё канструктарскае бюро к чортавай матры. Га? Калі не вераць людзі, што яны нешта могуць зрабіць, то навошта месца займаць? Саступіце. Рассуньцеся. Я правільна гавару? Не, я правільна гавару. Сухі, зямляк наш, яму помнік на праспекце Леніна

стаіць, сваё самалётнае бюро разагнаў і вокам не міргнуў, бо людзі ўсё, што маглі, з сябе выціснулі, На больш іх не хапіла. А новых набраў. І пачаў выдаваць самалёты. На любы манер. А-а! Дык я пра Кольку хацеў... Дзівак ён, Колька! Дзівак, я табе прама скажу. На зборцы, значыць, стаім, «КСК-100» збіраем. Болт не залазіць — ён малатком яго пялёх, нажывіў гайку як змог, а там няхай разбіраюцца. Я ўяўляю, як у вёсцы механізатары Кольку мацюгамі паліваць будуць. Х-ха-ха-ха-а-а! Во! А мы ўсё рашаем праблему ў саюзным маштабе — чаго нашы камбайны не робяць спраўна, больш стаяць, чым ездзяць... Косяць, косяць — так дакладней будзе. Колька малатком. Мішка малатком. Грышка малатком. А камбайн трэба збіраць, як нешта жывое. Ласкава трэба. Што — не так? І я гавару: так. Дзе ж там Колька? Не відаць. Ад Панцюховых ягачэ не выбягаў. Паслухай, я табе скажу... Нео, скажы ты мне: вот усе ж бачылі, што камбайн цяжкі, непаваротлівы, што слон, луг так утопча — трава на другі год не вырасце, а чаму адрнзу не прызналі, што лухта, а не машына?

Маўчыш. Паслухай, я табе скажу... А баяліся прызнаць адразу сваё паражэнне. Га? Як піць даць баяліся! Думаеш, я не разбіраюся ў заводскай палітыцы, хоць і не кручуся сярод начальства, хоць радавым слесарам раблю? Ды я гэты «сельмаш» наскрозь бачу! Я ж тут нарадзіўся, вунь на Азёрнай. А трэба было набрацца смеласці, сказаць і не шугаць грошы на вецер: здаёмся, браткі, як хочаце біце нас, але ад камбайна адмаўляемся, будзем рабіць новы, калі, вядома, нам дазволіце, а стары давайце забудзем. Э-э-э! То-та ж!

Колькі там гадзін? Яшчэ ёсць час, паспеем. Колька знойдзе. Нешта не відаць яго. Бегае. Шукае. Ага, у мяне дружок у інжынерным корпусе засеў. Парасказваў. Двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Гіталава ведаеш? Ну і я так, як і ты — па газетах, тэлевізары. Ён пісьмо прыслаў на завод, расхвальвае камбайн. Толькі мне здаецца, што не мог таварыш Гіталаў скласці тое пісьмо. Тут нешта не так. Белыя ніткі бачны. Паслухай, я табе скажу... Навошта яму, такому вядомаму чалавеку, Герою, было тое пісьмо пісаць? Што за пісьмо? Не чуў? Багата згубіў, калі не чуў, я табе прама скажу. Прачытаўшы яго, можна рукі скласці і нічога больш не выдумляць: лепшага камбайна, чым «КСК», няма! Нажыўка! І клявалі! Камісія якая — ёй пісьмо, чытайце! Сам Гіталаў хваліць! Доўга так і затыкалі рот, калі хто спрабаваў яго раскрыць, каб кепска пра камбайн выказацца. А мне здаецца, што яму камбайн падсунулі, сабраны па ўсіх правілах, ці запчасткамі завалілі за пісьмо. Аддзячылі. Хоць яго, «КСК», як ні збірай — развалюха ён і ёсць

развалюха. А ты як думаеш? «Хто яго ведае». Вось-вось, хто яго ведае, той — ведае, з чым трэба есці наш хвалёны спярша было камбайн, каб зубы не паламаць.

У цябе можа скласціся думка, што я сябе ругаю. Ну, сябе. Таксама не анёл, было... Грошы плоцяць дурныя, можна сказаць, пакруціўся ў цэху, нешта зрабіў — так ці не так, а там няхай разбіраюцца. Раней, праўда, так было. Чаму я вось за пяцёркай да цябе? Калі пазычаў яшэ я? Сам не прыпомню. А цяпер — ёк! Прыцiснулi. Атрымлівай, што зарабіў. Пашыкавалі — хопіць. Я вярну, пятага аванс, як і абяцаў. І паслухай, я табе скажу... Ты вось бацькоў сваіх любіш? Паважаеш? І я. А завод — наш бацька. Ён корміць, поіць, апранае. Да пенсіі. А чаму мы яго падводзім пад манастыр? Маркай не даражым — чаму? Загадка, думаеш, брат? Не. Дзеці ў тых бацькоў, якія і магнітафоны ім, і джынсы-штроксы, і на кішэнныя расходы,— хрэновыя дзеці. Яны толькі сябе цэняць. Я вунь на суседзяў гляджу... Так і на «сельмашы». Заработак добры, кватэра — не праблема. Вось людзі, лёгка дабіўшыся ўсяго, і забываюць свайго бацьку, сябе толькі паважаюць. Я — не, я кватэру атрымаў законна: дом знеслі.

Ну, дзе там Колька? Шукае? Колька знойдзе. Паслухай, я табе скажу... у нас як сход які, ніхто патрыятычнай прамовы не выдаў, каб я праслязіўся... ці хоць бы зразумеў нарэшце, што трэба, Міця — мяне, дарэчы, Міця завуць, цябе я ведаю як — што трэба, Міця, узяцца, рукавы падкасаць ды працаваць, ёлкі-палкі, а не Ваньку валяць. Усе па паперках, складна агітуюць. Але без душы. У мяне такое ўражанне, што таму чалавеку, які заклікае з трыбуны, таксама ўсё роўна, што робіцца на заводзе. Ага! Выдаў прамову — і справа зроблена, галачка ёсць: праведзена мерапрыемства. А ты мне выдай прамову, каб яна ў мяне слязу выбіла! Вунь Валянціна Лявонцьева ў перадачы «Ад усёй душы»... Умее. А ты мне скажы: хлопцы, маць вашу, колькі ж можна нам брак выпускаць, калеку, давайце, родненькія мае, давайце, міленькія, разам возьмемся. Разам! Мы ж — савецкія людзі, мы ж вайну выйгралі, немца на лапаткі расклалі, а нейкага камбайна сабраць не можам, каб перад сялом сорамна не было, перад людзьмі, якія нам і малачко, і бульбачку, і мяса. Кармільцы ж яны нашы, а мы? Словам нейкім трэба нас звязаць у адзін вузел. Кожны чакае такое слова, а пакуль жывём паасобку. Вунь у космасе караблі лётаюць, сустракаюцца там... А і праўда, у галаву не вазьму: як у тым космасе карабель можа знайсці станцыю. У нас скрынка з метызамі на заводзе згубіцца, і канцоў не знойдзеш. Павязуць у адзін цэх — шукай у іншым, а іншых багата. Дык я пра

што? Пра прамову... Вунь у космасе сустракаюцца, а мы? У розныя бакі едзем. Паслухай, я табе скажу... Мы ж кожны дзень ядзім па тры разы законна — так і скажы, чаго там! — і няўжо не думаем, адкуль у нас, рабочага класа, авангарда, усё на стале. А мы давайце будзем помніць! Ну дык што, родненькія мае, зробім камбайн — ды такі, каб з яго запчасткі па дарозе не сыпаліся? І, упэўнены на ўсе сто, падзейнічала б. А то лозунгаў панавешваюць, іх ужо ці чытае хоць хто, га? Як думаеш? Яны ж на адзін манер. «Таварышы сельмашаўцы! Выканаем пяцігодку за чатыры гады!» А навошта нам за чатыры? Не трэба. Нам спярша трэба добры камбайн паставіць на канвеер, а тады заклікаць. Бо чым мы іх менш паставім сялу, тым лепш. Бо навошта ён, такі камбайн? А мы спяшаемся. Куды? Куды, га? Вось калі машына будзе — як хоць бы трактар «Беларусь», тады, я разумею, і лозунг можна пачапіць, калі вы ўжо без яго пражыць не можаце.

А Колька ўсё бегае. Ну няхай, няхай пагойсае, яму пасля ўчарашняга карысна. Паслухай, я табе скажу... Пра працэнты — хочаш? У нас каб больш працэнтаў даваць. Сто дзесяць, сто дваццаць... Чуеш? А калі і ўсе сто восемдзесят, а то і дзвесце — тады маланка, газета, падзякі. А я такіх людзей крытыкаваў бы. Смяешся? Крытыкаваў бы, як піць! Ты зрабі сто, але добра. А-а, бачу, не разумееш. Працэнт да працэнта павінен ісці, каб не больш і не менш. Калі ўсе па сто — самы раз, нам больш і не трэба. Роўненька будзем ісці, быццам за рукі ўзяўшыся, і цвёрда. Кожны дзень зробім тое, што і трэба. А то адны наварочаюць дэталей, валяюцца яны пад нагамі, блытаешся толькі ў іх, як у аўсе. Помніш, у дзяцінстве? Поле... Авёс... Жыта... Ну. А ты зрабі сто працэнтаў — і беражы сілу для наступнага дня. Смак павінен быць. Тут як з жонкай, ага. Калі часта, то... Ды што я табе расказваю, не маленькі.

Колька чэша. Не, міма. Гэта ён да Макаравіча паляцеў. Ён, Колька, таксама хацеў да цябе падысці, але пабаяўся. Яго разок у газетцы пранячаталі, то цяпер абыходзіць стараной карэспандэнтаў. Паслухай, я табе скажу... Вось зноў камбайн возьмем. «КСК». Начаплялі на яго жалеза — танк ідзе, зямля дрыжыць. Правільна? Правільна. А цяпер распранаюць, дэталі лягчэйшыя робяць. Трэба. Прыдумаюць нешта новае канструктары, знойдуць — і за гэта ім прэміі. За вынаходніцтвы. А каму, каму прэміі? З іх яшчэ вылічваць трэба, з канструктараў, таму што па іх жа віне наладкі, пераналадкі, новыя лініі, штампы... А цяпер давай усё па-новаму круці. Круцяць! За новую думку грошы плоцяць, а за старую па галоўцы гладзяць. Свае ж памылкі выпраўляюць за дзяржаўны кошт. Свае. Дык якія

тут, пасуньцеся, прэміі? У мяне дружок, я ўжо гаварыў, у інжынерным корпусе засеў, то парасказваў. Гэта, відаць, у нас толькі так можна. Краіна багатая, грошай не шкада. А я б, каб вышэй сядзеў, паказаў бы ім, спецыялістам, мацъ іх!.. Выбачайце, калі што не так. Баліць. Ага.

Колькі там націкала? Што, ужо палова сёмай? Во разгаварыўся. А дзе ж Колька? Не, відаць, сёння не знойдзе. Асадзі назад. Не той час. Хоць і знойдзе, усё роўна не паспеем узяць. Пакуль дойдзеш, а там, як заўсёды перад канцом, чарга. Слухай, прымі назад пяцёрку... Не спатрэбілася. Трымай, значыць. Ты толькі на мяне не падумай нічога кепскага. Па мне што ёсць, што няма... Колька прычапіўся: давай, сусед, арганізуем. Распаліў апетыт, халера! Ну, Колька! Ну, пузыр! Пайду, спыню яго, а то так і будзе насіцца з пад'езда ў пад'езд, як пчала яго ўджаліла за адно месца. Пішаш нешта, гляджу? Ну, пайду... Не буду перашкаджаць... Хвядос, гаворыш, жыў? Добры чалавек. На майго дзеда падобны. А во, брат, і без камбайнаў былі ж яны, Хвядосы, а нас за вушы выцягнулі з балота. Такім помнікі трэба ставіць. Пайду я... Да пабачэння... Пішы, сусед, пішы... Пачытаем.

**БУФЕТ**

Жыў-быў буфет. У паважанай, саліднай арганізацыі. Месца для яго прызначылі ў падвале, за цяжкімі тоўстымі дзвярыма, і па збітых прыступках туды часта спускаліся саслужыўцы, усміхаліся Ларысачцы — так цёпла, міла яе называлі. Яшчэ б! Не будзеш артыстам, і хто ведае, ці атрымаеш жаданы пакунак. Мо і атрымаеш, але худы, ды і прысмакі ў ім будуць менш каларыйныя.

Ларысачка таксама ведала, каму ўсміхацца, каму — не. Навошта перад радавым супрацоўнікам выгінацца? І так добра будзе, пераджыве. Вось калі сам Іван Іванавіч загляне — іншая справа, хоць Іван Іванавіч, трэба прызнаць, тут нёс высока марку кіраўніка ўстановы і ад буфета трымаўся падалей. Навошта спускацца па тых прыступках, калі Ларысачка сама прынясе пакунак. У кабінет. У шафу. Іван Іванавіч адлічыць грошы, а сам і не спытае нават, што ў пакунку. Зноў жа — навошта? Ведае: каго-каго, а яго буфетчыца не пакрыўдзіць, бо такое месца, як у падвале, пашукай яшчэ.

Раз у тыдзень, а перад святамі і таго часцей, у калектыве ўсе толькі і жылі размовамі пра буфет.

— Каўбасу прывязе Ларысачка.

— Якую?

— Варануе.
— Закармілі каўбасой!
— Дык не бяры!
— Усе ж бяруць. А тушонку, не чулі, мелася яна прывезці?
— Абяцала. Яшчэ пячонку быццам.

Пазней супрацоўнікі раз-пораз выглядвалі ў акно. Аўтамашыны на двары пакуль не відаць. А ім не да працы. Думкі займаюць каўбаса, тушонка, цукеркі ў прыгожых карабках. Нарэшце падрульвае грузавік, і супрацоўнікі, быццам не бачылі яго, моўчкі адыходзяць ад акна, перакладваюць на стале паперкі — ствараюць уражанне занятасці, бо нехта зараз прабяжыць па кабінетах ад Ларысачкі, падасць каманду:

— Разгружаць, хлопцы!

Хлопцы не адрываюць вачэй ад стала — хіба пе бачыш, што працуем?

Кабінеты зноў аблятае каманда:

— Разгружаць, хлопцы!

Той-сёй не вытрымлівае, устае, пацягваецца. Ідзе. Носіць скрынкі. Іншым удаецца ўслізнуць, але ў чарзе стаяць тыя, як правіла, першыя. Буфет, можа, лепш, чым само сацыялістычнае спаборніцтва, высвечвае людзей, дзеліць іх на розныя катэгорыі — лайдакоў, серадняччкоў і працавітых.

Дзяльба ідзе па стэрэатыпу: усяго патрошкі — каб на ўсіх хапіла. Хто ж гэтыя УСЕ? Тут якраз варта агаварыцца, бо многія ў чарзе не ведаюць адзін аднаго, толькі і сустракаюцца тут, у падвале. У Ларысачкі, вядома, таксама патрэбныя людзі ёсць — сваякі, цырульнік, урач, краўчыха... Атрымлівайце! Паспрабаваў аднаго разу Балацянкін заўвагу зрабіць буфетчыцы: каго ж ты адпускаеш, Ларысачка? Гэта ж чужыя людзі! Я ў іх прафсаюзныя ўзносы не браў! Ларысачка зрабіла выгляд, што не заўважыла Балацянкіна, калі падышла яго чарга, глянула на жанчыну, якая стаяла за ім:

— Што вам?

Больш ніхто не асмельваўся рабіць заўваг.

Тут, у чарзе, стаіць цырульнік Івана Іванавіча — кажуць, лепшы ў горадзе. Тут і спецыяліст па рамонту ўласных аўтамашын. Тут і...

— Табе не хапіла,— глядзіць на ціхмянага, непрыкметнага з выгляду Сідорчыка Ларысачка.

— Як жа так? — лыпае той вачыма, падбірае нейкія словы, каб выказаць пратэст.— Я...я...

— Менш спаць трэба! — апярэджвае яго буфетчыца, выцірае рукі.— Усё. Зачыняю. Хочаш, кансервы бяры — яны ёсць.

— Паслухай, а чаму мне не хапіла? — нарэшце прыходзіць у сябе Сідорчык, бо недзе і яго за жывое ўзяло: усім, значыць, ёсць дэфіцыт, а я чым горшы? Што жонка скажа? І так заклявала, што ты, Сідорчык, з-за работы белага свету не бачыш.

— Скардзіся Івану Іванавічу! — за словам у кішэню Ларысачка не лезе, махае на Сідорчыка рукамі, каб той хутчэй вымятаўся.

Сідорчык разумее, што скардзіцца дарэмна: сваё ж не аддасць начальнік. Гэта якім трэба быць начальнікам, каб пагрэбаваць тым пакункам дзеля падначаленага? Пакуль Сідорчык, хоць і два гады яму засталося да пенсіі, такога не сустракаў. Ды і не будзеш жа даказваць, што тэрмінова трэба было дапісаць адну важную паперку, з-за яе вось без пакета і застаўся. Не паверыць Іван Іванавіч. «Якія могуць быць паперкі, калі сёння завоз у буфет?»

Іншы раз супрацоўнікі крытыкавалі Ларысачку. Не, не пры ёй — за вочы. І што яна, хоць нічога і не заканчвала, не мае дыплома таго ж аб вышэйшай адукацыі, а паводзіць сябе так, як міністр.

— Пара паставіць яе на месца! — крычаў Сідорчык. Ён, вядома, быў абураны больш за ўсіх.

— Што хоча, тое і вырабляе! — гаварыў другі.

— Хітрая ж — Івану Іванавічу ў кабінет заносіць! І намеснікам яго, дарэчы. Ды такія пакеты, што не кожны з нас падняць зможа! — чуўся голас трэцяга.— Не, вы як хочаце, а я гэтае пытанне так не пакіну! Выкажуся на сходзе! Будзе цярпець здзекі! Пастаўлю Ларысачку на месца! Яна ж нас прыніжае. Людзі, дык колькі ж можна, га? Вяроўкі ў'е, а мы маўчым. Я, калі хочаце, самому Івану Іванавічу.... Слабо?

Тут заглядваў у кабінет Іван Іванавіч, касіў вачамі на супрацоўнікаў, і тыя замаўкалі.

— Працуеце? — пытаўся начальнік, цёр шкельцы акуляраў.

— Як бачыце, Іван Іванавіч,— чырванеў Сідорчык, хоць на яго белы твар не прыставаў ніколі загар.

— Працуйце, працуйце,— і зачыняў за сабой дзверы.

Пазней пракацілася чутка, быццам буфет зачыняць. Расфарміроўваюць, так сказаць, стол заказаў, пад якім ён схаваўся. Дзве хвалі адразу ж пракаціліся па гэтай арганізацыі: адны ледзьве не крыкнулі «Ура!», бо хоць і някепска было з буфетам, але даражэй — шчыры гандаль, ды і Ларысачка пацерпіць, няхай цяпер на вуглу піражкамі гандлюе, Івану Іванавічу і яго цырульнікам і аўтаслесарам перападаць не будзе больш, чым таму ж Сідорчыку. Іншыя былі

катэгарычна супраць, нават паскардзіліся ў належную арганізацыю, што крыўдзяць не па заслугах. З належнай арганізацыі паведамілі, таксама без асаблівай радасці, што зачыняюць буфет і ў іх.

Прайшоў год, як перастаў існаваць буфет. Ларысачка сапраўды гандлюе піражкамі. Змянілася з твару — прычоскі, відаць, робіць у парадку чаргі, а на частыя візіты ў цырульню не заўсёды выкраіш час. Што ж тычыць супрацоўнікаў, уключаючы сюды і Івана Іванавіча, то яны жывы-здаровы, не пахудзелі. Купляюць цяпер у магазіне тое, што і ўсе. Адзін стол заказаў у нас стаў — для ўсіх. Што бачыш, тое і бяры. І суседу радасна: Іван Іванавіч зайшоў неяк, прапанаваў яму:

— Давай, Пятровіч, па магазінах прабяжым?

Ад таго радасна суседу, што змянілася нешта ў нашым жыцці, бо і ён, слесар шостага разраду, ідзе ў магазін разам з Іванам Іванавічам. Як роўны з роўным. Як працаўнік з працаўніком.

А ў калектыве, да слова сказаць, павысілася вытворчасць працы. Траіх чалавек скарацілі нават, а паспяваюць людзі рабіць усё тое, што і дагэтуль рабілі. Толькі крыху больш. Здагадаліся чаму? Ну, вядома ж, яшчэ адзін дзень прыбавіўся да тыдня — той, што трацілі раней на разгрузку і на чаргу ў буфеце. У магазіны ж усе ходзяць пасля рабочага дня.

Добра, што жыў-быў буфет. Няважна дзе, у Гомелі, Брэсце ці Мінску, але добра...

## ПАЛАТА №...

Яна прыйшла да мяне на кватэру, назвалася Валянцінай Паўлаўнай, папрасіла выслухаць. Прыселі. Вось ён, расказ жанчыны:

— Хварэю я часта. Калі ўсе хваробы пералічваць, то багата набярэцца. Ну ды гасподзь з імі, вы ж не доктар — не з гэтым я да вас. У кардыялагічным аддзяленні ў нашай бальніцы ёсць загадкавая палата. Так, так, не здзіўляйцеся. Я раней яшчэ заўважыла, гады тры назад. З сэрцам ляжала. Якраз наша палата была насупраць, то калі дзверы адчыняліся, жанчыны стараліся хоць вокам заглянуць, што ж там. Раскошная, скажу вам, палата. Халадзільнік стаіць. Ложак на калёсіках. Мужчына тады лячыўся там. З транзістарам усё на прагулку выходзіў. А толькі яго выпісалі, жанчына з'явілася. Мажная, прыгожая з твару, не буду гаварыць. Адзене спартыўны касцюм — і на ноч дамоў. Ага, дамоў. Мы тады дзяжурнаму ўрачу паскардзіліся: «Што ж гэта такое— ёй, значыць, можна, а нам?» А ўрач: «Не ваша дзела!» Злосна так. Ну, мы і перасталі скардзіцца. А самі за жанчынай

тойназіраем. А як жа! Яна ж не такая, як мы ўсе, грэшныя,— цікава! Бачыце вы яе, бегаць на ноч дамоў ці куды там — можна, тут здаровая, а каб хоць раз у сталоўку схадзіла. Не бачылі. Заносілі ў палату ежу. Посуд выносілі. Прынцэса! Не, каб жа хоць была чалавекам, а то глядзіць на ўсіх звысоку, з пагардай: маўляў, хто вы такія? Не крыўдна, скажаце? Чаму адным такія ўмовы, другім іншыя? Я разумею, разумею: трэба і такія палаты, для цяжкахворых, якім цішыня неабходна, але не для такіх, хто транзістар слухае. Бальніца ж дзяржаўная, і мы ў дзяржавы на аднолькавых правах. А пазней даведваемся: то — жонка начальніка. Жонка, бачылі? Яна нават нідзе не працуе. А я ж зваршчыцай рабіла як не ўсё жыццё, пакуль во здароў'е не падарвала. Яшчэ б калі сам начальнік — можна неяк змірыцца, хоць і начальніку паблажак не трэба даваць, а то запанее хутка.

Слухаеце? Далей гавару. Схапіла мяне зноў нядаўна хвароба, і — верыце? — мяне паклалі ў тую загадкавую палату. Я спярша не паверыла. Было ад чаго здзівіцца. Цішыня. Спакой. Ложак мяккі. Тут, думаю, калі паляжыш, то і дваццаці аднаго дня не трэба, як заведзена. Хутка, думаю, папраўлюся. На абед, праўда, сама хадзіла, на снеданне, вячэру — ніхто не прыносіў, а каб прыносілі, хлусіць не буду, не пярэчыла б. А чаму б і не пажыць, як каралева? Толькі заўважаць пачала я за тым жа сталом, што неахвотна ўступаюць са мной у размову суседкі, насцярожана трымаюцца. Чужая я для іх. Што ж, думаю, я нарабіла, навошта згадзілася ў тую палату лажыцца? Сумна ж там, а жанчыны і пагаворацъ сабе, і пасмяюцца. Смех — ён таксама лечыць. Памылілася, калі думала, што ў гэтым пакоі таямнічым рай. Памылілася. А як жа яны, выбраныя тыя, лечацца? Ці ім усё роўна — з людзьмі або без людзей? Абы, можа, каб не так было, як у другіх, каб хоць трошкі, а нечым адрозніваца? Усё, рашаю, хопіць для мяне такога лячэння, буду прасіцца да баб — у палату, з імі весела. А тут і выпадак падвярнуўся. Абыход якраз. Галоўны ўрач адразу ж, як толькі пераступіў парог, пытае ў Дануты, гэта мой доктар:

— А гэта жанчына чаму тут?

Данута зніякавела, нават разгубілася трошкі, ціха сказала:

— Лечыцца...

А галоўны:

— Прашу перавесці ў іншую палату. Нельга тут.

Данута ўздыхнула, кіўнула галавой: зразумела. А мяне злосць узяла. Калі раней хацела сама прасіцца адсюль, то цяпер, думаю, не саступлю. Бачыце вы іх — «нельга тут»!

Закончылі яны свой абыход ды і пайшлі. Адразу ж і каманда: пераходзь, Селязнёва, у іншую палату. Думала, што пазмагаюся, але не, не атрымалася, хуценька сабрала свае транты і патупала за сястрой. «Паказвайце, куды?» Так добра мне стала... А ўвечары з маёй былой палаты выйшла другая кабета. У халаціку, праўда. Бабы перашэптваюцца:

— Чыя жонка?

— Не ведаю...

— Мужык, відаць, зноў начальнік? Га, бабы?

— Хто яго ведае...

А мне падумалася: «Яны ж і пра мяне так гаманілі. Хто я? Чыя жонка? А ў мяне мужыка зусім няма. Дарэмна галовы ламалі». Ну, а калі я пра ўсё расказала, пасмяяліся. Сяргееўна, яна бухгалтарам рабіла, сказала, што такія палаты на кожным паверсе ёсць, аднаго прараба паўгода з паверха на паверх пераводзілі — пакуль ён рамонт у бальніцы не зрабіў. Толькі цікава — ад якой хваробы яны яго лячылі?

Дык вось і прыйшла, каб ведалі вы пра гэтую палату. У бальніцы я пабаялася сказаць, бо загадчыца аддзялення запомніць — на абыходзе не заўважыць. А то яшчэ не тыя лекі прыпіша. Можа быць такое? Не ведаеце? Сумняваецеся? Можа. Бо ў некаторых дактароў хоць і белы халат, але ў плямах. А я хачу прапанаваць, каб усіх лячылі аднолькава, а ў той палаце паставілі два ложкі. А халадзільнік на калідор. Для ўсіх. Можна так зрабіць? Можна. І трэба. Тады хворым лягчэй будзе... Яны ж — людзі, усё бачаць, усё чуюць. Я там прозвішча сваё назвала — Селязнёва я. Толькі не пішыце, а то я часта ў той бальніцы бываю... Разумееце мяне?

## РАПАРТ

Маруся Падачанка раніцай паехала ў райаддзел міліцыі, а ўжо пасля абеду таго ж дня ў Курганні толькі гаворкі было пра яе, пра Кольку, Марусінага мужыка, пра суседзяў, якім пасля паездкі той добранька аукнулася.

— Дурная баба! Ну, п'е Колька, дык навошта ж іншых пад манастыр падвяла? Хто цябе за язык цягнуў, Маруся? Эх ты-ы!

— Не, не мужык Колька: правучыў бы разок, дык ведала б!..

Маруся сядзела на лаўцы пад бэзам, церабіла пальцамі ражок хусткі, хлімкала. Жанчыны, у якіх мужыкі таксама не прамінуць заглянуць у чарку, супакойвалі.

— А так ім і трэба! Не будуць паіць нашых. У магазіые няма, а яны тут як тут: выпі, саколік, выпі. Даўно б так! Спасібачкі табе, Маруся, што адважылася і пра ўсё расказала...

— Не хацела я, бабы,— апраўдвалася Маруся, бо тут сядзела бабка Агрыпіна, і яна адчувала перад ёй віну.— Само неяк... Міліцыянер калі ж... Слова за слова... Спярша пра майго пытае: колькі зарабляе, ці ўсе грошы прыносіць? Грошы, гавару, усе аддае. «За што ж п'е тады? Дзе бярэ?» Дык і гавару: то вось баба Агрыпіна пачастуе...

— Так, так,— ківала Агрыпіна.— Пачастую,..

— Ты, цётка, даруй, я ж не думала, што так будзе...

— Што ты! Што ты! Мне ж штрапу далі ўсяго дзесяць рублёў,— варухнулася на лаўцы Агрыпіпа, паправіла на галаве хустку, махнула рукой.— Бяды тае!

— То, гавару, Мікіта напоіць,— працягвала Маруся.— А ён, міліцыянер, адразу: «А за што яго, Кольку, частуюць усе?» Як, дзіўлюся, за што? Ён жа і агароды старым узарэ, і сена косіць... За чарку ён гатовы ў ляпёшку разбіцца. А вып'е, тады мяне да агранома раўнуе, б'е.

— Колька такі. Ён і мальцом задзіраўся. У клубе шыбы павыбіваў. Ці помніце, бабы?

— Э-ге, э-ге,— сказала Агрыпіна, астатнія ківнулі.

— Гляджу,— гаварыла далей Маруся,— што ні скажу я, міліцыянер запіша. А тады устаў з-за стала, мне кажа: «Ну, Марыя Пятроўна, давязём мы вас да вёскі». Давезлі, праўда... Цётка Агрыпіна, ты не крыўдуй — я ж на Кольку, дурня свайго, жалілася, а так атрымалая, што суседзі пацярпелі,..

– Што ты, што ты, дзеўка!

На вуліцы паказаўся Колька, ішоў ён з пугай цераз плячо, насвістваў, і жанчыны, убачыўшы яго, моўчкі шмыгнулі ад Марусі. Колька сеў побач з жонкай, уздыхнуў, сцебануў па зямлі пугай.

— Ну, і што? — спытаў Колька, зноў сцебануў пугай.— Маўчыш. Так. Людзі мяне баяцца. Раз! Усялякі інцярэс да цябе, як да жонкі, у мяне прапаў. Два! Еду ў горад, а табе буду на шасцярых дзяцей прысылаць аліменты. Тры!

— Едзь, едзь, Колька,— Маруся зноў захлімкала, і Колька разгубіўся: яму шкада зрабілася жонку, слёзы, што каціліся на яе шчоках, выбілі камень з-пад ног, ён крэкнуў, устаў, закінуў пугу на двор.

— Не паеду! Я сказаў! Пакуль аграном тут, не паеду...

— Дурненькі...

— Я сказаў! Давай боршч!

Участковы Пумпулеў сядзеў у гэты самы час за сталом у сваёй хаце і складаў рапарт на імя начальніка райаддзела міліцыі. Рапарт не атрымліваўся. Быццам усё зразумела, матывы доказныя, а пачне пісаць — не тое выходзіць з-пад пяра. «Эх, Маруся, Маруся! Чаму ж ты адразу, мяне мінуючы, участковага, у райаддзел? Значыць, няма мне даверу. Значыць, што ёсць я, што няма — адзін толк,— разважаў Пумпулеў і выводзіў, нахіліўшыся над сталом, літары на разлінаванай паперы.— Пустое, выходзіць, месца я? Эх, Маруся!»

Пумпулеў адклаў ручку, успомніў расказ з адной кніжкі — выпадкова трапіла яна на вочы ў бібліятэцы. Пачаў чытаць ад няма чаго рабіць — захапіўся. Пра аднаго пенсіянера. Пайшоў той на заслужаны адпачынак, сустрэў неяк па вуліцы былую супрацоўніцу, якую павінны былі прызначыць на ягонае месца, і быў вельмі здзіўлены, што прызначэння не адбылося. Больш таго, нават стол пенсіянера вынеслі з кабінета, а пасаду скарацілі. Вось які фокус! Што запомнілася Пумпулеву: стары не паверыў спярша, памчаў на ранейшае месца працы, каб сваімі вачамі ўбачыць, ці праўда. Убачыў. Не было стала. І вось там ён упершыню, колькі і жыў, падумаў: «А навошта я жыў? Магла б краіна і без мяне абысціся». Калі жыццё шырэй браць, а не вузка: сям'я, дзеці, магазіны, курорты.

Участковы ўспомніў пра вычытанае ў кнізе, уявіў сябе на месцы старога. А што, калі і ён потым пачне дакараць сябе? Можа, пакуль не позна, падшукаць для сябе іншую работу, сказаць, набраўшыся мужнасці: «Не туды сеў, Пумпулеў. Злазь, пакуль далёка не заехаў. Яшчэ пе позна».

Нарэшце дапісаў ён рапарт, перачытаў. Карпеў над ім амаль увесь вечар, атрымалася ж коратка: «Прашу звольніць мяне з органаў унутраных спраў, паколькі памыліўся, уступаючы ў міліцыю». Адвезці яго вырашыў заўтра, не адкладваючы надоўга. Распрануўся, залез пад коўдру. Мерна цікаў на стале будзільнік. Сёння ён дома адзін — жонка з сынам гасцюе ў маці, гэта ў суседняй вёсцы, і Пумпулеў нават быў рады такому выпадку: ведаў, жонка пачне адгаворваць, і тады ён будзе вагацца — а мо і не трэба спяшацца, мо ўсё стане на сваё месца? Добра, што яе няма. Калі прыедзе Галя, будзе ўжо нейкая яснасць.

Не спалася. Перад вачыма стаяла Маруся ў райаддзеле, злая на Кольку, яна там нагаварыла, відаць, і лішняга... Успомніў лейтэнанта Сідарэнку — гэта ён прывёз Марусю, а потым яны разам хадзілі па дварах, дзе піў Колька, і ў кожным знаходзілі або брагу, або самагон. Ён, бы апраўдваючыся перад землякамі, гаварыў: «Не трэба ж,

цётка... Не трэба ж, дзядзька... Забаропена. Нельга». І адчуваў, як гарэлі шчокі, лоб. «Ну які я ўчастковы?!»

Старая Агрыпіна дастала з печы трохлітровы слоік з брагай, аддала Сідарэнку, праз слёзы сказала:

— Толькі, саколік, ты мне прыедзь дровы паскіпай. Добра, саколік? Дык чакаць мне цябе?

А Гумпулеў і раней ведаў, што старая гоніць самагон. Жыве адна, нямоглая зусім, кволая. Трымае карову, парсюка. Сена трэба? Дровы трэба? За добрае слова цяпер ніхто не разгоніцца, нават сваякі, не кажучы пра чужых. Грошы таксама не бяруць — толькі гарэлкай разлічвайся, цётка, іначай сама рабі. На сесіі сельскага Савета ўчастковы падымаў пытанне наконт старых, там суцешылі: не могуць самі рабіць — няхай не трымаюць карову, няхай пустуе агарод. І ніхто яго тады не падтрымаў. Пумпулеў гарачыўся, даказваў: не па-нашаму гэта, давайце скалоцім брыгаду, няхай яна возьме на сябе клопат аб старых. Без гарэлкі. За грошы. А хто плаціць будзе? Калгас! Яны ж раней калгас на сваіх плячах з нястачы вынеслі, дык што ж — пакінуць мы павінны сёння гэтых людзей без увагі? Колькі бабулек ды дзядоў гэтых — палічыце! Дзесяць. Усяго. А нас, маладых, колькі? Адзін вясковец, успомніў Пумпулеў лічбу з газеты, пятнаццаць гараджан корміць, а ў нас жа на пятнаццаць чалавек адзін стары прыпадае. Дык што ж мы, не пракормім іх?

Паабяцалі падумаць. І цяпер думаюць.

У Пумпулева дыплом механіка. Думаў, не спатрэбіцца. Памыліўся. «А чаму гэта я пра дыплом? Можа, і парвуць рапарт, возьмуць ды перавядуць у суседняе сяло? Раз сорамна табе ганяць сваіх самагоншчыкаў, скажуць, пераязджай. Могуць сказаць такое ці не? Але ж і там, у суседнім сяле, жывуць цёткі Агрыпіны, дзядзькі Мікіты...»

З гэтымі думкамі ён заснуў.

Ранкам Пумпулеў паехаў у райцэнтр — павёз рапарт.

## ВІЗІТ ДА КУДАНА

Астапчык ехаў у тралейбусе, «вісеў» на поручні. На кожным чарговым прыпынку новая хваля пасажыраў нагортвалася на тых, хто быў у салоне, перамінала ім косці, сціскала, бы прэсам: такі час — канец змены на заводзе, і з усіх цэхаў людзі спяшаліся дадому, і амаль усе цалялі на тралейбус або аўтобус. Шанцавала не ўсім — з транспартам пакуль нявыкрутна, а той, што быў на лініі, не гумавы, вядома ж.

А хто ведае, каму ўвогуле шанцавала — тым, хто ўсё ж пешшу дойдзе да дома, ці тым, хто вернецца з намуленымі бакамі і адтаптанымі нагамі, без гузікаў. Але ўсё гэта дробязі — тралейбусы, гузікі. Астапчыка непакоіла іншае: як вось сёння нанесці візіт Кудану? Як? Толькі сёння. Заўтра будзе позна... Але ж, паклаўшы руку на сэрца, няёмка ісці да Кудана. Нават — страшна. Так, так. Гэта раней яны былі паміж сябой «вась-вась», а цяпер — і на гэтую акалічпасць трэба цвяроза глядзець, не цешыць сябе ілюзіямі — паміж былымі аднакурснікамі ўтварылася адлегласць. Тады, у політэхнічным інстытуце, дзяліліся апошнім пятаком, а на ўборцы бульбы ў вёсцы нават жылі пад адным дахам — у салдацкай удавы бабкі Марусі, якая, праводзячы студэнтаў да веснічак — ад'язджалі, сваё зрабілі — сказала ім ад сэрца, шчыра: «А вы, дзеткі мае, як усё адно браты родныя. Нават тварамі падобныя. Выручайце заўсёды друг дружку — і лягчэй вам будзе жыць.. Падпорка толькі той яблыні трэба, якая плодзіць. А вы хлопцы разумныя...»

Астапчык успомніў бабку Марусю, пузаты гарлач — чамусьці чорны, але з кветкамі на бачку,— з якога ён з Куданам піў халоднае малако, па чарзе, нагбом: вярнуўшыся з поля, паталялі ім смагу. «Піце, дзеткі, піце малачко...» Яны выціралі рукавамі губы, усміхаліся, шчаслівыя, бесклапотныя... Ці багата ім тады было трэба для радасці? Гарлач малака, акраец хлеба, гітара пасля рачкавання на бульбяным полі і вечаровая цішыня, якую яны, адпачыўшы трохі, парушалі сваімі песнямі. Яны і іх кампанія. Думалася на той час Астапчыку, што з Куданам яны і сапраўды — што браты.

Пасля заканчэння вучобы Астапчык і Кудан атрымалі накіраванне на адзін і той жа завод. Пютым абзавяліся сем'ямі — амаль адначасова. Ну, а далей па вядомай схеме: жонка, дзеці, інжынерная кар'ера ў самым добрым сэнсе слова. Пачалі сустракацца ўсё радзей і радзей, пакуль і ўвогуле не перайшлі на ківанне пры кароткіх сустрэчах — не было нават калі паручкавацца, не кажучы ўжо каб пспракінуцца словам-другім. А мо не час тут віноўны? Мо што іншае? І вось цяпер ён, Астапчык, павінен нанесці візіт Кудану. На кватэру. Ці ж ёмка? Ці зразумее Кудан? Хоць толькі зразумець — яшчэ не ўсё, патрэбна яго дапамога. Дапамога? Не, не тое слова. Пратэкцыя — га? Гэтае больш падыходзіць. Астапчык хацеў зайсці ў яго службовы кабінет, там пагаварыць, але ў тым кабінеце заўсёды таўкуцца людзі: не перакінешся і словам. У той людской плыні, дарэчы, Астапчык будзе такі, як і ўсе,— звычайны наведвальнік. А вось дома... Усё ж былі некалі сябрамі. І чаму — былі? Хто сказаў? А мо ён, Кудан, якраз і даражыць мінулай дружбай? Ну. Не спрачаліся.

Не зрабілі адзін аднаму нічога кепскага. Астапчык учапіўся за нітку іхняга сяброўства, якая павінна ўсё ж нечым звязваць іх. Ці не? Быццам так.

Ён разлічыў недажытак дня так: пераапранецца, паглядзіць футбол па тэлевізары, а потым прыхопіць бутэльку каньяку — і да Кудана. Хоць не, стоп: футбол якраз і будзе зручна паглядзець з Куданам, той заядлы балельшчык. Ідэя. А пакуль Астапчык трасецца ў тралейбусе, яго ціскаюць з усіх бакоў. «Калі ўжо гэтых тралейбусаў будзе хапаць?!» Злуе. Раптам успамінае: «Калі ўжо гэтых камбайнаў будзе хапаць?!»-І стараецца не думаць пра гарадскі транспарт. Проста едзе. Не як начальнік цэха — як пасажыр, а іх тут вунь колькі, гляньце. Маўчаць. Нарэшце Астапчык выкульваецца з прыступкі на асфальт, удыхае на поўныя грудзі паветра, задаволены, што скончылася гэтая кароткая і адначасова доўгая паездка. Зноў думае пра візіт да Кудана... Зноў... А калі раптам той скажа, грукнуўшы па стале кулаком: «Ды кацiся ты, Сцёпа, з маёй кватэры, пакуль я табе!..» Усё можа быць. Кудан за словам у запазуху не лезе, нездарма ж пасля канструктарскага бюро быў вылучаны на прафсаюзную работу — ведаў, што, дзе і як сказаць. Быў намеснікам старшыні заўкома, а цяпер вось зліліся дзве ягоныя прафесіі, інжынера і прафсаюзнага дзеяча, у адну — кіраўніка дзяржпрыёмкі, Астапчык, хоць і няпроста было яму зрабіць гэта, усё ж пагаджаўся: абскакаў, абскакаў яго Кудан, нічога не скажаш. І, вядома ж, зайздросціў. Не заўсёды і па-добраму, жыло ўсяродку такое адчуванне, быццам ён, твой аднакашнік, сядзіць сёння намнога вышэй і табе прыходзіцца задзіраць галаву, каб хоць вокам глянуць на яго. І хто ведае, кім ён стане заўтра, паслязаўтра?

Недзе і шкадаваў Астапчык, што не быў прадбачлівы — не падкладваў дроў у касцёр сяброўства, і агонь паступова патухаў, пакуль не засталіся адны вугельчыкі. Шкада. А як добра цяпер было б! Але ж хто ведаў, што такім шырокім крокам рушыць наверх Кудан?

Дома Астапчык не забавіўся. Дыпламат з прэзентам — смешна і дзіўна: прэзент Кудану! — стаяў на часопісным століку, а сам ён, бы какетлівая жанчына, круціўся перад люстэркам, усё роўна як збіраўся на спатканне: прылізваў валасы, расціраў пальцамі твар, папярэдне змачыўшы яго мядовым ласьёнам. Вунь і сівізна, думаў, быццам іней, пабяліла чорныя густыя валасы. Ранавата. Кудана зусім не бярэ старасць, быццам жалезны: не прымае, відаць, нічога да сэрца.

Астапчык намнога раней атрымаў першае службовае павышэнне — стаў старшым інжынерам, потым намеснікам начальніка цэха, другога механічнага. А Кудан нешта затрымаўся, усё перакладваў паперкі на стале, катаўся ў ліфце з імі — з аддзела ў аддзел, бы кур'ер. Аднойчы неяк спытаўся ў Астапчыка: «Ну, і як, Сцёпа, не расчараваўся? Спраўляешся?» Астапчык павёў плячом, кісла, але не губляючы прыстойнасці, хмыкнуў: «З людзьмі, Лёха, працаваць — не з паперкамі». Размовы не атрымалася, разышліся холадна: намеснік начальніка цэха патупаў да сябе, а радавы інжынер, прыціснуўшы рукой да пінжака стосік паперы,— да ліфта. А потым прыйшоў і час Кудана: ён стаў на чале групы канструктараў, доўга там не заседзеўся — неўзабаве перабраўся ў адміністрацыйны будынак, а на дзвярах яго кабінета нехта пачапіў шыльдачку: «Намеснік старшыні заўкома Кудан А. І.». Вось так! Цяпер і ён з людзьмі, хоць і паперак хапала — такая работа.

Вось у такім непрывабным становіпгчы апынуўся Астапчык. Быццам бы і сябры, быццам бы і не. 1ён схапіў дыпламат, выйшаў на лесвічную пляцоўку. Працокаў абцасамі па прыступках, спыніўся. «А мо ўсё ж не трэба ісці? Што будзе, як гавораць, таго не мінаваць. Ну, улепяць яшчэ адну вымову, ці ж першы раз? Я ўжо і з ліку збіўся, колькі іх у мяне... Толькі наўрад ці адробішся цяпер гэтай вымовай? Не той час. Крута ўзяліся.. Колькі начальнікаў цэхаў зляцела за апошнія месяцы, а я што — святы? Круцішся, круцішся як вавёрка ў коле, а дзе яна, тая ўдзячнасць? Ды няўжо Лёха забыўся ў рэшце рэшт на ўсё, што было паміж намі раней? Няўжо не выручыць? Не, пайду. Пайду».

І Астапчык шпарка пакрочыў па двары, размахваючы дыпламатам, зноў уціснуўся ў тралейбус, але людзей у салоне было значна менш, чым якую гадзіну назад: густа стаялі толькі каля выхаду, а ў праходзе — хоць у футбол гуляй.

Выбраўся з тралейбуса. Дом, у якім жыў Кудан,— побач з прыпынкам. Пазваніў. Ціха. Зноў пазваніў. За дзвярыма нарэшце пачуліся крокі, пазнаў: жончыны, нават уявіў, як яна замітусілася, як прыхарошваецца перад люстэркам. У мужа, вядома ж, свой ключ, ён не павінен званіць. Кляцнуў замок — і на парозе вырасла знаёмая постаць Таццяны, яна засвяцілася тварыкам, убачыўшы Астапчыка, крыху разгублена прамовіла:

— Ой, Сцёпа! Ты? Якім ветрам?

— Я! Я, Танюша! — бойка адказаў Астапчык, злавіў Таццяніну руку, патрос.— Пусціш?

— Праходзь, калі ласка.

— Добры вечар вам у хату! — павітаўся Астапчык, а сам крадком паглядаў у глыбішо кватэры, спадзеючыся ўбачыць Кудана.

— Добры, Сцёпа, добры. Не знімай туфлі, я во ўсё прыбрацца не паспяваю: то дзеці не даюць, то на рабоце затрымаюся,— засаромелася гаспадыня, прапускаючы паперад госця.

— Не, зніму,— Астапчык прыхінуў дыпламат да сцяны, скінуў абутак.— Усё там жа робіш, га?

— Ага,— кіўнула Таццяна.

А дзе яна робіць — Астапчык забыўся, спытаў на ўсялякі выпадак, спадзяваўся, што яна, Таццяна, скажа: «У магазіне». Або: «На заводзе ў службе галоўнага механіка». Але гаспадыня сказала толькі «ага», для яе і гэтага было дастаткова.

— А дзе ж Аляксей? — асцярожна папытаў Астапчык.

— Спытай пра што-небудзь лягчэйшае,— сумна ўсміхнулася Таццяна.— Праходзь, сядай, Сцёпа. А я зараз каву зраблю.— Яна памаўчала, углядаючыся ў госця.— Пастарэў ты, Сцёпа. Пас-тарэў. Сівы стаў. Маршчынак багата на твары.

— Гады, Танюша, гады. Дзеці растуць, мы старэем.

— Гэта праўда,— згодна кіўнула Таццяна.— А мы старэем. Што ж я? Каву згатую. Я хуцепька! — І яна лёгка падалася на кухню, было чуваць, як грымела там посудам.

«Сапраўды, дзе ж Аляксей? — Астапчык глянуў на свой дыпламат, які сіратліва стаяў у прыхожай, бачыўся яму адным ражком. Мо, чаго добрага, развяліся? Ды не, не павінна такога быць. Таццяна прыгажуня. Характар залаты. І паспачувае, і суцешыць, калі табе блага. Было ж... Хоць і даўно, але помніцца, як не дала яна, можна сказаць, не дазволіла распасціся маёй сям'і. «Ты — мужчына!» Склеіла неяк жа — і, бач, моцна».

— Не сумуеш, Сцёпа? — пачулася з кухні.

— Нічога, нічога, Танюша. А гаспадар што — у камандзіроўцы? — папытаў Астапчык, калі Таццяна паказалася ў зале з падносам.

— Ён цяпер кожны дзень у камандзіроўцы,— прамовіла гаспадыня і асцярожна паставіла каву на стол.— Як прызначылі яго кіраўніком дзяржпрыёмкі — белага свету не бачыць. Калі ласка, кава. Частуйся, Сцёпа.

— Дзякуй,— Астапчык пацягнуўся да маленькага кубачка, абхапіў яго пальцамі, адпіў глыток.— Дзякую. Люблю каву.

— І я. Цукар вось. Кладзі на свой густ.

— Я без яго. Перабівае пах.

— Ну дык расказвай, як Света, як сын? — Таццяна села насупраць госця, таксама ўзяла кубачак з кавай.

Астапчык пацiснуў плячыма.

— Жывуць, хлеб ядуць. Там робiць, дзе i раней — у турбюро.

— Малайчына,— чамусьцi сказала Таццяна.— Можа, i мне калi-небудзь асмелiцца, кiнуць усё ды i з'ездзiць куды? — Яна ўзняла на Астапчыка вочы.— Пуцёўкi, вiдаць жа, ёсць?

— Ды гэта не праблема!

— Падумаю i рашуся.

— Трэба, трэба, Танюша. Столькi дарог на зямлi, а мы прыраслi да адной — з дому на работу.

— Так, так. Сын… гэта Iгарам назвалi?

— Iгарам. Ага.

— Жанiх, вiдаць?

— Ну, упаўне,— усмiхнуўся Астапчык, задаволена крэкнуў.— Хоць тэлефон, ведаеш ты, адключай. Падбягу, а ў трубцы пiсклявы галасок: «Мне Iгарка!» Злую, але што паробiш? Каханне, так сказаць, па тэлефоне.

— Чаму?Яны цяпер i без тэлефона, Сцёпа, могуць… Паспяваюць.

— Твая праўда,— пагадзiўся Астапчык, адпiў з кубачка.

— Трэба неяк сустрэцца нам. Святлану даўно не бачыла.

— Пра што размова! — бадзёра адгукнуўся на прапанову госць.— Давайце вось, не адкладваючы надоўга, у наступную нядзелю? Цi нават у суботу?

— А ты паспрабуй Лёшку выцягнуць! — Таццяна махнула рукой.— Я ж i гавару: як стаў кiраўнiком, то i тэлевiзар не паспявае паглядзець.

–Нават футбол? — насцярожана ўзняў на Таццяну вочы Астапчык, ён цяпер толькi i сам успомпiў, што вось-вось пачнецца трансляцыя матча, пашкадаваў, што не атрымаецца, мусiць жа, паглядзець i самому.

— I футбол. Толькi не забывае мяне папрасiць, каб запiсала лiк. Запiсваю. Нават ведаю цяпер, якiя каманды ёсць. «Арарат», «Кайрат», «Жальгiрыс». «Дынамы» блытаю. Калi ж багата iх…

Астапчык усмiхнуўся. Таццяна ўздыхнула, цiха прамовiла:

— А людзi? А яны што думаюць? У нас жа нiчога не зменiцца, калi будзе толькi адзiн Кудап працаваць… ды яшчэ такiя, як ён! А астатнiя..„ Робяць абы з рук, брак як гналi, так i гоняць. А грошы хочуць атрымлiваць добрыя. Прэмii тыя прама з глоткi

вырваць гатовы. За што прэміі? Ды нас жа многіх у турму садзіць трэба, а не грошы плаціць.

— Так, так,— кіўнуў Астапчык, а сам адчуў, як нядобра ўспыхнулі шчокі.— Ёсць... Не перавяліся...

— Учора, Сцёпа, ведаеш, хто прыходзіў? — прыгожы тварык Таццяны нерасмыкнуўся.— Ніколі не здагадаешся!

— Адкуль жа...

— Мікульчык!

— А чаго, цікава, яго прынясло? — ускінуў густыя бровы Астапчык.— Яны ж некалі, помню, счапіліся так, што дым ішоў...

— Не ведаю, дзе і за што яны там счапіліся, але прыцёгся каля адзінаццаці гадзін вечара, раней Лёшка цяпер і не прыходзіць, каньяк на стол ставіць, бляшанку тушонкі. Давай, кажа, Аляксей Іванавіч, вып'ем. А які мой жа піток? Ён жа, акрамя ліманаду, нічога ў рот не бярэ: сэрца, гэта ён па выгляд маладжавы, а так... Ага, дык і гаворыць: давай вып'ем, Іванавіч. Мой келіхі ставіць. Няёмка ж адмаўляць. Якіеякі, а госць... Мікульчык тую бутэльку адзін і апаражніў. П'яненькі стаў. Спаць пара класціся, на работу ж заўтра, а яго не вытурыць. Расплакаўся. Сорам які! «Іванавіч, пашкадуй, прымі мае сніцы... які ж яны брак? Яны ўсім нормам адпавядаюць. Прыдзіраюцца твае людзі з дзяржпрыёмкі, Іванавіч».

— Артыст! — кінуў Астапчык. Само неяк атрымалася. Не сядзець жа — трэба і гаварыць нешта.

— Прыдзіраюцца твае хлопцы, Іванавіч. З'есці хочуць. Жыўцом. А ў мяне план гарыць па ўсіх паказчыках. Ратуй. Так і сказаў: «ратуй!» — Таццяна засмяялася, зноў наліла ў кубачак Астапчыку кавы.— Ты, Сцёпа, правільна сказаў: артыст.

— А то я не ведаю такіх! — секануў паветра даланёю Астапчык.— Набачыўся! Ну, і што Аляксей адказаў Мікульчыку? — асцярожна пацікавіўся госць, прамакнуў твар насоўкай, глянуў на дыпламат, нават спалохаўся, што, чаго добрага, расчыніцца ён вось зараз і бутэлька пакоціцца па падлозе, прама да стала.

— Лёшка малайчына, ты ж яго ведаеш. Сказаў: я і сапраўды ў выратавальнай камандзе працую, і ратую не такіх, як ты, Мікульчык, а гонар завода, яго марку. Камбайны ратую, сказаў, бо далей ужо няма куды адступаць. Сорамна ж перад вёскай... Перад краінай сорамна...

Астапчык крэкнуў, варухнуўся на стуле:

— Правільна. У мяне ж... значыць... таксама не ўсё добра... Але ж я не прашу Аляксея. Верна? Хоць і мог бы... Усё ж вучыліся разам, з аднаго гарлача малако пілі... Вось...

— Ды што ты, Сцёпа, сябе з нейкім там Мікульчыкам раўнуеш? — усміхнулася Таццяна.— Ён жа пра сябе толькі думае. Не можаш працаваць — саступі іншым...

— Правільна,— паддакнуў Астапчык — а што яшчэ яму было рабіць.— Што ж, мне за Аляксея радасна... чэснае слова...

— А колькі званкоў? — Таццяне, відаць, набалела, скарыстоўвала магчымасць выгаварыцца.— Сораму ў людзей няма. Я б і тэлефон адключыла, ды дзеці ў піянерскім лагеры — звоняць вечарамі. Ён, Лёшка, і так на рабоце днюе і начуе, а тут яшчэ і дома атакуюць. Хлусіць не можа, даю трубку, размаўляе... Ну, ці ж гэта далей трываць такое можна? Не ведаю, колькі ён вытрымае, Лёшка... Сэрца ў яго зусім у апошні час... Вунь лекаў накупляла... Яшчэ кавы, Сцёпа?

— Ды не, дзякуй, Таццяна. Дзякуй. Ты б і па самой справе выцягнула калі-небудзь свайго... Сустрэліся б. Пасядзелі. Паўспаміналі. Хіба нам няма чаго ўспомніць, а, Танюша? — Астапчык пастараўся ўсміхнуцца, але ўсмешка атрымалася кіслай — сам адчуў.

— І выцягну, Сцёпа! Выцягну! — адказала Таццяна.— Вось у бліжэйшыя выхадныя. Яму адпачыць трэба. Ты, можа, чаго прыходзіў? — ціха спытала яна, заглянула ў вочы госцю.

Астапчык разгубіўся.

— Я тут побач праходзіў... Дай, думаю, загляну... Усё ж не чужыя мы людзі...

— Вось і добра, што зайшоў. Добра. Свяглане нрывет.

— Абавязкова. Чакаем вас. Адрас жа ведаеш? — Астапчык устаў, абдзёр пінжак.— І тэлефон ёсць..

— Адкуль, Сцёпа!

— Давай запішу...

Таццяна падала блакнот, што ляжаў побач з тэлефонам, Астапчык адгарнуў першую старонку і, стрымліваючы хваляванне, напісаў назву вуліцы, нумар дома, кватэры і тэлефон. Потым падхапіў дыпламат, адчуў плюскат у бутэльцы, развітаўся.

Вечарэла. І хоць тралейбусы і аўтобусы былі амаль парожнія, Астапчык рашыў ісці пешшу. Калі ідзеш пешшу, па дарозе хораша думаецца. А яму якраз гэта і трэба: падумаць...

## КРЫЎДА

Іван Сяргеевіч не дачакаўся канца ўрачыстага сходу, прысвечанага Дню Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту; калі інспектар па кадрах скончыў чытаць святочны загад, у якім

peралічваліся прозвішчы перадавікоў-мужчын, узнагароджаных грашовымі прэміямі, а яго ў тым даволі доўгім спісе не аказалася, ён моўчкі ўзняўся і пачаў прабівацца да выхаду. Людзі, вядома, адразу звярнулі на яго ўвагу і ўбачылі, што вочы франтавіка павільгатнелі. Многім зрабілася шкада Сяргеевіча. Іншыя назіралі за гэтай сцэнкай абыякава.

А Сяргеевіч дрыготкімі пальцамі выцягнуў цыгарку з пачка — курыў ён толькі «Прыму», запыхкаў сізым дымам і выйшаў на ганак.

Быў ціхі сонечны дзень, але халодны, марозны.

Іван Сяргеевіч ішоў з фабрыкі дадому, схаваўшы рукі ў глыбокія кішэні: рукавіцы недзе там, у сталярцы, і ён не стаў заходзіць на рабочае месца, лішні раз паказвацца перад вокнамі клуба, дзе ўсё яшчэ засядаюць. Каўнер паліто стаяў тарчком, згорблены, Сяргеевіч нагадваў чалавека глыбока пакрыўджанага, няшчаснага,

Чаму — нагадваў? Менавіта ён і быў такі. Але што цікава, Сяргеевіч не злаваў асабліва на дырэктара, хоць ведаў, што той уласнай рукой выкрасліў яго са спісаў — больш няма каму. Ні на каго не злаваў. Проста яму было крыўдна, што яго, адзінага франтавіка, абыйшлі. «Ды яшчэ ў такі дзень,— думаў ён і адчуваў, як сціпала сэрца.— Бог з ім, з тым чырвонцам, не ў ім справа. Сорамна людзям у вочы глянуць... Здорава ты, Сяргеевіч, відаць, у гарэлку ўюшыўся, калі дырэктар нават на такое свята прэміі пазбавіў, ківаць цяпер пачнуць...»

Сяргеевічу хацелася з кім-небудзь пагаварыць, адкрыць сваю душу, тады мо і лягчэй стала б. Ну, прыйдзеш дахаты, сядзеш насупраць жонкі і будзеш так сядзець сабе. Хіба ж яна зразумее! Ды і што разумець? Ат! Горш таго, адразу спытае: «Чаму ж так рана сёння вярнуўся? Збег?» Што ёй скажаш? Не-е... Дамоў — нельга, ранавата. Тады ён успомніў пра Міколу Шалабодава, аднапалчаніна. Вось з кім трэба стрэцца! Той зразумее...

Мікола ўжо каторы год на пенсіі, сядзіць сабе дома, унукаў песціць. Ён — не Сяргеевіч: гэта той усё без калектыву не можа, а калектыў, бачыце, як да яго сёння...

Сяргеевіч датэпаў урэшце да дома, у якім жыве-дбае аднапалчанін, адшукаў пад'езд, кватэру, утапіў кнопку. За дзвярыма пачуліся крокі. «Дома,— з радасцю адзначыў Сяргеевіч.— Яго, яго крокі, бы мядзведзь ступае ўсё яшчэ».

З дзвярэй выглянуў Мікола.

— А, ты, Сяргеевіч,— быў рады госцю аднапалчанін, шырока працягнуў насустрач рукі.— Праходзь, праходзь, дружа.

Злёгку абняліся.

— Са святам цябе, Мікалай,— ціха, не зусім урачыста прамовіў госць.

— І цябе, і цябе, Іванка. Знімай паліто,— Мікола, шырока ўсміхнуўшыся, дапамог Сяргеевічу.— А туфлі — не трэба: з падлогі цягне ды і не прыбіраўся сёння. Усё няма калі.

Яны падаліся ў залу, вялікую і светлую, селі за круглы стол. Шалабодаў усміхнуўся Сяргеевічу, чакаў такой жа ўсмешкі ў адказ, але яна не пазначылася на твары госця. Сяргеевіч сядзеў сумны, у голаў падкралася думка: «Не буду расказваць пра сваю крыўду. Ён усё роўна не зразумее. Сам жа некалі ў дырэктарах хадзіў...» І не расказваў бы, сядзеў бы так моўчкі, абыякавы да ўсяго на свеце, але ж Шалабодаў — псіхолаг, з людзьмі працаваў, ад яго ні пад якой маскай не схаваешся.

— Настрою ў цябе, браце, бачу, няма. Хто пакрыўдзіў? Прызнавайся. Сёння такі дзень, а ты нос павесіў.

«Ат, раскажу,— рашыўся ўсё ж Сяргеевіч.— Яму — можна. З аднаго кацялка, як кажуць, сёрбалі».

— Пачакай! — Шалабодаў нырнуў на кухню, вярнуўся з графінчыкам, паставіў на стол два келіхі.— От. Зараз мы. Свята сёння ці не свята, га, Сяргеевіч? Ну-ну, ты мне кінь гэта — дзьмуцца,— жартаўліва пагразіў ён пальцам на таварыша-франтавіка і зноў малайцавата, лёгка намкнуўся на кухню.

«Правільна ён жыве,— сядзеў і думаў Сяргеевіч пра Мікалая.— У яго і гарэлка дома вунь ... А ў мяне ці ўстаіць? Дудкі. Ды і прыйдзі толькі з цляшкай — гвалту не абярэшся. А хто вінаваты? Сам. Вядома, сам...»

Вярнуўся Шалабодаў з закускай.

— Навошта, братка, столькі ўсяго? — падзівіўся Сяргеевіч.

— Не асілім — не прападзе,— Шалабодаў падсунуў бліжэй да баявога таварыша талерку з відкай, узяўся напаўняць келіхі.

— Давай — за франтавую дружбу... За тых, хто не вярнуўся разам з намі, не дажыў да сённяшняга шчаслівага дня.

Узялі келіхі, дакрануліся імі, выпілі.

Ціха-мірна працякала паміж франтавымі сябрамі гамонка. Успаміналі яны свае паходныя вогпішчы, бы зноўку грэліся над полымем, сяброў, з якімі дзяліліся і апошнім сухаром, і апошняй цыгаркай. Сяргеевіч павесялеў, забыўся пра сход. Іншы раз, праўда, нагортваліся думкі: «А што было? Ды нічога і не было. Падумаеш, не далі канверт з чырвонцам... Хіба ў мяне грошай не хапае! Ёсць. І яшчэ, было б здароўе, заробім. Ды і калі пакласці руку на сэрца, пашчыраму калі, дык і не павінен я мець той канверт. П'ю? П'ю. А

каму сёння да таго — ваяваў ты ці курэй шчупаў? Што было, тое было. Тады мо і быў ты, Сяргеевіч, чалавекам, а сёння ж, круці не круці, дурны прыклад маладым...»

Шалабодаў глядзеў на адпапалчаніна, успомніў, якім быў Іван у маладосці, у дні вайны: весяльчак, аматар на вострае слова — не толькі ў роце, у палку не знойдзеш больў такога. Знаходлівы быў, кемлівы, смелы. А вось потым... Шалабодаў асцярожна спытаўся:

— П'еш? Ці здароўе запрэт наклала?

Сяргеевіч зморшчыўся, прыплюснуў вока, крыху падумаў.

— Не-а... Ну, часам прыгублю, як сяброў франтавых стрэну... Або на свята,— схлусіў ён.

— Глядзі, Сяргеевіч, не налягай асабліва на гэтую халеру. Добрых людзей яна губіць. Ды і мы з табою не для таго ў абдымках са смерцю хадзілі, каб яна нас на той свет спяшалася ўладкаваць. А нам жыць трэба. Жыць. Жыццё сёння — казка. Не пі. Не трэба.

— Ды я, можна сказаць...— Сяргеевіч разгубіўся, заміргаў вачамі.

— Ты ж разумны чалавек, Сяргеевіч. Хочаш, я табе адну гісторыю раскажу?

— Потым як-небудзь, Мікола. Ведаю, пра што ты хочаш расказаць. Давай лепш я табе раскажу.

— Слухаю. Гавары, Сяргеевіч. Пра сябе, відаць? Разумею: цяжка... А ты набярыся мужнасці, набярыся, Сяргеевіч...

Сяргеевіч вяртаўся дадому позним вечарам. У халодным паветры лёталі спяжынкі-матылькі, садзіліся на шапку, паліто, на твар чалавека, які ішоў, не заўважаючы іх...

## ДВА ЛІСТЫ ДА БРАТА

### Л і с т п е р ш ы

Вось я і рашыўся нарэшце — як і абяцаў табе, дарагі Міхась,— адклаў усе свае справы, прыехаў у вёску, кінуў тут якар. Ведаю, ты з іроніяй усміхнешся: ці надоўга? Пакуль і сам не ведаю. Але жыву, як і дваццаць пяць год назад, у роднай Іскані, дыхаю паветрам свайго дзяцінства — і твайго ж, вядома, таксама! — на поўныя грудзі. Абжыў старую «бабіну» хатку, Аляксей Прылепаў зрабіў яшчэ ўлетку тут звычайную рускую печ, палю яе дровамі і торфам. Цёпла, утульна. І пішацца добра. Шкадую толькі, што не захапіў у горадзе лямпу-газоўку, яна б прыйшлася да месца. Тут, у вёсцы, яе і ў музеі не знойдзеш. Лямпа, дарэчы, пайшла з вёскі разам з намі, на пачатку

шасцідзесятых. Хоць і марокі з ёю было — смуродзіла, а то і газа канчалася ў самы непатрэбны момант, з'ядала кнот, а нам жа ўрокі вучыць, нам жа чытаць! Цяпер нашы дзеці, відаць, і парадуюцца, калі патухне святло, а дзяжурны электрык загуляе. Хоць не... А як ім без тэлевізара? З-пад зямлі дастануць электрыка — каб глядзець, каб «маг» слухаць. А кніжкі стаяць на паліцах... Шкада. У нас было мала іх, але ўсе зачытвалі ледзьве не да дзірак. Кніга перадавалася з хаты ў хату як вялікая каштоўнасць.

Дзяцінства, дзяцінства...

І хатка — дзяцінства. Яна хоць і маленькая, але ўтульная, мама прыбрала, заслала новы настольнік, іншы раз прыйдзе, сядзе побач, моўчкі глядзіць на мяне, уздыхае. Тады я адкладваю ўбок ручку, пагаворым. Бацька — бачу праз шыбку — топчацца на двары. Хапае клопату.

Вечарэе. Апранаю кажушок — трэба дапамагчы старым. Як і ў ранейшы час нясу бярэмя сена карове, вада таксама цяпер на мне, а яе многа трэба нанасіць: ад хатняй жыўнасці бацькоў не адарваць, трымаюць карову, двух парсюкоў, курэй, качак, трусоў, а цяпер завялі яшчэ індыкоў. Пытаю: «Куды вам столькі?» У мамы адзін адказ: «А што ж мы, сядзець павінны склаўшы рукі? Так жыць лягчэй, калі дзень заняты». Іх не пераканаеш. І што цікава, малако самі не скарыстоўваюць, а карову трымаюць. Усё здаюць. Да кроплі. «Нам жа сена за малако...» Бачыш? Сена. Круг атрымліваецца: ты нам — малако, мы табе — сена. Ведаю, што выгоды ад каровы старым ніякай, але і пазбавіцца не могуць: прывыклі. Не толькі нашы бацькі — усе ісканцы такія. Нават бабкі старыя. Куды б ім ужо, здавалася? На карову і сена нарыхтуй, і пасвіць трэба. Бывае, што і па дваццаць пяць рублёў плаціць за чаргу, а яна падыходзіць кожны месяц. Вазьмі аловак, падлічы, колькі каштуе такое малако. Дарагаватае. Але зразумееш тую Дуню Ляпейка. Помніш яе? Канцавая хата, каля канюшні. Сама пасвіць не можа, упрошвае людзей, а рагулю не здае, бо для адзінокай жанчыны карова ўсё — і карміцелька, і жывая істота, якую можна пагладзіць, з якой можна пагаварыць, а то і шчакой прытуліцца...

У кожнага чалавека свая прычына, яна і не дае развітацца яму з рагуляй.

Сёлета сена ў цёткі Марусі пе бралі, так і засталося яно ў садку — на карані пажоўкла трава. Не знайшлося ахвотнікаў. Да каго ні звярталася, амаль бясплатна аддавала — усе адмовіліся. Праўду кажучы, дык яна, Маруся, сама вінавата — стаіць над душой, касцярыць: «Як косіце, шалапуты? Рукі б вам паадрываць! Вось мой

Панас касіў — як лязом галіўся!» Васіль Старавойтаў памеўся быў купіць у яе соткі, а калі яна пачала яго, чалавека сталага, вучыць, як трэба касіць, плюнуў, касу на плячо — ды ходу. «Будзеш ты яшчэ мне тут нервы псаваць!»

І трава прападае каторы год. Старая скача на сваіх хадулях па гародчыку, бядуе, а сама за касу не возьмецца — інвалід. Смешна і грэшна, як гавораць, хоць і цётку Марусю зразумееш: чалавек стары, хапіла на яе вяку нястачы, гора, вось і цэніць кожную травінку, шкадуе. Маладзейшым, відаць, яе сёння цяжка зразумець, дзівачкай лічаць, скнарай.

Хоць у яе і гэтая рысачка ёсць, не адымеш. Помніш жа, як прасіла ў нас з табой парады, куды звярнуцца, каб радыё адрэзалі. «Навошта яно мне? Слухаць не слухаю, а толькі кожны месяц плаціць грошы трэба. Гэта яшчэ Панас падключыў... Хай адразаюць». А ў Кулазе ж, акрамя як па радыё, і голасу чалавека не пачуеш — усе хаты стаяць без людзей, рэдка ў якой жыццё цяпліцца. З'ехалі людзі. А каму было цяжка адважыцца на такі крок — дажываюць век там, як і цётка Маруся, Панасіха.

Нядаўна я зноў пабываў у Кулазе. Заглянуў у акно адной хаты, другой — і жудасна зрабілася. Усё ў пакоях так, як і пры жыцці гаспадароў. Ложкі стаяць, падушкі на іх, на стале міскі, талеркі, шклянкі, гарлачы, у парозе — вілачнік, чапяла... Быццам чалавек вось-вось вернецца, прапануе: «Ну, заходзь, чаму гэта ты стаў перад акном?» Усё гэта і падштурхнула мяне напісаць п'есу «Вокны». А потым яшчэ і цётка Насця, Лявонава. Прыбегла з Кашалёвак да маці, каб тая ёй нітку ў іголку прасунула, вузельчык на канцы завязала. «Ой, Вольгачка, ледзьве вечара дачакалася— зразу да цябе, бядовачка: у дзіравай спадніцы хаджу. Сорам які! І латку падабрала, і іголку знайшла, а ніткай у вушка не пацэлю, яй-богу. І папрасіць няма каго — адны старыя засталіся, нямоглыя, у іх вочы, як і ў мяне, на адзін капыл!»

Сапраўды так: у вёсачках, што абляпілі з усіх бакоў нашу Іскань, засталіся адны старыя. У Трысціўцы, Лосеўцы, Доўгім, Негліве, у той жа Кулазе. А як жа быць з публіцыстамі, якія ўголас заяўляюць: «Кожная вёска павінна жыць!» Бяру наўздагад кнігу — панавёз, на мясцовую бібліятэку не разлічваю, бо ці ўпалюю за яе загадчыцай — сказаць не бяруся, цяпер нават рэдка хто і ведае дзяўчыну, да якой перайшлі на гэты раз ключы, і знаходжу... ну вось хоць бы ў Юрыя Вігора такія радкі: «Прыйдзе час, і я зноў вярнуся туды, у гэтыя ціхія вёсачкі, якія прытуліліся на краі зямлі, вёсачкі, якія не павінны знікнуць ні праз дзесяць, ні праз пяцьдзесят, ні праз

сто год». Спраўдзілася б! І прачытаць бы, злавіўшы на слове, у таго ж Вігора гадкоў хоць бы праз некалькі шчасліва-ўсхваляванае: «Жывуць!»

Усе хочам, каб жылі вёскі, а як іх выратаваць — не ведаем. Ці мо проста не хочам? А мо і ўвогуле гэта заканамерны ход падзей, мо гэта ўмысна гісторыя ламае старое, падсоўвае нам горад, а ў тых жа вёсках — дамы на гарадскі манер: бярыце, жывіце!

Зайздрошчу аптымістам. Аптымізм — цудоўная рэч, і мы на яго багатыя, але ж ці будуць жыць Кулагі і Лосеўкі, калі яны, можна сказаць, ледзьве дыхаюць ужо сёння., Яны нагадваюць мне старога, які шкрабецца на самы высокі наверх па прыступках, выбіўся з сілы, а ліфт не працуе — зламаўся. Ці дойдзе? Ці адужыць прыступкі? Мы ўсе глядзім на гэтага бедалагу і задаём аднолькавыя пытанні. І толькі. Дапамагчы не дапамагаем. На руках не панясеш — цяжкі. А карысці з таго, што ты за руку прытрымліваеш крыху — мала... Ісці збоку не тое самае, што па цаліку...

Хапелася б, вельмі хацелася б, каб жылі Кулагі і Лосеўкі, але ж на свае вочы бачыш: паміраюць яны, маленькія вёсачкі, адыходзяць. Ты ж помніш Боркі, Рабандзюгу, Плоскае? На месцы іх поле. Жыта расце, бульба, буракі — па кулаку, а то і па два, гэта гледзячы які ў каго кулак. А мо і добра, Міхась, што расце жыта? Хаткі стаялі амаль усе з забітымі крыж-накрыж вокнамі, адно што займалі месца. Можа, і няхай расце колас... І людзі задаволены: не наводшыбе, а ў добраўпарадкаваных вёсках, не трэба ўзімку снег мясіць, каб з магазіна прынесці хлеба.

Няпроста развітвацца з маленькімі вёскамі — як і з усім, што прырасло да чалавека моцна, на доўгія гады. Няпроста. Разумею. І жылі б яны, каб тыя хаткі аднолькава моцна прырасталі да кожнага, а не да абраных лёсам. Ім адным не ўтрымаць лейцы...

Не бяруся заглядваць у заўтрашні дзень, хоць таксама аптыміст, але вось што ўспомнілася. Гадоў пятнаццаць назад я быў сведкам, як пераязджаў з Кулагі Мікалай Трафімавіч Семчанка, па-вясковаму — каравашнік. З Кулагі! На той час, калі яшчэ так не пачалася міграцыя людзей, было дзіўна. Дзе, здавалася, лепшае месца для жыцця, чым у Кулазе? З усіх бакоў лясы: і бярозавы гай, і Зімніцкі змешаны, і Палянінавіцкі. Вятроў не ведалі людзі, жылі як у бога за пазухай. А побач балотца, маленькае, але сваё. Маліна, дурніцы, чарніцы. А торфу колькі... І для скаціны раздолле. А сады? А пчолы? Толькі вось нешта карэнны жыхар Кулагі сабраў пажыткі на машыгау, памахаў рукой землякам і паехаў не куды-небудзь, а ў Абідавічы, абмінуўшы нават сваю цэнтральную сядзібу — Іскань.

Людзі, помню, падыходзілі тады да Семчанкі, каля калодзежа машына спынілася, шафёр булькаў у радыятар ваду, пыталі:

— І чаму ж ты, Мікола, так далёка?

— Хоць бы ў нас тут атабарваўся, калі далёка табе ў краму хадзіць.

А ён словам, бы рукой — наводмаш:

— Ехаць — дык зразу, каб дзесяць разоў не грузіцца!

Вось так. Ён не дэзерцір, не. Ён бачыў, можа, далей, як ніхто іншы, ды і чуткам верыў, а яны ўжо пачыналі тады гуляць. «Кажуць, нас будуць да абідаўцаў далучаць. Бытта Плотнікаў забірае». Плотнікаў — старшыня суседняга калгаса. Гаспадар быў, але трагічна абарвалася яго жыццё: аўтамабільная аварыя. І пайшлі мяняцца ў Абідавічах старшыні! Не да Іскані было, тут хоць бы самім разабрацца, што да чаго.

Мне ж хочацца паразважаць пра дзядзьку Міколу. Чаму ён з курортнага мястэчка пераехаў у гаманлівую, вялікую вёску? Пакрыўдзіўся на каго? З суседзямі пасварыўся? Не тое, думаецца, і не другое. Чалавека пацягнула да магазіна, да клуба, да школы (на той час у яго вучыліся ўнукі), да шашы. Так-так, і да шашы! Бо яму да яе восем кіламетраў было, зімой не кожны адважыцца штурмаваць сумёты, а трэба з'ездзіць, бывае, і ўрайцэнтр, у Быхаў, па самых розных справах. На аўтобус зімой, увесну і позняй восенню, калі замецена і гразна, надзеі мала: забіта дарога, нават калі і трактар пачысціць, аўтобуснікі сваё гнуць: «Не паедзем у Іскань, ведаем, як туды ехаць!» Хоць ты яго іншы раз за руку цягні, паказвай, што можна і праехаць. Не знойдзеш управы.

Зразумееш дзядзьку Міколу. Я часта яго бачу, калі дабіраюся з шашы. Пастарэў, сядзіць на лаўцы перад хатай, ківае сваім землякам і думае, відаць, праводзячы іх позіркамі: «Вам яшчэ ісці трэба, а я — дома! І ўнукі ў школу не ходзяць у белы свет, яна побач. І сельскі Савет тут во...»

З маленькіх вёсак пераязджаюць і сёння людзі. Сем'ямі. У Быхаў, Доўск.. Але больш — у Іскань. Паміраюць старыя, хаты застаюцца — выбірай любую, жыві. Ніхто, праўда, не выбірае, не жыве...

Калі нашы бацькі пераехалі настаўнічаць у Іскань, гэта было на пачатку пяцідзесятых, то намыкаліся па кватэрах. У Іскані было цесна. Хапіла з тым кватараваннем. І мы добрай купкай, і гаспадары пад адным дахам — не павярнуцца. Ты ж помніш, як цудам жыць застаўся, калі абварыўся кіпенем, у чыгун з гарачай вадой плюхнуўся. Нагі не было дзе паставіць. А помніш, як будаваліся? Каб

дах над галавой займець, дзед Якаў прадаў апошняга парсюка, а маці з бацькам ашчаджалі ва ўсім — толькі б хата свая. А сёння — займай, жыві. Вунь іх колькі! У цэнтры Іскані нават цэлая вуліца з цагляных дамоў, але ўсе пустуюць. Няма каму саграваць іх цяплом. Разлічвалі, што моладзь кінецца ў катэджы, а моладзь, як і раней, кінулася ў горад. Жытлом адным не прывабіш. Ім, бач ты, патрэбна нешта больш значнае.. А што? Неонавыя агеньчыкі рэклам на кінатэатрах і магазінах? Лаўка ў скверы і будка з марожаным? Паспрабуй загляні ў душу хлопцам і дзяўчатам, падбяры ключ. А калі ўжо на тое пайшло, то хто іх упрошваў застацца? Едуць — няхай сабе едуць. А можна ж было сказаць: «Заставайцеся, родныя, у вёсцы. Залатыя горы не абяцаем ні сёння, ні заўтра, а магчымасць такую даём — зрабіце самі горы гэтыя! Вось вам поле, вось вам фермы, вось вам наш БАМ!»

Быў такі момант у біяграфіі Іскані, калі людзі з трывогай пачалі думаць: хто ж заўтра тут будзе жыць, зямельку песціць? А потым пачала заставацца моладзь, сама па сабе, стыхійна, гледзячы адзін на аднаго. І гэта ўсяліла надзеі. Застаўся ў калгасе Анатоль Кавалёў, бацька цягнуў яго ў Мінск да сябе, але ён не паслухаўся, ажаніўся з Марыяй Панадысёвай. Ён — трактарыст, яна — медычка. Медычка! Для вёскі — знаходка. Усе браты Ляльковы засталіся — Васіль, Уладзімір, Міхаіл і Дзмітрый. Трактарысты. Дамы для сябе пабудавалі, з маці жыве толькі халасцяк Дзмітрый. Але і для яго наваселле зробяць, калі ў бацькоўскай хаце не ўжывецца. Як мурашы хлопцы, адзін каля аднаго. Праўду гавораць: брат моцны братам. Людміла Іванаўна, іх маці, не нарадуецца. І наша, гледзячы на Ляльковых, сказала неяк: «Зайздрошчу я Люсі». Я адразу лаўлю яе на слове:

— А ты ж хацела, каб твае дзеці ў гарадах жылі?

— Тады хацела, а цяпер і ў вёсцы добра,— адказвае маці.

Мікалай, сын Івана Радзівонавіча Глусцова, таксама застаўся. Працаваў на трактары, камсамольцы яго на свой з'езд у Маскву пасылалі, раённая газета змясціла партрэт хлопца. Газета гуляла па вёсцы. Не хавалі радасці землякі, ляпалі па плячы, хвалілі: малайчына, Коля! Ёсць і сярод нас героі, не лапцем боршч сёрбаем. Мікалай — чалавек замкнёны, ціхмяны, хоць і характар мае настойлівы. Прыемнай была, вядома ж, для яго ўвага землякоў, але выгляду не падаваў — стрымліваў пачуцці. А бацька, ты ж ведаеш Івана, свяціўся ўвесь тварам, за словам у кішэню ён не палезе, гаварыў: «Не для таго я пяцёра дзяцей на свет пусціў, каб на падхвацe былі ў іншых! Не выйдзе! Толькі наперад! А калі хто

пакрыўдзіць уздумае — я пабач!» У гэтых словах — і гонар, і жыццёвая лінія Івана Радзівонавіча. Не за ручку вядзе па жыцці ён сваіх дзяцей, а словам, уласным прыкладам. Сам у калгасе, і дзеці пры ім. У горадзе толькі старэйшы, Міша, трамвай водзіць. Іван і Аня вучацца ў сельскагаспадарчым тэхнікуме, як некалі Мікалай. Васька пакуль школьнік.

Разрастаецца дрэва Глусцовых. Мікола ж, дарэчы, з суседкай ажаніўся — Надзяй Сныткoвай.

А Валік Клімаўцоў? А Люба Шурмялёва?

Застаюцца хлопцы і дзяўчаты. Ведаеш, пра што ўсё гэта мне напомніла? Быццам стаіць машына на мосце, збіла парэнчы, пагойдваецца, і лёс яе цяпер ад людзей залежыць — налягуць, то ўспаўзе на мост, не — пляснецца ў рэчку. Магла б і вёска наша так... Не сёння, дык заўтра. Але людзі наляглі. Можа, і не зусім удалае параўнанне, але чамусьці гэтае падвярнулася пад руку.

Цяпер пра хлопцаў, братоў нашых. З арміі вярнуліся вясной, заязджалі да мяне. Усё лета бадай што жылі ў вёсцы, бацькам з імі і лягчэй было, і весялей. Валодзя сказаў аднойчы мне:

— Я ў вёсцы застаюся.

— Хвалю,— адказаў яму.

— Сашка — як хоча, а я застаюся. Пакуль з бацькамі пажыву, потым аддзядуся — у калгасны дом, а? У Маскве калі служыў, то прапаноўвалі нам там застацца. У будаўнічым атрадзе. За мяжу таксама прапаноўвалі. Не, не люблю я горад. Вось так рашыў: ажанюся, завяду гаспадарку, парсюкоў, курэй, трусоў, а там мо і пчол. Чым не жыць? Рабіць, праўда, трэба, але ж... Сам падумай. Заманліва? Парсюкоў — двух: аднаго для сябе, другога на базар. Хату ж трэба абставіць. А потым, можа, і машыну куплю. У грыбы ці куды праехаць — зручна. А працаваць у калгасе буду. Са старшынёй размаўляў, то давай, кажа, у будаўнічую брыгаду, а там у тэхнікум паступай завочна, прарабам будзеш. Як?

Было б, вядома, добра, каб нашы малодшыя браты і сапраўды засталіся дома. Глядзіш, і нам было б куды прыехаць, бацькі ж не вечныя, а зямля, дзе нарадзіліся, выраслі,— заўсёды ў сэрцы.

— Малайчына, Валодзя! — гавару і бачу, як па-даросламу шчыра свецяцца ў яго вочы.— Толькі ж і нявесту трэба такую выбраць, каб працу любіла, добрай парай табе была. Ёсць на прыкмеце?

Маўчыць. Няма ў яго нікога. Ведаю. Сашка ў клуб, а ён дома знойдзе для сябе занятак. Корпаецца пацІху, майструе нешта. То кармушку для трусоў, то самакат — ваду вазіць. Мусіць, і ёсць на

прыкмеце ў яго нехта, але сёння і сапраўды цяжка знайсці дзяўчыну, каб завіхалася па

гаспадарцы ад прыцемку да прыцемку. Сэнс жыцця бачаць вяскоўцы не толькі ў працы — і ў адпачынку. Правільна: сумяшчаць трэба. Але ж усё роўна давядзецца ў нечым недабраць...

Але ж ты ведаеш, дзе сёння браты. У горадзе. Размова з Валодзем была самая што ні ёсць сур'ёзная, шчырая, а ўсё атрымалася наадварот. З'ехалі хлопцы. Але ж чаму?

У лютым прыйшло пісьмо ад Галіны Сцяпанаўны Шульгі. Узяўшы яго ў скрынцы, адразу ж пазнаў яе почырк, акуратны, роўны, літары высокія, што калкі ў плоце добрага гаспадара стаяць. У школе яшчэ, калі яна вучыла нас, падладжваліся пад настаўніцу — хацелі пісаць так прыгожа, але толькі хацелі... Пакуль нёс пісьмо, успомнілася лета 1959 года. Быў жнівень, спякотны, сонечны. Я збіраўся ў пяты клас, набіў ужо нават дэрмацінавую сумку — пазней у такіх насілі, бачыў не раз, ежу пуцявыя рабочыя, вартаўнікі, але ж яна прадназначалася для нас, вучняў,— набіў, што не зашпіліць, падручнікамі і сшыткамі, з сумам паглядаў на школу. Пара б і званок даваць. Толькі на школьным двары было ціха, адно сноўдаліся па ім, нікога не баючыся, дырэктаравы куры, нешта клявалі ў траве. Вось у адзін з такіх дзён і прыехала Галіна Сцяпанаўна, выпускніца Магілёўскага педагагічнага інстытута. А сустрэў яе першы я. Так-так. Якраз наведаўся дзядзька Аркадзь з Канавы, паставіў на горцы свайго «ЗІСа», а сам у хаце сядзіць з бацькамі, балакаюць, а я тым часам у кабінку, за руль. Круціў-націскаў там усё без разбору, пакуль машына не скранулася з месца і не пабегла ўніз, на мост. Разгубіўся не на жарт, учапіўся за руль, пачаў круціць яго туды-сюды, але як ні стараўся, не змог уступіць дарогу легкавушцы. І неўзабаве новая настаўніца выбіралася з кювета.

Тая не вельмі радасная сустрэча ўсё ж нас зблізіла, нечым нават і парадніла. Як-ніяк, а першы я чалавек, што сустрэў у Іскані Галіну Сцяпанаўну. Настаўніца кватаравала ў цёткі Ганны, і мы, хлапчукі, нярэдка бегалі, асабліва ў завіруху, за шэсць кіламетраў на шашу сустракаць Галіну Сцяпанаўну, тапталі сцяжыну, неслі няхітрыя рэчы. Сама яна з Быхава, сям'і не было, таму часта ездзіла да маці. Пра аўтобусы на той час і не ведалі.

Пара табе і пра пісьмо расказаць. Я прывяду з яго наступныя радкі, і ты амаль усё зразумееш: «Настрой нікчэмны. Наш калгас 27 лютага будуць далучаць да Абідавіч. Не адкрылі мы музей — і не адкрыем. Будзе, як у тваіх «Вокнах». Калі людзі перакрэсліваюць гісторыю няхай нават такой невялікай вёскі, як Іскань,— вялікі ім

мінус, гэта нявыхаванасць. Балюча мне, хачу не толькі плакаць, але па-бабску галасіць. Палкі ўжо далучылі да Сяльца. Гаварылі, што жыхары Палак усе да адзінага пакінулі залу, калі ім аб'явілі рашэнне, але ніхто на гэта не звярнуў увагі. Зрабілі так, як нехта недзе рашыў загадзя...»

Шчымлівае пісьмо.... Галіна Сцяпанаўна прасіла дапамогі, прасіла, каб заступіўся. Здавалася б, усё залежыць ад саміх калгаснікаў: узнімуць рукі — аб'яднаюцца з суседзямі, не — будуць жыць і дбаць так, як і дагэтуль. Ёсць жа сялянская дэмакратыя! А, бачыш, людзі просяць дапамогі, бо яна, дэмакратыя, была і ў Палках... Задумваюся над праблемай гаспадарання, разважаю і так і гэтак. Што, не існуе яе хіба, дэмакратыі? На паперы, выходзіць, толькі? Націснуць зверху — і не піснеш? Атрымліваецца, што так. Бо што ж можа яшчэ перашкодзіць нашай «Іскры» самастойна жыць — так, як таго жадаюць самі людзі, нястомныя нашы землякі? Гэта ж вельмі проста — самім вырашаць свой лёс! Самім! Вы стварылі калгас, хоць і не вы, а ўжо дакладней сказаць будзе — бацькі вашы, дзяды, маці і бабкі, перадалі яго вам у спадчыну — нясіце далей эстафету!

Пакуль я так разважаў, думаў, за сто кіламетраў ад мяне ў адзін і той жа час вырашаўся лёс калгаса. На сцэне занялі месца члены прэзідыума, у зале — калгаснікі. Слова трымаў прадстаўнік з райцэнтра — так ужо вядзецца, бо людзі могуць толькі працаваць, рабіць у дождж і ў снег, з ранку да вечара песціць зямлю, тут ім давяраюць, а калі што адбываецца ў зале, пад дахам, дзе не капае за каўнер і не дзьме, абавязкова на сцэну ўзбіраецца чалавек з раёна, пачынае вучыць, як трэба жыць. Мастакі! Яны, людзі, першы раз таго агітатара бачаць, прозвішча яго і нават пасада ні аб чым не гавораць, затое гладка гаворыць ён сам. Абяцае залатыя горы. Яны блізка — у суседзяў. Вунь яны. Выйдзіце за вёску, гляньце — вочы разбягуцца. Што, не бачыце? Ну-у, зусім вы, так сказаць, адсталі ад жыцця, заседзеліся. А перспектывы ж якія перад вамі, таварышы! Хапайце! Хапайце, братцы, а то мы перадумаем — і ўсё прапала! Ну, дык рукі, рукі!.. Не згодны, бачым? Эх, людзі! Не б'ецца ў вашых сэрцах рытм жыцця! А вось калі за рукі возьмецеся з суседзямі — адразу, як з крана, і малако пальецца, і мяса прыбудзе, горад завалім. Пляскайце ў далоні — і разбягайцеся!

Не, недарэмна хвалявалася Галіна Сцяпанаўна: калгас далучылі. Амаль так, як і ў Палках. Праўда, у Іскані прагаласавалі ўсе камуністы «за». Яны, бач ты, інакш не маглі, таму што на кожнага глядзеў прадстаўнік з раёна, боязна, яшчэ на паперку возьме, а той

правёў перад сходам кароткую лятучку, напомніў пра месца камуністаў у вялікіх справах, даў зразумець, што чалавек, які носіць партыйны білет, павінен заўсёды падтрымліваць раён. Згодзен ты ці не згодзен, а руку — угору. І вышэй, каб людзі бачылі і таксама паднялі. А людзі-то ім верылі, сваім камуністам, думалі і спадзяваліся, што яны хоць якое слова вымавяць у абарону калгаса. Не вымавілі. Нічога не хачу сказаць кепскага ў адрас камуністаў «Іскры», бо іх адразу не пераломіш — прывыклі жыць па ўказцы зверху, іх так навучылі. І калі б нават што іншае вырашалася, ну, уявім, прапанавалі б зноў жа адтуль, зверху, пакінуць пад снегам бульбу, не збіраць — вясной, маўляў, бліны з яе смачныя будуць, не трэба і цукру дабаўляць, баюся, яны б таксама пагадзіліся...

І калі ў нас кожны навучыцца думаць?!

У Іскань я прыехаў на наступны дзень. І першае, што пачуў ад людзей, было цяжкае, з уздыхам-выдыхам:

— Няма больш нашай «Іскры». Патушылі... Эх-ма!

Далей — больш:

— Не далі і слова сказаць...

— Абрабавалі сярод белага дня...

— А я і зусім не паспеў на той сход: пакуль каня прывязаў да слупа, гляджу, і людзі разыходзяцца.

Як бы там ні было, а «Іскру» ўзяў на буксір «18 партз'езд». Але чаму — на буксір? Раённая газета пастаянна друкавала самыя розныя зводкі, і людзі бачылі, што амаль па ўсіх паказчыках «Іскра» займала прыстойныя месцы, было нават, што і першыя, другія, трэція — у хвасце, адным словам, не плялася. Людзі зараблялі добра. Тэхнікай увесь двор застаўлены. А потым, як пярун,— доўг дзяржаве, ды не маленькі... Вось табе, бабулька, і Юр'еў дзень! Хто ж улез у дзяржаўную кішэню? Іван Семчанка? Якаў Шчарбакоў? Не, гавораць, не бралі, нічога не ведаем, нават першы раз чуем.

Запазычанасць і стала быццам галоўнай прычынай у вырашэнні лёсу гаспадаркі. Самі калгаснікі нічога змяніць не маглі. Узняў ты руку ці не, а ў залу было кінута: «Будзем лічыць, большасцю галасоў...» Нехта запратэставаў, выгукнуў:

— Дык тут жа і палавіны людзей няма!

Не было пачута.

На наступны дзень па Іскані ездзілі аўтамашыны з абідавіцкімі нумарамі, вазілі цялят на цэнтральную сядзібу — цяпер ужо, падумаць толькі, на цэнтральную за шэсць кіламетраў, міма Іскані! — а людзі глядзелі ўслед, уздыхалі:

— Наша забіраюць!

Яны не маглі звыкнуцца, што цяпер «наша» — і ў Абідавічах. Успомнілі нядобрым словам былога старшыню, усю віну і за мільён, які быццам бы ўзяты быў на нейкае будаўніцтва, а куды падзеўся, ніхто і не ведае, і за ўсе іншыя грахі перакладалі цяпер на яго. Пачакайце, а дзе ж самі былі? Чаму члены праўлення вады ў рот набралі? Ці старшыня ўсё адзін вырашаў? Не, чую, не адзін... таксама рукі падымалі.. Рукі! Рукамі-то іншы раз і галаву варта памацаць — ці на месцы? Не дадумаліся. Не здагадаліся. А цяпер стаяць усе пакрыўджаныя, як сіроты...

Я доўга размаўляў у той дзень з землякамі. Больш слухаў. Гаварылі яны — спяшаліся выказацца, бо па сходзе ім проста-напраста не далі.

А можа, далучэнне гэта і трэба было? Можа, на буксіры далей заедзем? Пабачым. Добра было б, каб праз гадоў пяць — дзесяць успомнілі сход, самі прызналіся, што памыляліся, дарэмна пратэставалі...

— Дабірайся цяпер па markdown розней дробязі за шэсць кіламетраў! То паперку падпісаць, то папрасіць чаго! Перасялялі б тады і нас усіх... ці як?

— Аўтобус пусцяць, Пятро! Бясплатна вазіць будуць!

— На бясплатным многа не наездзіш... Ага.

— Дык а наша Іскань — што, на супакой? Няхай памірае, гавее? Як Кулага, як Лосеўка? Падбіраецца полымя пад нашы стрэхі.

— Не згарым!

— Табе, бачу, усё роўна...

— Во як у жыцці бывае: смяяліся з абідаўцаў, што яны па святах і выхадных улетку на лавачках сядзяць разадзетыя — як на парадзе. Няхай колас асыпаецца — для іх адпачынак на першым плане. А цяпер нас адной вяроўчынай звязалі. Параднілі. Ці ж першага сорту сноп будзе?..

— Сляпцамі так і звалі нас. Іскáнцы — сляпцы, гнуць спіну ў полі ад цямна да цямна, свету белага не бачаць. А які толк, што мы і сапраўды ад цямна да цямна гарбаціліся? Змяшалі ўсіх у адну кучу...

— Самі на пяску сядзяць, а ў нас жа зямелька! На ёй тапарышча ўторкні — расці будзе!

Тут яшчэ такія пагалоскі ходзяць. Перад самым далучэннем старшынёй «Іскры» рэкамендавалі агранома з Абідавіч — Віктара Карпенку. Хлопец малады, разваротлівы. Першай справай паклапаціўся, каб звязаць Іскань з Абідавічамі асфальтам. І звязаў!

Нехта з нашых старых назваў яго дыверсантам, маўляў, ён жа спецыяльна падасланы быў не ўзняць калгас, а здаць яго ў палон.

Таксама смешна?

Ну, а Мікола Семчанка цяпер гаворыць сваім былым землякам, седзячы ўсё на той жа лаўцы перад вокнамі:

— А я і не прагадаў! У цэнтры сяджу! А з вашай Ісканню будзе тое ж самае, што і з Кулагай. Пабачыце! Калі што гніе, то з краю...

І Валодзя, наш брат,— хіцёр:

— Не бачу перснектывы ў Іскані. Калі б тут цэнтр калгаса быў... А сярод чужых людзей я і ў горадзе змагу жыць.— Маўчыць, задумваецца.— Але пагляджу... Пакуль пабуду ў горадзе.

І — чамадан у рукі. Сашка за ім, у яго ж бацькаў характар, ведаеш: яму ўсюды добра. А Валодзя, бачу, у горадзе месца сабе не знаходзіць,
туляецца па інтэрнаце вечарамі, пазней малаток купіў, пілку, цвікі, майструе шпакоўні... А марыў жа развярнуцца ў сваёй вёсцы!

А мо яшчэ і развернецца? І не толькі ён адзін, а і яго таварышы, якія спярша таксама хацелі застацца, але пацягнуліся на гарадскія агні.

Заканчваю. На сёння хопіць. На дварэ гудзе вецер, скуголіць завіруха. Зіма сёлета снежная, пякучая. Пішы, што новага ў Ашхабадзе. Прывітанне жонцы, дачцэ, хлопцам, нашым агульным знаёмым — беларусам Пятру Груздову, Валодзю Грачову і Сашу Карлюкевічу.

Л і с т д р у г і

Не спіцца. За акном цемра, на гадзінніку — каля шасці раніцы. Маці ўжо ходзіць па падворку, рыпіць сняжком. Мне іншы раз здаецца, што яна зусім не спіць. Так і топчацца круглыя суткі. Шкада. Старая, адпачыць бы, а яна... І не знойдзеш, чым дапамагчы,. Не зразумець, відаць, нам старых людзей. У іх свой погляд на жыццё, свае адносіны да яго. А мо пажывём з іхняе, то і самі такімі станем, адчуем, што ўсё самае салодкае, радаснае — у працы, у гэтым вось раннім блуканні па двары.

— Не спіш? — маці заглядвае ў хатку, бярэ вядро.— Паспі яшчэ. На мяне не глядзі.

Маці. Усё жыццё настаўнічала, ты яшчэ, Міхась, малы быў, пехам пад стол нават не хадзіў, а я помню, як цёрся вакол яе, прасіўся ў школу — хацелася пасядзець на сапраўдным уроку. Брала.

Аднаго разу нёс сшыткі, зіма не менш завейная была, чым сёлета, нёс і не ўтрымаў, а вецер са снегам падхапіў іх, пачаў гартаць, а потым шпурляў налева і направа, пакуль не прыбіў да прасла. Збіраю сшыткі, а яны ў снежнай крупцы, маці плача — слёзы, як цяпер помню, на шчоках зашорклі. Біць, думаю, будзе. Не біла. Толькі плакала... Сёння яе разумею: як жа ёй было ў вочы вучням глянуць?..

Эх, быў час! Час вучняў, час настаўнікаў. Сямігодка, пазней васьмігодка — гэта ж нейкі святы храм! Аўтарытэт мелі настаўнікі, не тое што сёння. Сёння ашчадная кніжка вышэй школьнага падручніка, мае больную вагу, на жаль. Ды і якія ж былі настаўнікі! Сталыя, вопытныя, за плячыма вайна. Віктар Архіпавіч Гонтараў, Марк Ізраілевіч Поляк, Вольга Кандратаўна Хацкова, Яўгенія Іванаўна Сідарэнка, нашы бацькі — Вольга Якаўлеўна Тарасава і Юры Трафімавіч Ткачоў.

Снедаем. Бульба. Сала. Агурочкі. Маці зарэзала курыцу — на суп. Ляжыць, бедалага, у парозе. Шкада. Усё ж — жывое.

За снеданнем нетаропка размаўляем.

— Дах на хаце трэба замяніць — цячэ, калі дажджы,— гаворыць бацька.— Шыфер трэба даставаць. Яно б і пуньку падлатаць не пашкодзіла. Дроў хопіць да лета. Сена таксама. Хлеўчык пачысцім, раз ты ўжо прыехаў. А там паглядзім…

— А то ўсё пляшкі ды пляшкі купляць трэба,— уздыхае маці.— Ужо і ў магазін няёмка хадзіць: людзі, відаць, думаюць, што для сябе. І грошы ж немалыя цяпер яны каштуюць. Шыбка не набярэшся.

— А навошта ты за мяне замуж выходзіла? — моршчыць лоб бацька, узнімае вочы, трэ куксай далонь правай рукі.— Знайшла б жаніха з абедзвюма рукамі.

— Маўчы ўжо, гора!

Зразумееш і бацьку. Без рукі ў вёсцы — паўчалавека, але ж робіць, колькі можа, усё, з агульнага вясковага раду не выбіваецца. І дровы пасячэ, і вады наносіць, і карове сена падкіне ў кармушку, і... Навучыла жыццё ўсяму. За плугам толькі вось не пройдзеш без рукі. Не ўсялякае бервяно перакінеш з месца на месца. Лесвіцу не змайструеш. Тут бутэлька дапамагае, яна — яго левая рука. А цяпер жа, пасля Указа аб барацьбе з п'янствам і алкагалізмам, не заўсёды расстараешся — дэфіцыт. У сельсавеце квіткі прыдумалі — на сям'ю тры пляшкі на месяц, хочаш — віно бяры, хочаш — гарэлку. Гарэлка дарагая, віном не выкруцішся. Што пляшка для Смыка? Каўтане і не зморшчыцца. Яшчэ падавай.

Прыехалі тым летам міліцыянеры п'яніц адлоўліваць, на прымусовае лячэнне іх адвезці. І зацапалі ўсіх, акрамя Смыка. Пакуль яго гукалі, пад ложкі заглядвалі, на гарышча, ён спаў на разоры ў гародчыку, прыхінуты бульбоўнікам. А потым Смык хадзіў па вёсцы, баіў:

— Піць не ўмеюць, таму і падшкраблі ўсіх. А трэба так: выпіў — і ў агарод на бок. Там хоць і надоўга заснеш, то ўсё роўна знойдуць, калі бульбу капаць пачнуць. Але свае, не міліцыя.

Сумны жарт.

Прыходзіла надоечы цётка Ганна. Цяжка ёй жыць адной. На агарод была махнула рукой — самой яго не ўпарадчыць, а на віно пенсіі не хапае. Людзі не пакінулі ў бядзе старую, корпаюцца. Нашы таксама дапамагаюць. То бацька што дапаможа, то маці выкраіць час, прыбяжыць, а то і хлопцы, калі прыедуць на выхадныя. Усё ж цётка Ганна, Ганна Гаўрылаўна Панадысёва, першай прытуліла нас у Іскані, а ты, дарэчы, і нарадзіўся ў яе маленькай, але гасціннай хатцы. Яна часта ўспамінае цябе, не праміне спытаць: «Як там Мішка?» Паштоўку хоць бы не ленаваўся да свята пасылаць. Дробязь, а старой — радасць. Ёй цяпер няма ад каго нават і весткі атрымаць, мо калі ад унучак толькі, але ж яны побач, у Магілёве,— наўрад ці пішуць.. Гэта дзеўкі Колі, сына яе, старэйшага. Волат жа быў хлопец! Прыгожы, здаровы, а хвароба і яго не пашкадавала — звалілa. Ён у апошні час адкрыта пра смерць гаварыў, з сумам толькі ў голасе, бо не бачыў уратавання. Горш, відаць, не бывае, калі ведаеш, што твае дні на гэтым свеце заканчваюцца і ніхто не можа цябе абараніць ад жорсткай хваробы.

Міцю, сярэдняга, прывёз на машыне ў труне Міхаіл Юрчанка, яны там разам у Піткяранце жылі. Ён так і не ажаніўся, а паўвека амаль было чалавеку. Пра нябожчыкаў кепска не гавораць, але што хаваць — піў... Яна, горкая, і скруціла ў рэшце рэшт, зрабіла сваё. Я і думаю: а хтосьці мог быць з ім шчаслівым чалавекам. Прыгажун. Ну, а пра Аркадзю чуў, ён самы першы памёр. Не пажадаеш і ворагу такога, што перанесла на сваім вяку Ганна Гаўрылаўна. Муж, ведаеш жа, з вайны не вярнуўся. Цяпер адна.

Я часта заходжу да цёткі Ганны. Яна праслязіцца, прызнаецца:

— Аб адным шкадую, што Міцю не выратавала. Сны ж бачыла.,. Трэба было хоць бы цябе папрасіць ды з'ездзіць у Карэлію, забраць яго. Казаў Мішка, што піў і не еў. На рабоце цанілі, таму не выганялі — не было каму рабіць за яго. Лепш бы выгналі. Ой, Міцька, Міцька! Што ж ты нарабіў, сыночак? Я ж яшчэ, як ты ў горад паехаў, баялася за цябе. Характарам добры, сапсуе горад. Ён на работу не

выходзіў, пакуль усе грошы не прапіваў, а тады ўжо рабіў дзень і ноч. На заводзе ведалі: пасля зарплаты Міцькі не будзе, прывыклі да гэтага, ён сваё зробіць... Так на рабоце і ўпаў...

Ты помніш, у цёткі Ганны была кніга, якую яна берагла, як самую дарагую каштоўнасць — евангелле. Усе пахаванні-адпяванні без яе не абыходзіліся. Ніхто, пэўна, так не верыў у бога ў вёсцы, як Гаўрылаўна. А калі пахавала трэцяга сына, перастала адразу ж, а людзям, што прыходзілі прасіць па першасці, не ведаючы пра гэта, гаварыла, махаючы рукамі:

— Няма бога.... Няма... Няма...

І тыя разумелі Ганну, ім заставалася толькі паспачуваць ёй.

Колькі вынеслі нашы цёткі Ганны! З-за вайны. З-за дзяцей...

Гады чатыры назад да Дня Перамогі каля брацкіх магілак паставілі дашчаты столік, лаўкі. Аднаго разу бачыў,як ранічкай, амаль на досвітку, прыйшлі сюды Еўдакія Пятроўна Храмцова і Лёксачка, што ў вуліцы жыве. Прозвішча з галавы вылецела, прабач. Выклалі бабулькі на стол з вузельчыкаў ежу. Бутэльку таксама паставілі. Хлеб парэзалі. Чаркі напоўнілі. Цётка Дуня змахнула слязу, падняла сваю чарку, загаварыла, ні на каго не звяртаючы ўвагі:

— Ну, жанішкі нашы, ну, родненькія, давайце вып'ем за перамогу.— І выпіла.— Закусвайце. Закусвайце, міленькія. Хлеб бярыце. Каўбаску, сын мой, Пецька, з Магілёва прывёз. Сала вось... Кансерва... Закусвайце... Чым багаты, тым і рады. Цяпер у нас, слава вам, усё ёсць. Сытна жывём. Зараз і піянеры да вас прыбягуць, кветкі прынясуць.. Сяльчане ўсе наведаюцца з паклонам. А мы першыя з Лёксай, ледзьве раніцы дачакаліся...

Слухаў я цётку Дуню, слёз не стрымліваў — ад пачутага, расчулілі словы, кранулі глыбока. Колькі ж у сэрцы гэтай старой жанчыны дабрыні, чалавечнасці? Чым змерыш?

Ты, відаць, пра Еўдакію Пятроўну ведаеш. Ці не? Яна ж цудам у вайну ўратавалася. Храмцовы схавалі ў сябе параненага чырвонаармейца, тады жылі яны на балоце, у канцы Негліва, а нехта даклаў немцам. Расстралялі ворагі ўсю сям'ю. А цёткі Дуні не было дома... Яна якраз дзіця чакала, муж ваяваў... Адна засталася. Як дзічка ў полі. А тут і дзіця на падыходзе. Не хацела нараджаць, прызнаецца сёння, бо навошта яму, немаўляці, усе гэтыя нечалавечыя пакуты... А цяпер і рада — сын Пятро амаль кожны выхадны дома, на ўласным «Масквічы» прыязджае. «Як бы я без яго?»

Я табе ўжо расказваў, як сустрэў Галіну Сцяпанаўну. Не прайшло, мусіць, і года, як з'явіўся ў Іскані Мікалай Кірылавіч Шульга — прыехаў услед за ёй, ледзьве скончыўшы педінстытут. Каханне

куды не завядзе чалавека. Помню, сядзеў ён, ціхмяны, вастраносы, у акулярах, з разумным поглядам вачэй, на табурэце ў нашай хаце (бацькі — настаўнікі, і Галіна Сцяпанаўна, канечне ж, прывяла паказаць свайго выбранніка лёсу, пазнаёміць), раз-пораз цёр шкельцы акуляраў насоўкай, і калі знімаў іх, на носе добра былі бачны сляды ад дужкі — ажно чырвоныя.

Пра Мікалая Кірылавіча словы наперадзе, але, абганяючы падзеі, скажу, што ён, на маю думку, пакінуў у памяці вяскоўцаў самы яркі бадай што след з усіх людзей, якія жылі калінебудзь у Іскані..

Галіна Сцяпанаўна гатавала вячэру. Дом яе прыляпіўся да школьнага двара, раней яна працавала дырэктарам, для зручнасці і жытло побач пабудавана. А калі дырэктарства было перададзена, засталася жыць, дзе і жыла,— пры школе. Новы дырэктар пабудаваў дом у іншым месцы, бо тут няма дзе — усё занята.

Убачыўшы мяне, прывецілa, замітусілася, запрасіла прайсці ў залу. «Дзеці, панаглядайце за плітой». На вачах слёзы... Яна папраўіла хустку, якой была туга павязана галава, зноў пра ліст да мяне, зноў пра тое ж:

— Чаму так абышліся з намі? Нехта рашыў — і на табе! Ну, павінен калгас мільён, то хіба ён адразу і ляжа ў кішэню дзяржавы? З неба ўпадзе? Мільён — толькі прычына, зачэпка. Шкада мне ісканцаў. Жылі-былі... Я гарадская, але жыву тут каля трыццаці год, усё чую, усё бачу. І не збіраюся нікуды. Тут маё месца, сярод гэтых людзей, дзе магілка Кірылавіча. Да канца. Я і сама цяпер задаю сабе пытанне: а ці трэба так убівацца? Што тут страшнага? І, падумаўшы, усё ж адказваю: «Трэба! Хоць бы дзеля таго, каб не гулялі дарослыя дзядзькі ў дэмакратыю».

П'ём чай. Побач сядзяць дзеці Галіны Сцяпанаўны — Наташка і Жэнька, сямікласніца і першакласнік. Малодшы сын не помніць свайго тату. Старэйшая, Лена, вучыцца ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце, завочна, а працуе ў Пакалюбічах, непадалёк ад горада, у дзіцячым садзіку. Маша пасля тэхнікума засталася ў Калузе. Валодзя паступіў у сельскагаспадарчы тэхнікум, на механіка. Жыве сям'я Галіны Сцяпанаўны, як і пры Кірылавічы, трымае самую розную жыўнасць. Гледзячы на рукі гаспадыні, цяжка сказаць, што яна — настаўніца, тая гарадская інтэлігентка з манікюрам, якую бегалі мы сустракаць на шашу.

Працавітыя сялянскія рукі.

З акна кватэры бачу гараж, у ім стаіць ужо колькі год «Запарожац».

— Не магу прадаць,— уздыхае Сцяпанаўна.— Ужо дзесяць гадоў, як памёр Кірылавіч, а машына стаіць. І ездзіць не ездзім. Не, не магу. Так і здаецца: вернецца Кірылавіч, гляне, а легкавушкі няма... Валодзя, можа, пасля тэхнікума сядзе за руль. Толькі, баюся, далёка ад мяне жыць будзе — калгас жа расфарміравалі, усе цяпер не затрымліваюцца, бягуць... Лягчэй было б нам, каб сын вярнуўся... Усё ж мужчына...

Успамінаем Кірылавіча. Гісторык быў цудоўны. Я смела паставіў бы яго побач з такімі настаўнікамі, як Шаталаў, Волкаў і іншымі. Ты ж ведаеш, упершыню дзеці ісканцаў пачалі вывучаць гісторыю не толькі ў класе, але і ў падарожжах па родным краі. Ён вадзіў нас па Беларусі. Тады многія вяскоўцы сваім дзецям пакуплялі веласіпеды.

Шульга марыў стварыць два музеі — школьны баявой славы і музей гісторыі калгаса. Першы ёсць, другі не паспеў. А матэрыял сабраў багаты. Напісаў гісторыю калгаса, нататкі пра кожнага ісканца, які не вярнуўся з Вялікай Айчыннай вайны. Гэта — каля пяцісот біяграфій. Потым адваяваў у калгасе стары клуб, ужо нават і рамонт пачалі рабіць.,.. Людзі ідуць сёння толькі ў школьны музей, дзе сабраны сотні экспанатаў, што расказваюць пра воінаў-вызваліцеляў вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На свята Перамогі прыязджаюць былыя франтавікі. З усіх куткоў краіны. Ад могілак, дзе пахаваны іх баявыя сябры, ідуць потым за вёску на пагост — да Мікалая Кірылавіча Шульгі, пастаяць там моўчкі, пакінуць кветкі. Яны ўдзячны яму, што ўвекавечыў памяць пра вызваленцаў і падараваў ім шчаслівую магчымасць сустракацца на зямлі, якая кожнаму франтавіку дарага не менш, чым тая, дзе нарадзіліся, дзе жывуць сёння.

Планавалася так: у стары клуб перавесці школьны музей, тут жа арганізаваць музей і гісторыі калгаса. Калгас сёння мае другую назву. Вёска засталася. Чаму ж, можна і так назваць: музей гісторыі, баявой і працоўнай славы вёскі Іскань.

Пакуль і сама Галіна Сцяпанаўна на раздарожжы. Але лічыць, што не хто іншы, толькі яна павінна дарабіць пачатае мужам.

На дзвярах клуба, дарэчы, нехта напісаў крэйдай: «Будзе музей!»

І я веру: будзе. І трэба адвесці ў ім куточак, прысвечаны памяці настаўніка-следапыта і краязнаўцы, селькора Мікалая Кірылавіча Шульгі.

Памяць пра гэтага чалавека таксама павінна жыць.

У вёсцы сумна. Ціха па вечарах. Ні песні, ні гармоні. Я маю на ўвазе вясну, лета... Мішка Ганчароў круціць кіно пры пустой зале. Успамінаюцца ранейшыя гады — канец пяцідзесятых, пачатак

шасцідзесятых. Якая самадзейнасць была! На канцэрты ішлі людзі з такім настроем, бы да іх сам Райкін прыехаў. Клуб быў маленькі, але ўсіх умяшчаў. Чалавек на чалавеку. Колькі ж смеху было ў ім, весялосці. Ніколі не забуду, як паказвалі інтэрмедыю нашы артысты Якаў Шчарбакоў і Мішка Клюеў. Забыліся, бедалагі, словы, але выкруціліся — пачалі на хаду выдумляць новы спектакль. Так разыгралі, што людзі не паспявалі слёзы выціраць ад смеху. Крытыкнулі, адным словам, непарадкі калгасныя...

А цяпер — ціха. Загадчыкі клуба не трымаюцца падоўгу. З Магілёва прысылаюць іх, з культпрасветвучылішча, яны год ці два адчыняюць ды зачыняюць дзверы, а потым памахаюць ручкай — і толькі бачылі. Помніш Валодзю Батуру, цыгана? Энергічна быў узяўся ён за самадзейнасць, усіх бабулек на рэпетыцыі ў клуб сагітаваў, але і ў яго нічога не атрымалася. Канцэрт так і не адбыўся — з'ехаў Батура.

Не звіняць і дзіцячыя галасы на горцы. Тэлевізар моцна трымае. Ды і дзяцей менш цяпер. Ціха ў вёсцы. Апусціла яна галаву.

Ты, браце, відаць, успамінаеш вольхі, што раслі некалі на поплаве перад нашай хатай. Я адзін раз нават артыкул напісаў у раённую газету, здымачак зрабіў. І загаловак даў: «Расціце, вольхі!» А іх адразу ж пад сякеру — усе да адной, бы нехта мне адпомсціць рашыў: «Ах, расціце!..» Меліярацыя. Выпрамілі і рачулку, цяпер канаўка. Верабей пяройдзе і пер'е не памочыць. Няма вольхаў, няма ракі, няма і маляўнічага кутка ў вёсцы... А старыя людзі не дурні: калі вольхі саджалі, то не толькі зямлю ўпрыгожвалі, але і думалі пра тое, што можа пажар усхапіцца. Вольхі захінуць другую частку вёскі, не дадуць агню перакінуцца. А яшчэ розная пярнатая драбяза побач жыць будзе. У алешніку ад спёкі курыца схавацца можа, качкі, гусі...

Тое, што думалі старыя, нікога не цікавіла. Зруйнавалі, абезжыццёвілі маляўнічы куток. Я не супраць меліярацыі, але ж хіба ў нас тут балота было? Разлічвалі, што з тых дзесяці гектараў, якія займалі вольхі, прыбытак будзе калгасу. Першы год нават авёс пасеялі. Авёс пасярод вёскі? Дадумацца ж! Курам не на смех, а на корм. Цяпер зямля пустуе. Лысая зямля. Праўда, кароў тут пасвяць — грамадскія статкі. Бегаюць рагулі па тым лапіку, галовы задраўшы, галёкаюць, а ўшчыкнуць няма чаго. Але хто цяпер скажа, што не паклапаціліся пра пашу? Вось яна перад табой. Не бяда, што выталачана.

Іншы раз хочацца спытаць: «Куды глядзіце, людзі? Ці на месцы галовы?» Але ў каго спытаеш, калі над зямлёй развялося столькі гаспадароў, што не знойдзеш крайняга? Ты пытаеш пра грэчку. Не

сустракаў у Гомелі, каб прадавалі. Гэта, браток, дэфіцыт не толькі ў Ашхабадзе. Так што націскай на рыс, макароны. Калі я працаваў у абласной газеце «Гомельская праўда», адзін ветэран даслаў пісьмо, якое было потым надрукавана пад рубрыкай «З пазіцыі гаспадара». Дзесьці ў мяне павінна быць газета... Ага, знайшоў... «Грэчку рысам не заменіш». Передрукую для цябе, не палянуюся, каб ты не думаў, што мы тут грэчку кожны дзень ядзім. Чытай: «Вам грэцкіх круп? Калі ласка? Такія словы ад прадаўцоў нашых гарадскіх і сельскіх магазінаў зараз не пачуеш. А я памятаю час, калі ў продажы быў і гэты прадукт. Магчыма, не паўсюдна, але быў. Прыгадваю, як пасля вайны мы, былыя франтавікі, шчыравалі на малаўгноеных, слабых на ўрадлівасць палях. Як радаваліся нашым сціплым (па цяперашніх мерках) поспехам. Ганарыліся стопудовымі ўраджаямі збожжавых. А сто пудоў — гэта ж усяго 16 цэнтнераў, удвая менш, чым збіраюць цяпер вельмі многія гаспадаркі вобласці.

І грэчку сеялі тады. Не на лепшых землях — на пясочках, не песцілі яе арганічнымі і міперальнымі ўгнаеннямі. І яна радзіла слаба. Аднак лічылі, што без яе не абысціся.

Некаторыя людзі гавораць: грэчка не вытрымала канкурэнцыі з рысам. Гаспадарнікі могуць лёгка пераканаць, што яна — культура малаўраджайная. Даказваюць эканамісты нявыгаднасць грэчкі, яе мізэрную долю ў прыбытках, а самі думаюць: дзе б раздабыць грэцкіх круп? Праблема...

На мой погляд, ніякай асаблівай праблемы з грэчкай не было б, калі б да яе ў гаспадарках адносіліся ўважліва.

Некалькі цэнтнераў з гектара — гэта, бясспрэчна, мала. Такая ўраджайнасць выклікае расчараванне. А 16—19?

Са спецыяльнай літаратуры па земляробству я даведаўся аб тым, аб чым ведалі нашы дзяды і прадзеды, аб «сакрэтах» поспеху на грэцкім полі. Калі не парушаць патрабаванні, то і грэчка будзе заўсёды рэнтабельнай. Вось яны, прапісныя ісціны, з якімі ў радзе гаспадарак не лічацца: выдатнае элітнае насенне, адпаведная падрыхтоўка глебы, своечасовая сяўба з захаваннем правілаў агратэхнікі.

Усім вяскоўцам вядома, што ў грэчкі перыяд цвіцення працяглы, і ў гэты час ёй неабходны пчолы. Але ці многа вулляў побач з полем? Яны — рэдкасць нават у сельскай мясцовасці. Але прыбаўка ва ўраджайнасці залежыць не толькі ад пчол. Калі насенне грэчкі прапусціць праз электрасартавальную машыну, то электрамагнітнае ўздзеянне стымулюе ў ім біялагічныя працэсы. Такая машына створана ў Чалябінскім інстытуце механізацыі і электрыфікацыі

сельскай гаспадаркі групай вучоных пад кіраўніцтвам прафесара А. М. Басава.

Над вёскай вісіць ціхі зімовы вечар. Ашчэрвае зубы мароз. Рыпіць сняжок пад нагамі — нехта падыходзіць да веснічак, бразгае слесаком, заходзіць на падворак. Пазнаю: Лёха, Аляксей Прылепаў. Прыехаў ён з Поўначы, адзін, без сям'і. Працуе ў калгасе. Сёння ён зноў будзе доўга расказваць мне пра свае блуканні па свеце. Не склалася жыццё ў яго на Поўначы, а свая зямля, некалі забытая і пакрыўджаная, кожнага прымае, кожнаму дарує... Лёха — адзін з такіх. «И города нз нас не получнлось, и навсегда потеряно село». Хоць і позна, але ён сябе быццам бы знайшоў. Працуе. Печы і грубкі робіць, калі папросіць хто. Хваляць.

Жыве, адным словам, вёска. Правіць вяселлі, радзіны. Вырошчвае хлеб.

Заўтра мы з бацькам паедзем у Абідавічы, а там, мусіць, у райцэнтр. Пакуль зіма, трэба прызапасіць матэрыял і рамантаваць хату. Нашу хату. Няхай не старэе яна. Няхай доўга яшчэ стаіць яна на роднай нам з табой бацькоўскай зямлі.

## ЛЯСНЫ ЦЭХ

I

Едзем з дзядзькам Васілём палявой дарогай у лес. Мне бачацца высокія, стромкія сосны, праз вяршаліны якіх страляюць долу сонечныя промні. Едзем у сасоннік, як кажуць у Гуце пра гэты пасляваенны бор, і сэрца поўніцца радасцю, а разам з тым і нейкай затоенай трывогай. Ці даўно басаногімі хлапчукамі бегалі мы ў тым ляску ў пошуках грыбоў і духмяных суніц, а потым, адчуўшы стому, сядзелі на палянцы альбо пад кусцікам і марылі аб новых прыгодах. Шчаслівае было дзяцінства, хоць і пасляваеннае, нялёгкае. Потайкам вынесеная лустачка хлеба дапаўняла наш лясны абед, і смачнейшага ласунку, чым хлеб дамашняй выпечкі з ягадамі, не ўяўлялася. Лес хораша карміў тады вёску. Час быў нялёгкі, няўкрутны, і таму бацькі не забаранялі бегчы ў лес: хіба ж шкодзяць да стала лясныя дарункі? І мы збіралі там усё, чым ён быў багаты.

Конь лёгка цягне калёсы, ступае па скапычанай дарозе цвёрда, ходка, і дзядзька Васіль паглядае, крыху завастрыўшы зрок — ажно маршчынкі збегліся сетачкай ля вачэй, у бок лесу, які выбягае насустрач пакуль што пагоркавым квадратам маладога сасняку,

заўважае:

— Нядаўна пасадзілі, а бач, як выцягнуўся. І дзе расце? На пяску. Ведама, сасна. А пуставаў лапік. Іх каб усе такія лапікі да рук прыбраў, то карысць вялікая была б, і казаць не трэба. Драўніна драўнінай, але ж і грыбы растуць, ягады. Ледзьве не ў самай вёсцы. Курорт.

Дзядзька Васіль звесіў нагу праз драбіну, тая дастае ледзь не да самай зямлі. Падганяе каня, колы пачынаюць круціцца шпарчэй. Рослы дзядзька Васіль, хударлявы, прыгожы смуглявы твар кранулі маршчынкі. Калі было, здаецца, як прывёз з другога боку Беларусі сабе маладую прыгожую жонку — аблюбаваў яе, дзе служыў,— а ўжо дзедам стаў. Лятуць гады. Непрыкметна, неяк спадцішка, а варта азірнуцца — і дзіву даешся: ці даўно.... Ці даўно і ён, Васіль Трафімавіч Тарасаў, пагадзіўся пайсці працаваць у лясніцтва, а колькі снягоў сплыло вясновымі дзянькамі з лясных палянак, на якіх знаёма сёння яму кожнае дрэва. Ды я, прызнацца шчыра, увесь час і помню яго толькі ў форме лесніка. А вось ці ёсць у дзядзькі Васіля стрэльба — сказаць по бяруся. Мусіць, няма. Не раз бачыў, як накіроўваўся ён на свой участак з бензапілой, старэнькай, даўно адслужыўшай свой век сумкай, у якую сам ці жонка Каця клала што-небудзь перахапіць, сядаў на калёсы, ціха загадваў паслухмянаму коніку, і той вёз яго на працу. Лес — яго рабочае месца. Як спяшаюцца гараджане ў цэхі да станкоў, так і ён у лес, да дрэў. Наперадзе бег ганчак, быццам паказваючы каню дарогу ў цудоўны свет жывога хараства роднай зямлі.

Разважлівы, удумлівы, нехапатлівы дзядзька Васіль. Ёсць у яго характары нейкая стрыманасць. І калі можна было б зрабіць такое параўнапне, то я параўнаў бы яго характар з маўклівасцю і ўдумлівасцю бору, з яго прыветнасцю, хараством.

— Хварэе лес,— заклапочана прамовіў ляснік, шлёгнуў спакваля лейцамі.— Уелася хвароба, спасу няма. Раяць бярозкі паміж соснаў ды ялін саджаць. А што дасць — накуль ранавата казаць. Пра грыб, што «каранёвай губкай» называецца, не чуў? То вось ён дрэвам жыцця не дае. У ёлак паражае цэнтральную частку, а ў соснаў — карані. Чытаў у газеце, быццам у Мінску вучоныя пачалі шукаць сродкі барацьбы з гэтай хваробай. Трэба, а як жа! Не задумваемся, якую шкоду прынясе той грыб. Стаіць лес, расце, і хто з людзей можа падумаць, што ён хварэе? Не чалавек жа. А хварэе. Жывое таму што. А колькі кветак карысных, лекавых можа прапасці. Толькі, калі праўду сказаць, хто іх збірае, тыя кветкі? Ціха ў лесе. Грыбнікі яшчэ ходзяць, стрэць можна.

Дзень стаяў цёплы, сонечны, быў канец бабінага лета, тонкія ніткі павуціння не плавалі ўжо ў густым паветры, а толькі дзе-нідзе бачыліся ўзорчатымі сетачкамі ў лясных закутках. Уехалі ва ўладанні дзядзькі Васіля мы з боку ракі Гутлянкі, за якой ужо пачынаецца Быхаўскі раён, пачынаецца суседняя з Гомельскай Магілёўская вобласць, і яна глядзела на нас густым маляўнічым лясным узгоркам.

— І там, у Плоскім, ціха,— паказаў ляснік вачамі за раку.— Ездзіў, цікавіўся надоечы. Грыбніка стрэў, з Іскані. Разгаварыліся. Знаёмы аказаўся чалавек: ён нашу, гутленскую, маладзіцу браў. Не, кажа, ціха, лекавых траў ніхто не збірае. Праўда, даплыла да вёскі чутка, бытта сушаніцу ў Быхаве прымаюць. То накінуліся людзі былі, ношкамі вазілі. Здаюць нарыхтоўчай канторы, а самі не вераць: хіба жа за такую траву шчэ вось і грошы плацяць? А плацяць, ды і някепска. Адна жанчына на пяцьсот рублёў здала. Пахвалілася яна землякам, хто-ніхто таксама пачаў збіраць. У жніўні сушаніца ёсць, няма чаго казаць. Аказалася, што яе на цукровых бураках — касу закладвай. Дык той-сёй не траву, а бурачкі калгасныя пад ніз уціскаць пачаў. А старшыыня там — жанчына строгая, прачула аб такіх зборшчыках, ды і вета наклала: каго ўбачу, бытта сказала, на цукровых бураках, то не менш як на пяцьдзесят рублёў аштрафую. І зразумець яе, Марыю Барысаўну, можна, бо калгаснага кіраўніка куды больш хвалююць буракі і жыта, чым лекавыя травы. Кожнаму — сваё.— Ляснік усміхнуўся, хітануў галавой.— А што з сябе тая сушаніца ўяўляе? Мала хто і ведае. Можа, яна кожнаму чалавеку штодня на вочы трапляе, а ён абмінае яе, топча? Ды так і ёсць. Іскански грыбнік і казаў жа: кінуліся людзі да Марусі, каб паказала ім, якая з сябе хоць тая трава, што за яе шчэ і грошы плацяць...

Дзядзька Васіль спыніў каня на добрым травяным лапіку, зняў з калёс бензапілу, праверыў, ці не капрызнічае, і тая застракатала, парушыла лясную цішу.

— Выбракоўку трэба зрабіць,— сказаў.— Густа расце сасна. Адно дрэва другому цягнуцца ўгору замінае. Хворыя дрэвы трэба зразаць. Мо тады менш тая хвароба будзе распаўзацца?

Ён схаваўся з пілой у гушчары, а я хадзіў з кошыкам недзе непадалёк, бо піла, колькі я збіраў позния сёлетнія грыбы, гудзела побач, нібы лётаў за маёй спіной рой сляпнёў.

Грыбоў было багата. Збіралася лёгка. Асабліва лезлі на вочы маслякі, шэнціла на ваўнянкі, рыжыкі, зрэдку трапляліся баравікі, ababкі, падасінавікі.

У Гомель вяртаўся вечарам. Разам з грыбамі вёз з лесу свайго дзяцінства нямала ўражанняў, думак, якія прывялі мяне потым у

аблспажыўсаюз. Захацелася падзяліцца імі з Тамарай Міхайлаўнай Шамятковай, начальнікам аддзела закупак і збыту дзікарастучай прадукцыі і лекавай тэхнічнай сыравіны. Хацелася ведаць, як жыве, працуе сёння лясны цэх не толькі ў Рагачоўскім раёне, але і ва ўсёй вобласці.

— Сапраўды,— сказала Шамяткова,— ціха пакуль у тым лесе, пра які кажаце. Рагачоўшчына не значыцца ў нашых спісах як перспектыўны раён па збору лясных дарункаў. Выручае Палессе. Шчодры гэты край, ды і людзі там рупныя.

Зноў успомніўся дзядзька Васіль.

— Бульбу мы ў зямлі не пакідаем, не,— заклапочана казаў ён.— А вось грыб... Каб яму хоць частку той увагі, што надаём мы «другому

хлебу», то зімой нам бы гараджанін вялікае дзякуй сказаў. Расце ж грыб, ніякіх клопатаў, турбот па доглядзе за ім не патрабуе, а распараджацца мы гэтым багаццем пакуль не ўмеем. Рукі не даходзяць. Хіба ж не так? А што такое грыб, асабліва ўзімку,— кожны ведае.

Рагачоўшчына, канечне, не Палессе, але ж гэты куток не можа скардзіцца на адсутнасць умоў для нарыхтоўкі грыбоў. Ёсць дзе расці баравікам і апенькам, смаржкам і маслякам. Толькі іх, тыя ўмовы, ствараць трэба. Не сказаць, каб не браліся тут грыбавары за справу. Браліся... Летась вырашылі варыць чорны грузд, аднак на месцы попыту ён не меў. Для сябе жыхары раёна назапасілі ўдосталь лясных дарункаў. А недзе ж прагнуць людзі купіць у магазіне і той жа чорны грузд, багаты каштоўнымі вітамінамі, смачны і карысны, ды не могуць: сёння нарыхтоўка ў раёне вядзецца такімі чарапашымі тэмпамі, што чыгунка не можа нават выдзеліць нарыхтоўчай канторы вагон, бо яго няма чым напаўняць, а парожні каму выгадна цягнуць за сотні кіламетраў? Вядома ж, чыгуначнікі на такое сваё «дабро» не дадуць. І хто іх будзе вінаваціць у гэтым?

Калі з нарыхтоўкай грыбоў справы ў самым паўночным раёне вобласці абстаяць яшчэ, скажам прама, кепска, то за лекавыя травы выказваюць у аблспажыўсаюзе падзяку. Тамара Міхайлаўна Шамяткова зазначае:

— Было б вельмі крыўдна, каб травы, што растуць на Рагачоўшчыне, не збіраліся. Спецыялісты сцвярджаюць, што ў гэтым кутку вобласці яны надзвычай карысныя, утрымліваюць у сабе багата фармакалагічна каштоўных рэчываў. З многіх раслін і іх частак атрымліваюцца высокаэфектыўныя лячэбныя прэпараты, а ці

трэба казаць пра адвары, настоі, якія таксама вылечваюць людзей ад розных захворванняў.

Калі ў тым жа Рагачоўскім раёне някепска сёння нарыхтоўваюць лекавую сыравіну, то заслуга ў гэтым перш-наперш Галіны Іванаўны Дзівачэнка, тавараэнаўцы нарыхтоўчай канторы. Нярэдка яе рабочы дзень пачынаецца не з кабінета, а спяшаецца жанчына на аўтавакзал. Даводзіцца іншым разам і пастаяць у салоне аўтобуса, трэсціся на разбітых дарогах, але ў глыбінку яна едзе з добрым настроем. Ведае: ёсць у нашых вёсках людзі, якія зразумеюць яе, памогуць, выручаць. Ды і выручаць хіба ж толькі яе? Лекавая сыравіна патрэбна хворым.

Галіна Іванаўна збірае вакол сябе, як правіла, пенсіянераў, расказвае аб мэце свайго візіту на іх селішча, а потым вядзе за вёску, зрывае кветку за кветкай, тлумачыць:

— Сіні васілёк. Вы, мусіць, і не ведаеце, што гэтая прыгожая кветка — каштоўная лекавая сыравіна, яна ўваходзіць у склад мікстуры Здрэнка, выкарыстоўваецца як лекавы сродак пры захворванні страўніка. Альбо вунь валяр'ян. Чулі, канечне, што валяр'янка прыходзіць на выручку тым, хто скардзіцца на частае сэрцабіццё, неўроз сардэчна-сасудзістай сістэмы. Давайце хворым паможам.

Слухаюць людзі Галіну Іванаўну, і хоць век пражылі, але прызнаюцца, што не ўсё яшчэ ведаюць пра травы, кару дрэў, пупышкі з іх. Аказваецца, што расліна, якая ледзьве вунь не пад самым плотам расце сабе бесклапотна, пустазеллем лічыцца, а ёй цаны няма. Дзівачэнка расказвае, якую расліну калі і як збіраць трэба, каб яна не губляла сваіх уласцівасцей, а сама думае: «На нейкі гадзіннік у кожнай газеце рэкламу прачытаеш: колькі каштуе, у які бок стрэлкі рухаюцца. А чаму ж так падрабязна не інфармаваць людзей аб нашай рабоце? Наспеў час збіраць кветкі і плады глогу, скажам, то і падказаць ім трэба. Хіба ж у хатніх клопатах угледзіш-упільнуеш той глог. Значная большасць насельніцтва ўвогуле не ведае, што збіраць, як, калі. Вось і растлумачваць людзям трэба, мабілізоўваць іх. Няхай з дзесяці адзін чалавек адгукнецца, і тое добра. Колькі стане тады ў нас памагатых!»

Думкі, думкі... Не адна, мусіць, Галіна Іванаўна Дзівачэнка згодна, што лясны цэх працуе сёнпя крыху адасоблена ад насельніцтва. Хто ведае пра яго клопаты і турботы? Толькі там і ажывае работа, пазначаецца плён, дзе пройдзе такая вось рупная жанчына, як тавараэнавец з Рагачова. Ну, аб'едзе яна пяць, няхай і

пятнаццаць вёсак, а як данесці, якімі сродкамі да людзей іншых населеных пунктаў яе слова?

— Выпускаецца ў нас літаратура, нельга сказаць, што не,— гаворыць Тамара Шамяткова.— Распаўсюдзіць яе па ўсіх населеных пунктах, нават па школах, мы не можам. Ды і дзе ўпэўненасць, што той дапаможнік не ляжа паверх стосіка кніжак у той жа настаўніцкай? Шырэй, думаецца, трэба прапагандаваць справы нарыхтоўшчыкаў на старонках газет, па радыё, тэлебачанні. Трэба вучыць людзей — як збіраць. Ад гэтага будзе толькі карысць.

Шамяткова задумалася, а потым выцягнула з папкі паперку, працягнула мне:

—Вось... Пісьмо ў навукова-даследчы інстытут Цэнтрасаюза. Думаеце, не турбуем іх? Просім: патрэбна нарыхтоўшчыкам спецмашына, нечым падобная на агітку. З мікрафонам, крытая. Прыехаў у тую ці іншую вёску, абвясціў, хто мы такія, з чым завіталі. Зручна. Няхай бы была ў гэтай машыне і секцыя аўталаўкі, дзе маглі б нашы працаўнікі трымаць тавары, каб на месцы і разлічвацца.

Што ж, у такой машыне і сапраўды наспела неабходнасць. Аднак Харкаў, дзе размешчаны навукова-даследчы інстытут, пакуль маўчыць. І ці скажа ён станоўчае слова? Павінен, бо каму ж, як не галіноваму інстытуту, праяўляць зацікаўленасць да вырашэння праблем, якія нараджае жыццё ў самай сваёй гушчыні? Не хапае рабочых рук. А план ёсць план: яго выконваць трэба, а не на лічбу дзівіцца. Прынамсі, і лічба немаленькая — 895 тон салёна-марынаваных грыбоў аблспажыўсаюз павінен здаць дзяржаве і 18 тон — сухіх. З сухімі грыбамі справы крыху лепшыя: да планавага задання не хапае ўсяго пяць тон, а як сведчыць вопыт, то паступаюць ад насельніцтва яны на працягу ўсёй восені. А салёна-марынаваныя? Тут на заўтрашні дзень спадзявацца не трэба.

...Восеньскае надвор'е асабліва капрызнае, з характарам. Толькі свяціла сонца, хоць і слабавата, а ўсё ж саграваала зямлю сваімі праменнямі, і раптам наплылі на лес аблачыны, адгарадзілі вяршаліны дрэў ад сонца, нізка прайшліся пад імі кудысьці на поўдзень. Лёгкі ветрык устрывожыў лісце, яно зашапацела, разгаманілася. Адразу пацямнела ў лесе, зрабілася сумна, журботна. Быў пасляабедзенны час, а здавалася, што збіраецца на вечар. Ды, мусіць, чаго не ўбачыш, як падкрадзецца шэры змрок, уладарна ступіць на зямлю. Усё ж кароткія цяпер дні. Толькі прыехалі ў лес, а пара збірацца назад, каб не запазніцца, хоць прыцемкам дачакацца цеплавоза. Грыбоў я сабраў поўнае вядзерца, хаця за іншым прыехаў у лес пад Церуху. Карцела сваімі вачамі ўбачыць, як расце

бяссмертнік, ці ёсць чабор, што трымае на сваім голлі-руках прыгажуня-рабіна... У аблспажыўсаюзе заклапочаны, і не без падстаў, што пахваліцца лес у гэтым годзе той дзікарастучай прадукцыяй не зможа. «І бяссмертнік, і чабор выгаралі сёлета»,— казалі нам. А рабіна радавала вока. Толькі не дакранайся да дрэва — заляпаюць па траве чырвоныя ягады, усеюць імі палянку. Рана пачала асыпацца рабіна. Паспела хутка, як не кожны год.

Давайце будзем смялей называць лес цэхам. І няхай будуць у ім свае тэхнолагі. Тэхнолагі не па вырошчванні прадукцыі —прырода адмыслова, па-гаспадарску клапоціцца аб гэтым сама, за што тысячу разоў варта сказаць ёй дзякуй, а тэхнолагі па ўмелым выкарыстанні гатовай прадукцыі, але пакуль што не сабранай.

Тамара Шамяткова заўважыла, што гамяльчанін Іван Ігнатавіч Сячко змайстраваў несамавітае, але каштоўнае прыстасаване для збору рабіны, якое было ўхвалена на нарадзе нарыхтоўшчыкаў. А калі б не дадумаўся да таго прыстасавання такі чалавек-непаседа, як пенсіянер Сячко, то хто б пачаў ламаць галаву, як лепш за ўсё зняць з дрэва чырвоныя рабінавыя гронкі?

Лясны цэх... Якія ж усё-такі людзі працуюць у ім? Якімі шляхамі-каляінамі прыходзяць яны да свайго прызвання?

...У хаце Галонскіх заўсёды ўтульна, светла, чыста, хоць, здавалася б, калі ёй, Марыі Антонаўне, сачыць за тым парадкам. Не зачыняюцца, колькі помняць вяскоўцы, дзверы ў гэтых шчырых гаспадароў. Хто грыбы нясе, хто ягады. Ледзь пераступяць парог: «Прымай, Антонаўна, грыбочкі. Глянь, якія ладныя. Шкада здаваць: так і дзівіўся б. Вачэй не адарваць». Пра журавіны скажуць больш стрымана: «На ўзбалотку бы нехта са жмені сыпануў». Ёсць, ёсць ягада. Даецца толькі яна не надта лёгка. Ведама ж, нехта пра яе і загадку прыдумаў — маленькая, чырвоненькая, а моц вялікую мае — чалавека да зямлі нахіляцца вымушае. Правільная загадка.

Марыя Антонаўна прымае ў сваіх землякоў грыбы і ягады, дзякуе.

...Галонская рыхтавалася сустракаць гасцей. Хведар, мужык яе, быў на працы ў калгасе «Чырвоная Дуброва», а яна корпалася патроху ў хаціне: дзеці абяцаліся прыехаць, трэба прыбрацца.

Успамінаюць старэйшыя прыгожых і дужых дзяцей Галонскіх, якімі тыя ў маленстве былі. Спрытныя, увішныя, бы птахі. Хто раней іх, бывала, за першым грыбам роснай ранічкай у лес паспее? Прыпамінаюць аднавяскоўцы, а самі ў бок Марыі Антонаўны ківаюць: яна, маці, прывучыла дзяцей да лесу.

Ужо вось тры дзесяцігоддзі гэтая жанчына загадвае ў Сярэдніх Печах, звычайнай палескай вёсцы ў Лельчыцкім раёне, грыбаварным пунктам. Наўрад хто з яе паплечнікаў можа пахваліцца такім працоўным стажам.

На адным тыдні сабраліся дзеці. Весялосць у доме, смех, гоман, нібы ў тыя часіны, як малымі былі яны. Сядзелі за сталом, аб чым толькі не размаўлялі, а Марыя Антонаўна слухала родныя галасы, не ўтрымалася, сказала:

— Грыбочкі пайшлі, дзеткі. Заўтра трэба ў лес наведацца. Паможаце мне? Калі ж час гарачы на сяле: і касіць наспела па другім заходзе, і гароды не адпускаюць людзей.

— Дай, Марыя, адпачыць хоць дзецям,— заступіўся было Хведар.— Гасцяваць прыехалі, а ты ім кошыкі ды вёдры ў рукі...

— Чаму ж, тата, у грыбы абавязкова пойдзем,— падаў голас Міколка.— Лепшага адпачынку і прыдумаць нельга. Пойдзем, пойдзем, мама.

— Так яна і дасць адпачыць,— зноўку азваўся бацька.— Яна любога захамутае. Нафтавікоў і тых да рук прыбрала. Нечага, кажа, сядзець тарчма ў лесе, камароў карміць. Пакуль вашы тыя трубы падвязуць, бярыце кошыкі ды грыбы збірайце.

— А хіба не так? — зіркнула на Хведара гаспадыня.— Правільна зрабіла. Сядзяць людзі дзень, другі, усё чакаюць і чакаюць машыну, калі ж за гэты час можна было паўтоны грыбоў сабраць. Не лапатай таксама грошы грабуць. Спатрэбіцца капейка. І канчаюць работку сваю раненька, ёсць калі па лесе патупаць.

Цудоўная жанчына Марыя Антонаўна, непаседлівая, неўгамонная. І хоць лічыцца яна грыбаварам-нарыхтоўшчыкам, аднак зайдзіце ў яе хату, надзівіцеся, чым яна займаецца. Нават грушы сушыць. Арганізавала і іх прыёмку.

— Хто ж ад грушавага кампоту адмовіцца? — кажа не без гонару за справу, якую робіць.— Не, кампот з груш — смачнейшага і сама не піла. Асабліва з дзічак. Лясных.

А ўзімку, калі завіхураць снежныя завеі на Палессі, Галонская таксама не сядзіць без занятку: збірае ў насельніцтва другасную сыравіну. Ды не проста збірае, каб паказаць, што працуе, недарма грошы атрымлівае, а па ўсіх паказчыках у вобласці наперадзе. З пяці вёсак, што абляпілі з усіх бакоў яе Сярэднія Печы, спяшаюцца ў хату Марыі Антонаўны людзі. Пасядзяць, пагамоняць, чаю з дарогі пап'юць. А гаспадыня — не-не ды ў размове не праміне пра лета сказаць. Ці будзе, цікавіцца яе, ураджай на грыбы ды ягады. Хочацца пачуць, што на гэты конт думае іншы. Бо жыве чалавек заўтрашнім

днём, жыве лесам, яго багаццем, і бачыцца жанчыне адзін клопат: не спазніцца, паспець...

Сямёра дзяцей выхавала Марыя Антонаўна. Пры доме сёння адна Зойка, васьмікласніца. За працу Галонская ўзнагароджана ордэнам «Знак Пашаны», медалём «За працоўную доблесць», мае багата грамат, падзяк. Толькі не дзеля ўзнагарод стараецца гэты чалавек, не. Яна б паштальёнам працавала альбо прадавала талоны на гарадскі транспарт праз маленькае акенца, думаецца мне, і то рабіла б гэта так, як ніхто, бадай, іншы. Звярнула б на сябе ўвагу і там. Таму што самую звычайную работу выконвае, як самую складаную і патрэбную. Аднолькава.

— А цяпер у нас справы яшчэ лацвей пойдуць,— кажа Марыя Антонаўна.— Вунь магазінчык будуецца. Спецыяльна для нарыхтоўкі ляспых дарункаў. Там і падсобка будзе. Усё як трэба. Папрацую яшчэ, не збіраюся на спачын. Лес хіба адпусціць так? Не-а, урасла ў яго, не адарвеш. Пакуль рухаюся, то і буду старацца.

...Гэтага чалавека ў Гомелі ведаюць многія, хоць і жыве ён тут нядаўна.

Калі я прыехаў да Івана Ігнатавіча Сячко на праспект Кастрычніка, дзе жыве ён у кааператыўнай друхпакаёвай кватэры, і на званок паказаўся ў дзвярах гаспадар, адразу ўспомнілася паездка ў Церуху сонечным чэрвеньскім днём. Якраз паспелі ў лесе суніцы, хіба можна ўседзець дома. Іван Ігнатавіч з усіх пасажыраў, што набіліся ў вагон, нечым прыглянуўся мне. Вакол яго сабралася купка людзей, і ён расказваў пра лекавыя травы.

І вось гэты чалавек прыветна запрашае мяне ў сваю кватэру, і я ведаю цяпер, хто ехаў тады ў адным са мной вагоне...

— Збіраю лекавыя травы, грыбы,— расказвае ён.— Думаеце, за грашамі ганюся? Пенсія ў мяне добрая. А на дваіх з жонкай ці многа нам трэба? Хапае. Проста хочацца і цяпер, калі стаў пенсіянерам, нейкую карысць прыносіць людзям. Я ж сабраныя травы і так, за добрае слова, аддаю.

У падвальным памяшканні, куды спусціліся мы крыху пазней, Іван Ігнатавіч і сапраўды здзівіў мяне размахам сваёй нялёгкай, але патрэбнай працы. Там пахла лесам і лугам. На спецыяльных прыстасаваннях — стэлажах, доўгіх і шырокіх, перацягнутых марляй, сушылася лісце трыпутніку, крываўніку, корань дуброўкі, тут жа і сушаніца балотная, і пупышка бярозавая, і падбел... Успомнілася, як у аблспажыўсаюзе занальны таваразнаўца Еўдакія Георгіеўна Котава сказала, што ўжо сёлета Сячко здаў 210 кілаграмаў розных грыбоў, у

тым ліку значную колькасць у сухім выглядзе, а таксама 220 кілаграмаў сухой лекавай травы.

— Раяць спецыялісты на марлі сушыць, тады якасць не губляецца,— Іван Ігнатавіч пакратаў рукамі, бы папраўляючы, вялікія самаробныя стэлажы, якія, нібы арэлі, злёгку пагойдваліся на падвязках. Памаўчаў, нешта ўспомніў, відаць, падзяліўся думкай:

— У нас на базары прадаўцоў... І бабкі, і дзядулі, і маладзейшыя. Купляюць людзі. Попыт на травы вялікі. А чаму гандляры не здаюць дзяржаве травы? На базары нявопытнаму чалавеку што хочаш можна прадаць. А нарыхтоўшчык абавязкова вызначыць, калі сарвана тая ці іншая расліна. Не ў свой час, то і верне. Бо то ўжо будзе не лекавая трава, а звычайная. Я супраць такіх гандляроў пісаў у газету. Надрукавалі. А яны па-ранейшаму збіваюць людзей з панталыку. Не ўсе, вядома, але сярод сумленных людзей уціраюцца аматары лёгкай нажывы. Падумаць толькі, якую шкоду прыносяць яны чалавеку. Той спадзяецца паправіць здароўе, п'е траву, а з яе карысці — ні кроплі.

Вечар быў ціхі, для восені — цёплы, пагодлівы. Мы сядзелі з Іванам Ігнатавічам на лаўцы перад пад'ездам. Ён расказваў... Неяк Сячко забег у аблспажыўсаюз, зазірнуў у кабінет тагачаснага намесніка старшыні Сцяпана Іванавіча Качуры. Той сядзеў за сталом не адзін, але, як толькі ўбачыў госця, узняўся, працягнуў руку.

— Доўга жыць будзеш, Ігнатавіч. Толькі пра цябе ўспомнілі, а ты тут як тут. Твая дапамога патрэбна. Скардзяцца нарыхтоўшчыкі нашага раёна, што перавяліся страчкі і смаржкі. Няўжо сапраўды няма?

Сячко ўсміхнуўся, пахітаў галавой:

— Цяпер, увесну, толькі і збіраць тыя грыбы. На вочы адразу яны не лезуць, вядома, а калі пашукаеш, то знойдзеш.

— Тады, ведаеш, што мы зробім? — прамовіў Качура.— Заўтра ў нас нарада. Усе нарыхтоўшчыкі збяруцца. Трэба ім наглядна, як кажуць, прадэманстраваць, што ты не на Месяц па страчкі ды смаржкі лётаў на касмічным караблі, а прывёз іх з нашага лесу. Зразумеў?

...Аброшаны, стомлены пераступіў Іван Ігнатавіч парог залы, у якой праходзіла нарада, паставіў за дзвярыма кошык, з якога выглядвалі рудаватыя галоўкі грыбоў, зняў борэт, выцер рукой узмакрэлы лоб і толькі тады спытаўся:

— Можна?

— Чакаем, чакаем, паважаны Іван Ігнатавич,— ступіў да кошыка Качура.— Няйначай грыбы? Глядзі ты, страчкі!

Качура ўзпяў кошык, паказаў першыя вясновыя грыбы нарыхтоўшчыкам, не без іроніі заўважыў:

— З Месяца чалавек даставіў нам. А, бач, акурат як і нашы, з-пад гомельскіх лясоў.

Вось такі ён, сціплы працаўнік ляснога цэха, яго радавы рабочы. Цікавы, просты, шчыры чалавек Іван Ігнатавіч Сячко. Дарэчы, на другі дзень пасля нашай сустрэчы ён пазваніў мне і сказаў у трубку бадзёрым голасам:

— Забягаў ранічкай у аблспажыўсаюз. Цікавая размова ў нас з Тамарай Міхайлаўнай Шамятковай і Еўдакіяй Георгіеўнай Котавай атрымалася. Вырашылі ў горадзе выстаўку лекавых траў зрабіць. Няхай ведаюць людзі, што трэба збіраць... Спадабаецца ідэя? Я ў лес бягу. Заходзьце вечарком, больш падрабязна пагутарым...

## З М Е С Т



Месца выхаду: Мінск
Дата выхаду: 1988
Рэдактар М.Герчык
Выдавецтва “Мастацкая літаратура”
Памеры: 209 с.

Асобнае месца ў кнізе-дзённіку Васіля Ткачова займае нарыс “Шчасця табе, дом!” (Блакнот Чанорнобыльскай бяды). Усхвалявана расказвае аўтар пра сустрэчу з бацькамі героя-пажарнага Васіля Ігнаценкі, які загінуў, але да канца выканаў свой абавязак перад Радзімай.

Глыбокая зацікаўленасць да вострых праблем сучаснасці – вось галоўае, што вызначае гэту кнігу.